**Зянон Пазьняк, Павел Усаў, Сяргей Папкоў**
**Юры Беленькі, Павел Міраловіч, Лявон Баршчэўскі**
**Юры Цехановіч, Мікалай Крыжаноўскі**

# НАРОДНАЯ ПРАГРАМА “ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ”

**Гэта праект новай Беларусі**

Варшава – Нью-Ёрк – Менск,
„Беларускія Ведамасьці”
2017 г.

Народная Праграма Вольная Беларусь – гэта праект новай Беларусі.
Распрацавана салідарным калектывам палітыкаў і спэцыялістаў
дзеля вольнай прышласьці краіны, для выкарыстаньня
будучым Тымчасовым ці Пераходным Урадам дзяржавы альбо іншым
палітычным утварэньнем, якое пасьля ліквідацыі антынароднага рэжыму
возьме на сябе адказнасьць за лёс і будучыню Рэспублікі Беларусь.

Над Праграмай працавалі:
– ***Зянон Пазьняк*** – (кіраўнік калектыву аўтараў) – доктар мастацтвазнаўства,
дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га скліканьня, старшыня парл. апазыцыі.
– ***Павел Усаў*** – доктар паліталёгіі.
– ***Сяргей Папкоў*** – дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га скліканьня.
– ***Юры Беленькі*** – дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га скліканьня.
– ***Павел Мірановіч*** – эканаміст.
– ***Лявон Баршчэўскі*** – доктар філалёгіі, дэпутат
Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га скліканьня.
– ***Юры Цехановіч*** – доктар сельскагаспадарчых навук.
– ***Мікалай Крыжаноўскі*** – дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га скліканьня.
– ***Анатоль Горскі*** – эканаміст, фінансіст (дарадца і кансультант).

Улічаны прапановы па тэме: Віталя Зайкі (магіст. інфармацыйных навук), Ганны Сурмач (гісторык),
Дзімітрыя Шчыгельскага (лекар-псіхіатр) Анупрэя Рамановіча (настаўнік) і інш.

*Варшава—Нью-Ёрк—Менск, 25 сакавік 2017 г.*

ISBN 978-83-935476-7-8

# З Ь М Е С Т

*Уступны арт.*
*Падрыхтаваў: З.Пазьняк*

# УСТУПНЫ АРТЫКУЛ ДА ПРАГРАМНАГА ТЭКСТУ

*Народная Праграма «Вольная Беларусь» пачынаецца з* ***Уступу –*** *уводны матар'ял у форме аналітычнага артыкула для інфармацыі і разважаньняў. Другая (асноўная) частка – гэта* ***Праграма*** *дзяржаўнага станаўленьня і перамен; складаецца з чатырох разьдзелаў. Тут дэфінітыўны тэкст напісаны ў форме заканадаўчых прапаноў і тлумачэньняў.* ***Заключны артыкул*** *зьяўляецца факультатыўным* ***дадаткам*** *да Праграмы. Тут у тэзіснай форме гаворыцца аб агульных пазыцыях і каштоўнасьцях, неабходных для будучага нацыянальнага разьвіцьця краіны.*

## Беларусь – выклікі часу

За 22 з паловай гады, у выніку дзеяньняў недэмакратычнага, аўтарытарнага рэжыму ўлады, у выніку працягу ягонай палітыкі прамаскоўскай унутранай акупацыі і русіфікацыі, у Беларусі былі абніжаны этнічныя, духоўныя, культурныя і інтэлектуальныя асновы нацыі.

Узровень грамадзтва шмат у чым застаўся ў 20-м стагодзьдзі. Сельская гаспадарка – калгасная, эканоміка – стратная, тэхналягічна састарэлая, спынілася на савецкім узроўні.

Гэта было зроблена антынародным рэжымам найперш шляхам ліквідацыі нацыянальнай адукацыі на беларускай мове, мэтанакіраваным абніжэньнем узроўню адукацыі, праграмаў навучаньня і выкладаньня з арыентацыяй на ўчарашні дзень індустрыяльнага грамадзтва і адсталыя дачыненьні. Зацьверджана сістэма адукацыі, якая прынцыпова не адпавядае вымогам грамадзтва 21-га стагодзьдзя.

Быў узяты курс на інтэлектуальную адсталасьць, адбылося зьмяншэньне гуманітарных навук і якасьці гуманітарнага навучаньня, пачалося згортваньне фундамэнтальнай навукі. Назіраюцца праявы вымушанай стагнацыі і грамадзкага упадку.

*Прыкметы агульнага ўпадку:*

а). Пануе палітычная бязграматнасьць і палітычная непісьменнасьць насельніцтва (якім лёгка маніпуляваць);

***Заўвага:*** Тэндэнцыя зьніжэньня ўзроўню агульнай адукаванасьці насельніцтва існуе цяпер ва ўсім заходнім сьвеце. Але ў падрэжымнай Беларусі гэта вынік сьвядамай антынацыянальнай палітыкі ўладнага рэжыму;

б). Панаваньне несправядлівасьці паралізуе ў людзей волю да супраціўленьня. Задушаныя надзеі і ідэалы;

в). Не зьяўляюцца больш у грамадзтве нацыянальныя мудрацы і аўтарытэты, вялікія паэты і пісьменьнікі – сумленьне і розум нацыі, якія былі нават за савецкай акупацыяй. Вялікія людзі 60-х адышлі, і засталася пустка. Няма больш такіх асобаў. Не запатрабаваныя. Не вырастаюць;

г). Зьнешняя ацэнка нацыі з боку іншых народаў такая: беларусы ня любяць сваю краіну; не гавораць на сваёй мове.

Усё гэта – парадыгма нацыянальнага выміраньня і сьмерці. Яна ня ёсьць, аднак, абсалютнай, не зьяўляецца цалкам іманэнтным працэсам. Гэта зьява тыповая, калі яна бывае інсьпіраваная зьнешнімі чыньнікамі чужой палітыкі абмежаваньня і прымусу з зададзенымі мэтамі.

Такая зьнешняя акалічнасьць (акалічнасьць задушэньня і ўціску) ёсьць найважнейшым чыньнікам, які трэба ўлічваць пры любым аналізе. Інакш высновы будуць памылковымі альбо антынацыянальна-прапагандысцкімі (гэта калі чыньнік чужой палітыкі не заўважаецца наўмысна);

д). У краіне разбурана прыватная ўласнасьць на зямлю, што існавала стагодзьдзямі пры пры Вялікім Княстве Літоўскім (ВКЛ) і была ўгрунтаваная на законах. На сёньняшні дзень беларускі чалавек рэальна адлучаны ад зямлі і ад сродкаў вытворчасьці;*

*__*Заўвага:*__ Пытаньне ўласнасьці на зямлю ёсьць надзвычай важным пытаньнем для нацыі, таму што зямлю, у адрозьненьне ад капіталу, сродкаў вытворчасьці, працоўных, прафесійных навыкаў, таленту немагчыма вывезьці ў іншае месца (за мяжу). Зямля – гэта вечная нерухомасьць. Гэта ўласнасьць, якая прывязвае чалавека да Радзімы і захоўвае **пастаяннае насельніцтва** – асяродзьдзе, у якім жывуць традыцыі культуры;

е). Беларускае грамадзтва рэальна адлучана ад выбару ўлады і ад кантролю над дзяржаўнай уладай (бо ўся выбарчая сістэма прыватызаваная антынародным рэжымам і знаходзіцца пад аднаасобным кантролем дыктатуры).

У выніку нацыя адмежавана ад палітыкі і ад уплыву на сваю будучыню, якая праектуецца ў такім выпадку чужымі сіламі.

ж). У Беларусі мэтанакіравана пакінута неканкурэнтная ў сучасны момант эканоміка ўчарашняга дня індустрыяльнага грамадзтва, планаваная з дзяржаўнага бюджэту і кантраляваная ўладным рэжымам. Энэргетычнае забесьпячэньне эканомікі штучна прывязана толькі да рэсурсаў чужой дзяржавы (Расеі);

з). Спынена разьвіцьцё энэргетыкі на ўнутраных магчымасьцях краіны (якія здольныя даваць поўнае забесьпячэньне энэргетычных патрэбаў Беларусі і прадаваць энэргію на экспарт). Будуецца атамная электрастанцыя паводле праекту і на прынцыпах учарашняга дня, на чужым паліве, на чужой абслузе і на чужых крэдытах, палова энэргіі якой будзе забірацца чужой краінай (Расеяй). Пры гэтым АЭС, практычна, для Беларусі непатрэбная, стратная і экалягічна небясьпечная. Гэта тыповы прыклад нерэнтабельнага і шкоднага будаўніцтва.

і). Структура газапровадаў і прадуктапровадаў захоплена чужой дзяржавай (Расеяй) пры спрыяньні рэжыму Лукашэнкі. Тое ж адносіцца і да ваенных аэрадромаў (куды перакінутыя расейскія ваенныя самалёты), і да расейскіх вайсковых базаў. Ні за базы, ні за зямлю пад газапровадамі, ні за карыстаньне сістэмай прадуктапровадаў, ні за транспартны транзыт Расея ня плоціць Беларусі. Краіна нясе велізарныя страты. Маскоўская прапаганда бясконца паўтарае, што Расея падтрымлівае Беларусь праз сістэму крэдытаў і зьніжэньня цаны на нафту, але пры гэтым яна пастаянна патрабуе палітычных саступак і абмежаваньня эканамічнага і палітычнага сувэрэнітэту Беларусі.

к). Ліквідавана мяжа Беларусі з Расеяй;

л). Беларусь (насуперак Канстытуцыі, законам і волі народа) уцягнута ў ваенныя дамовы і блёкі з Расеяй, у Мытны саюз і ў эканамічныя структуры, нявыгадныя беларускім нацыянальным інтарэсам;

м). Адсутнасьць мяжы з агрэсіўнай краінай, прысутнасьць чужых вайсковых аб’ектаў на тэрыторыі Беларусі плюс штучна створаная рэсурсная залежнасьць ад нафты і газу з Расеі сьведчыць, што

Беларусь у выніку палітыкі антыбеларускай улады страціла ў палітычным сэнсе вялікую частку свайго сувэрэнітэту.

Так у цэлым выглядаюць агульная карціна і вынікі нацыянальнага вынішчэньня за 22 з паловай гады антыбеларускага, залежнага ад Расеі рэжыму.

## Што неабходна

Погляд на 22-гадовае разбурэньне нацыі, асабліва з улікам таго, што ўсё працягваецца, можа выклікаць у людзей, якія разьбіраюцца ў працэсах, стан глыбокай трывогі. Але яшчэ ёсьць магчымасьць зьмяніць становішча, бо ў любых абставінах існуе пляцоўка для змаганьня і магчымасьць перамогі.

Важна вызначыць прыярытэты і парадак ажыцьцяўленьня задач.

Самыя цяжкія страты, якія панесла нацыя за 22 з паловай гады рэжыму, – гэта абніжэньне адукацыйнага і інтэлектуальнага ўзроўню людзей, заўважнае неаднаўленьне нацыянальнай эліты, культурных і духоўных аўтарытэтаў грамадзтва, палітычная бязграматнасьць, зьніжэньне волі да барацьбы, зьніжэньне патрэбнасьці свабоды, нізкі ўзровень патрыятызму, нацыянальнай сьведамасьці і гонару. Гэта ўсё складнікі, якіх у грамадзтве ўжо адчувальна не хапае і якія неабходныя для ліквідацыі антынароднага рэжыму і ўсталяваньня нацыянальнай улады.

**Без ліквідацыі аўтарытарнага, залежнага ад Масквы рэжыму ніякія іншыя праблемы вырашыць немагчыма.** Не існуе і (што найважней) ня можа быць абставінаў, калі трэба падтрымліваць антыбеларускі рэжым. Гэта прынцыповае палажэньне для перамогі і свабоды.

**Прыярытэтам ёсьць пазбаўленьне ад антынацыянальнай улады.** Дзеля гэтага павінны быць Нацыянальная ідэя і людзі Ідэі, здольныя арганізавацца дзеля барацьбы.

Наступнае – павінна існаваць актыўнае асяродзьдзе падтрымкі. Калі яго няма, то трэба яго ствараць. Без асяродзьдзя падтрымкі эфэктыўнае змаганьне немагчымае. Таму **нацыянальная асьвета грамадзтва ёсьць абавязковай ўмовай змаганьня.** Асьвета мусіць адбывацца ўвесь час, пакуль ні дасьць грамадзкага выніку і ні зьявіцца гатоўнасьць людзей змагацца і падтрымліваць змаганьне за свабоду.

Усе іншыя схемы ва ўмовах антыбеларускага рэжыму будуць альбо абстрактным папулізмам і ў сапраўднасьці падпяваньнем рэжыму (напрыклад, хаджэньне на фальшывыя выбары), альбо варожай прапагандай. Наяўнасьць у грамадзтве **групаў падтрымкі беларускага Адраджэньня** дасьць магчымасьць распачаць рэальнае нацыянальнае змаганьне за вольную Беларусь і свабоду.

Нацыянальная ідэя мусіць мець **каардынуючую арганізацыйную структуру.** Групы падтрымкі і грамадзтва павінны быць праінфармаваныя пра планы і праекты ўладкаваньня ўлады, працы, культуры і эканомікі ў будучай вольнай Беларусі.

# НАРОДНАЯ ПРАГРАМА «ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ»

## Матывацыя

Народная Праграма – гэта прапанова ў агульны план новай вольнай Беларусі, той Беларусі, якая павінна быць пасьля ліквідацыі антыбеларускага рэжыму.

Беларусы павінны ведаць, да чаго імкнуцца, што і як трэба рабіць. Перамены, якія адбудуцца, не павінны застаць грамадзтва непадрыхтаваным. Наш нацыянальны ідэал – вольная незалежная дэмакратычная дзяржава Беларусь з разьвітай сучаснай навукай, эканомікай, высокай адроджанай нацыянальнай культурай, вольнай адукаванай культурнай асобай і шчасьлівымі людзьмі.

Наша новая вольная Беларусь – гэта частка агульнай дэмакратычнай Эўропы, дзяржава новай Усходнеэўрапейскай цывілізацыі, сяброўскімі партнёрамі якой зьяўляюцца вольная Украіна, дэмакратычная Польшча, краіны Прыбалтыкі.

Народная Праграма прапануе сістэму палітычных, эканамічных і культурных дачыненьняў, на якіх можа грунтавацца наша вольная дзяржава. Гэта ня ёсьць канстытуцыя, хоць матар'ял Праграмы падаецца ў канстытуцыйнай заканадаўчай форме. Тут няма дэталёвай распрацоўкі тэмаў у стандартных палажэньнях, бо няма патрэбы пераказваць агульныя месцы, якія маюць унівэрсальны характар. Праграма акцэнтавана на называньні ключавых прынцыповых падыходаў, якія вызначаюць узровень і якасьць грамадзкіх дачыненьняў і характар дзяржаўнай улады.

Народная Праграма Вольная Беларусь – гэта тое, што мы хочам, каб было, гэта тое, што можа і павінна быць.

Праграма адлюстроўвае тыя крокі, якія неабходна рабіць у пераходны пэрыяд пасьля зьмены рэжыму. Такі падыход прапануецца перш за ўсё таму, што сітуацыя будзе заставацца пэўны час непрадказальнай і можа разьвівацца ў розных накірунках з рознымі вынікамі. Трэба мець упарадкаванае разуменьне задач, каб дасягнуць станоўчага разьвіцьця.

Праграмныя палажэньні, якія тут прапанаваныя, неабходныя дзеля станаўленьня новай вольнай самадастатковай і дэмакратычнай Беларусі. Станоўчыя вынікі праграмных рэформаў будуць адчувацца адразу і ўдасканальвацца з кожным годам. Ужо праз пяць гадоў Беларусь непазнавальна зьменіцца да лепшага. Праз дзесяць гадоў гэта будзе моцная заможная і вольная ўсходнеэўрапейская краіна, з шчасьлівым вольным працавітым насельніцтвам, прыкладна ў дзесяць з паловай мільёнаў радасных пазытыўных людзей, якія, як некалі, будуць усьміхацца адно аднаму.

*Разьдзел падрыхтавалі*
*З.Пазьняк, П.Усаў*

# І. ПАЛІТЫЧНАЯ СІСТЭМА

## 0. Пераходны пэрыяд

Ужо дваццаць два з паловай гады Беларусь існуе пад рэжымам, які падтрымлівае Масква, і які праводзіць антынацыянальную прарасейскую палітыку ўнутранай акупацыі. Становішча, якое склалася ў Беларусі, з усёй відавочнасьцю даводзіць, што сістэма выканаўчай прэзыдэнцкай улады фармальна спрыяе жывучасьці дыктатуры і ўтварэньню рэжымнага тупіка.

Удзел выбарах, якія фальсіфікуюцца антыдэмакратычным рэжымам, бессэнсоўны з прычыны іх абавязковай фальсіфікацыі і няздольнасьці грамадзтва супрацьстаяць гэтай адміністрацыйнай схеме. Акрамя таго, па фармальных умовах грамадзка-палітычныя арганізацыі, фактычна, ня могуць утварыць агульнай выбарчай платформы супраць дыктатуры і мець адзінага кандыдата, бо існуе толькі адна пасада, адзіны шанец і адна вакансія яе заняцьця пры шматлікіх спаборніках. У такіх умовах антырэжымныя сілы, як правіла, не аб’ядноўваюцца. Кансалідаваны фронт, пры адсутнасьці безумоўнай альтэрнатывы, не ствараецца. Усялякую альтэрнатыву ліквідуе рэжым (альбо стварае сваю псэўдаальтэрнатыву). Узьнікае замкнёнае кола аўтарытарнай дыктатуры.

Тым часам выбары ў парлямант (у парляманцкай краіне) ужо паводле самой сваёй прыроды вызначаюць іншую карціну палітычнай барацьбы, якая выяўляе аб’яднаўчыя перадумовы (блёкі, платформы і т. п.). Істотна, што на вынік парляманцкіх выбараў (у адрозьненьне ад прэзыдэнцкіх) цяжка ўзьдзейнічаць вонкавым чужым сілам, гэтак жа як і на працу шматасабовага парляманту.

Улічваючы вышэй пададзеныя палажэньні, шлях перамены ўлады пасьля ліквідацыі рэжыма павінен пачынацца з выбараў у парлямант па адноўленай і скарэктаванай Канстытуцыі 1994 году.

Рэальна ў пераходны пэрыяд адразу пасьля ліквідацыі дыктатуры рэжыму можа быць створаны **Нацыянальны Надзвычайны Камітэт (ННК)**, які на працягу максімум шасьці месяцаў павінен будзе выконваць функцыі ўлады.*

*__*Тлумачэньне.*__ ННК можа мець надзвычайную (міжнародна прызнаваную на шэсьць месяцаў) легітымнасьць, пагрунтаваную на абавязку перамен і стварэньня народнай дэмакратычнай улады ў пераходны ад дыктатуры пэрыяд.

Першым чынам Камітэт аб’явіць дэкрэтам аб ліквідацыі прэзыдэнцкай пасады і Кіраўніцтва справамі прэзыдэнта (адміністрацыі) ды нелегітымных так званых «Палаты прадстаўнікоў» і «Савета рэспублікі». Ліквідуецца рэжымная Цэнтральная выбарчая камісія.

Рашэньнем суду (альбо, пры пэўных абставінах, рашэньнем ННК) адмяняюцца вынікі незаконнага рэфэрэндуму 1995 году, вяртаецца Дзяржаўны Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і гэрб Пагоня. Узбуджаецца справа супраць спраўцаў незаконных рэфэрэндумаў 1995 і 1996 гадоў (якія мелі значэньне дзяржаўнага перавароту).

У адначасьсі адмяняюцца ўсе дэкрэты і законы нелегітымнай антыбеларускай улады, якія прыніжалі чалавечую годнасьць і зьвязвалі ініцыятыву людзей, ліквідуецца інстытут “ідэёлагаў” у дзяржаўнай сістэме, пераглядаецца кантрактная сістэма працаўладкаваньня, аб’яўляецца амністыя для палітычных і часткова эканамічных (фармальна асуджаных за нібыта эканамічныя злвчынствы) вязьняў, рыхтуецца рэформа судовай і адміністрацыйнай сістэмы. Вяртаюцца законы 90-х гадоў аб міліцыі і аб рэлігіі («Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях»), вяртаецца вольны статус Акадэміі Навук. Аднаўляюцца навукова-дасьледчыя гуманітарныя інстытуты, ліквідаваныя рэжымам.

Аднаўляецца свабода друку і слова, спыняецца перасьлед друку па палітычных матывах. Аднаўляецца свабода мітынгаў і дэманстрацыяў. Аднаўляецца беларускае тэле – і радыёвяшчаньне.

Зачыняюцца антыбеларускія, антыдзяржаўныя арганізацыі, арыентаваныя на імпэрскія сілы Расеі і на рэжым Пуціна.

Ліквідуецца рэжымны КГБ і ствараецца часовая (да выбараў парляманту і ўтварэньня ураду) Служба Нацыянальнай Бясьпекі з асаблівымі, дакладна вызначанымі паўнамоцтвамі.

Распараджэньнем Нацыянальнага Надзвычайнага Камітэту адмяняецца і спыняецца будаўніцтва Астравецкай атамнай электрастанцыі. Узбуджаецца крымінальная справа і сьледзтва па афёры Астравецкай АЭС. У выпадку яе запуску, праца небясьпечнай і стратнай для Беларусі ААЭС будзе спынена. Рыхтуецца новая праграма разьвіцьця энэргетыкі.

Пераглядаюцца ўсе міжнародныя антызаконныя дамовы антыбеларускага рэжыму. Рыхтуюцца аналіз і прапановы па дамовах для будучага парляманту і ўраду. Вяртаецца дзяржаўная мяжа, устанаўліваецца памежны і мытны кантроль з Расеяй.

Наступным павінен стацца дэкрэт аб стварэньні **Заканадаўчай Камісіі** па падрыхтоўцы закону аб выбарах на зьмешанай прапарцыйна-мажарытарнай сістэме (палова на палову, 50 адсоткаў на 50). Прымаецца прапарцыйна-мажарытарны закон аб выбарах, дзе прадугледжана новая колькасьць і дзяленьне выбарчых акруг згодна Народнай Праграмы.**

*****<u>Заўвага</u>:*** За аснову павінен быць узяты «прапарцыйна-мажарытарны» закон, распрацаваны Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання ў 1992 годзе. Істотна – закон пра выбары павінен быць падрыхтаваны заранёў і хутка разгледжаны, апрацаваны і прыняты Заканадаўчай Камісіяй.

***<u>Тлумачэньне:</u>*** Правядзеньне выбараў па зьмешанай прапарцыйна-мажарытарнай сістэме абумоўлена становішчам пасьлярэжымнага стану беларускага грамадзтва, дзе палітычны кляс невялікі і вынішчаны рэжымам, ўзровень і вага палітычных партыяў невысокая. Мажарытарная сістэма дасьць магчымасьць вылучыцца недалучаным да партыяў, але разумным і актыўным сілам грамадзтва. Тым часам прапарцыйная сістэма прадстаўніцтва забясьпечыць магчымасьць прысутнасьці ў парляманце існуючым палітычным партыям, цэнз праходу для якіх мусіць быць невысокі (ня больш 4-х адсоткаў галасоў выбаршчыкаў).

Фінансаваньне палітычных партыяў замежнымі арганізацыямі і асобамі забаронена. Палітычныя партыі, якія атрымліваюць грошы і фінансаваньне з-за мяжы, ня маюць права ўдзельнічаць у выбарах.***

******<u>Заўвага:</u>*** (У пэрспэктыве будзе распрацавана і прынята сістэма дзяржаўных датацыяў для партыяў і грамадзкіх арганізацыяў (гл. І-15.5) а таксама абмежаваньне (ліміт) замежнай дапамогі для грамадзкіх арганізацыяў.

Уводзіцца асабовае абмежаваньне (накладзенае судом) на ўдзел у выбарах у якасьці кандыдатаў на карупцыянераў і рэжымную «вертыкальную» намэнклятуру, што ўдзельнічала ў фальсіфікацыі выбараў, праводзіла антыбеларускую палітыку, перасьледвала беларускую культуру і людзей.

Ствараецца **Тымчасовая Выбарчая Камісія** (шляхам прызначэньня і дэлегаваньня ад арганізацыяў). Затым адбываюцца выбары. Неабходная квота ўдзелу выбаршчыкаў у выбарах («фрэквэнцыя») дзеля прызнаньня выбараў за сапраўдныя (якія адбыліся) складае 25 адсоткаў ад усіх грамадзянаў, якія маюць права голасу. Першы пераходны парлямант выбіраецца на тры гады.

Нowaабраны парлямант стварае **Урад, Канстытуцыйную Камісію** і на працягу месяца уносіць неабходныя папраўкі ў Канстытуцыю 1994 году датычна разьдзелу аб прэзыдэнце і іншых частак улады. Пасьля прыняцьця неабходных паправак у разьдзелах аб галінах улады, вяртаецца дзейнасьць дэмакратычнай **Канстытуцыі 1994 году**. Ствараюцца і прымаюцца законы **Аб выбарах прэзыдэнта****** і **Аб выбарах мясцовай улады**.

**** *<u>Заўвага:</u>* У законе Аб выбарах прэзыдэнта павінна быць прадугледжана выключэньне, што ў пераходны пэрыяд з прычыны магчымых непрадбачаных

палітычных ці эканамічных абставінаў першы прэзыдэнт можа быць выбраны парлямантам і тады права роспуску парляманту не распаўсюджваецца на кадэнцыю прэзыдэнта. Гэтую функцыю ў такім выпадку выконвае Канстытуцыйны Суд.

Праз чатыры месяцы пасьля выбараў парляманту і праз тры месяцы пасьля прыняцьця паправак і аднаўленьня дзейнасьці Канстытуцыі 1994 году, праводзяцца выбары **Прэзыдэнта** і палітычная сістэма ўлады набывае форму **парляманцка-прэзыдэнцкай рэспублікі,** дзе ўся выканаўчая ўлада знаходзіцца ў руках Урада, а Прэзыдэнту пакінутыя кантрольна-назіральныя і прадстаўнічыя функцыі, права абмежаванага вэта, права роспуску* Парляманту і тытул Вышэйшай службовай асобы (Галавы) дзяржавы.

***Заўвага.*** Права роспуску парляманту будзе прапісана ў законе. Калі Парлямант ня зможа стварыць Урад і неабходную большасьць у парляманце для прыняцьця рашэньняў (у тым ліку і рашэньня пра самароспуск), тады Прэзыдэнт прымае рашэньне аб роспуску Парляманту і аб новых выбарах. Калі Прэзыдэнт адмовіцца распускаць Парлямант і крызіс заходзіць у тупік, тады вэрдыкт пра роспуск і новыя выбары выносіць Канстытуцыйны Суд і вырашае Крызісная Рада (гл. І-13).

Пасьля выбараў парляманту, сфармаваньня Ураду і выбараў Прэзыдэнта (прыняцьце прысягі Прэзыдэнтам) Нацыянальны Надзвычайны Камітэт і ягоныя структуры спыняюць дзейнасьць і самараспускаюцца.*

***Заўвага:*** У выпадку замежнай ваеннай агрэсіі альбо ўнутранай дыверсіі замежных краінаў і перашкоды ў правядзеньні выбараў парляманту, ННК аб'яўляе надзвычайнае ці ваеннае становішча і арганізуе абарону краіны.

Урад ствараецца на аснове партыйнай альбо кааліцыйнай большасьці ў Парляманце. Аднак членамі Ураду (у тым ліку і віцэ-прэм'ерамі) могуць быць і не дэпутаты. Прэм'ера і 1-га Віцэ-прэм'ера выбіраюць толькі з дэпутатаў парляманту. Прэм'ер прапануе віцэ-прэм'ераў і міністраў, а парлямант іх зацьвярджае.

Парляманцка-прэзыдэнцкая сістэма ўлады новай вольнай Рэспублікі Беларусі павінна выглядаць наступным чынам.

## 1. Парлямант (Сойм).
### (Заканадаўчая ўлада)

1.1. Парлямант (Сойм) зьяўляецца аднапалатным і складаецца з 360 народных дэпутатаў*, выбіраецца на 5 гадоў, дзейнічае на прафэсійнай аснове, валодае шырокімі паўнамоцтвамі, адзначанымі ў Канстытуцыі 1994 году і ў яе дапоўненым кшталце.

****Заўвага:*** Вяртаньне да большай колькасьці дэпутатаў парляманту (той, якая існавала да 1996 году) прадыктавана неабходнасьцю шырокага народнага прадстаўніцтва, слабасьцю і вынішчэньнем палітычнага клясу за часы аўтарытарнай дыктатуры, велізарнасьцю заканадаўчых задач, якія будуць стаяць перад беларускім народным парлямантам, а таксама імкненьнем зьменшыць магчымасьці замежнага апэратыўнага ўплыву на выбары і дзейнасьць беларускага парляманту (болльшы парлямант – меншы ўплыў). Колькасьць дэпутатаў (360) таксама добра карэлюецца з новым прапанаваным адміністрацыйным падзелам краіны (гл. І,5) і прапарцыйна-мажарытарным заканадаўствам.

1.2. Парлямант (Сойм) прымае Канстытуцыю краіны, законы і пастановы, пры неабходнасьці – дэклярацыі.

1.3. Парлямант (Сэсія Парляманту) выбірае Старшыню (Маршалка) Сойму і двух Віцэ-маршалкаў. Старшыня стварае Сакратарыят Сойму (пратакольны, юрыдычны, фінансавы, тэхнічна-інфармацыйны і іншыя адздзелы абслугі Сойму), які зацьвярджаецца парлямантам. Парлямант зацьвярджае фракцыі Сойму, дэпутацкія клубы, камісіі і групы, прымае Рэглямант (закон) працы Сойму.

1.4. Парлямант выбірае Прэм’ер-міністра і 1-га Віцэ-прэм“ера з асяродзьдзя дэпутатаў Парляманту, зацьвярджае Віцэ-прэм’ераў і міністраў па прадстаўленьні Прэм’ера. Галасаваньне па складзе Ураду адбываецца простай большасцю галасоў.

1.5. У непасрэдным падпарадкаваньні Парляманту знаходзіцца Служба Нацыянальнай Бясьпекі Рэспублікі Беларусь (на правах Міністэрства).

1.6. Парлямант утварае Цэнтральную Камісію па Выбарах і правядзеньні агульнадзяржаўных рэфэрэндумаў.

1.7. Парлямант выбірае Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Суд, Вышэйшы гаспадарча-маёмасны суд, Старшыню Вышэйшага Крымінальнага Суду Прысяжных. Генэральнага Пракурора Рэспублікі Беларусь, Старшыню і Раду Кантрольнай Палаты Рэспублікі Беларусь, Старшыню і членаў Праўленьня Нацыянальнага Банка Рэспублікі Беларусь.

1.8. Выбары ў парлямант на два першыя тэрміны адбываюцца па зьмешанай прапарцыйна-мажарытарнай сістэме. Пасьля двух тэрмінаў у разе патрэбы магчымыя будуць зьмены закону аб выбарах у парлямант.

1.9. Парлямант прымае закон аб статусе народнага дэпутата. Парлямант працуе паводле Рэгляманту, які зьяўляецца законам для дэпутатаў.

1.10. Народны дэпутат валодае шырокімі паўнамоцтвамі, недатыкальнасьцю, дэпутацкім імунітэтам, мае свой офіс і службовы штат у сваёй выбарчай акрузе, даведачную бібліятэку, у выпадку патрэбы забясьпечваецца службовым індывідуальным транспартам, валодае тэхнічнымі і электроннымі сродкамі сувязі, бясплатным праездам па ўсёй краіне на ўсіх відах ттранспарту акрамя індывідуальнага таксі.

1.11. У выпадку парушэньня закону службовымі асобамі, паліцыяй, грамадзянамі, дэпутат патрабуе неадкладнага выкананьня закону і спыненьня беззаконьня. У выпадку непадпарадкаваньня, дэпутат робіць прадстаўленьне ў дзяржаўныя структуры, паліцыю, пракуратуру, альбо Камісію Парляманту і Урад. Прадстаўленьне дэпутата мусіць быць разгледжана неадкладна. У абавязковым парадку прымаюцца захады па сутнасьці звароту дэпутата.

1.12. Калі дэпутат зьдзейсьніў эканамічнае, адміністрацыйнае альбо крымінальнае парушэньне закону, паводзіны яго разглядае спэцыяльная камісія Парляманту на прадмет пазбаўленьня дэпутата імунітэту. Рашэньне Камісіі зацьвярджае Сэсія Парляманту.

1.13. Дэпутат Парляманту ня можа быць арыштаваны, прыцягнуты да крымінальнай, адміністрацыйнай адказнасьці, пазбаўлены асабістай свабоды бяз згоды Парляманту, акрамя выпадкаў затрыманьня на месцы ўчыненьня крымінальнага злачынства.

1.14. Крымінальная справа супраць народнага дэпутата можа быць узбуджана Генэральным Пракурорам са згоды Парляманту.*

***Заўвага**.* Канцэпцыя народнай улады вымагае ўзмацненьня ролі парляманту і народнага дэпутата.

1.15. У выпадку парляманцкага крызісу і немагчымасьці стварыць Урад Парлямант аб’яўляе аб сваім самароспуску і прызначае новыя выбары згодна заканадаўства. Калі Парлямант будзе ня ў стане прыняць рашэньне аб самароспуску і новых выбарах, тады такое рашэньне прымае Прэзыдэнт.

## 2. Рада Міністраў
### (Урад. Выканаўчая ўлада)

2.1. Рада Міністраў зьяўляецца выканаўчай уладай (Урадам) Рэспублікі Беларусь, фармуецца Прэм'ер-Міністрам і зацьвярджаецца Парлямантам.

2.2. У сваёй дзейнасьці Рада Міністраў кіруецца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, законамі і пастановамі, прынятымі Парлямантам.

2.3. Прэм'ер-Міністар Ураду ажыцьцяўляе і арганізуе палітыку дзяржавы, накіраваную на духоўнае, культурнае, матар'яльнае існаваньне, дзейнасьць і разьвіцьцё нацыі, грамадства і грамадзянскай супольнасьці, арганізуе абарону і нацыянальную бясьпеку краіны.

Прэм'ер Ураду ўзначальвае дзяржаўныя дэлегацыі, праводзіць міжнародныя перамовы па пытаньнях палітыкі і эканомікі, падпісвае міжнародныя дамовы і пагадненьні, у выпадку сацыяльных і экалягічных катастроф аб'яўляе надзвычайнае становішча ў дзяржаве, спаўняе функцыі Галоўнакамандуючага ў час ваеннага становішча альбо прызначае іншага Галоўнакамандуючага, якога зацьвярджае парлямант.

У выпадку раптоўнай агрэсіі і нападу Прэм'ер-Міністар неадкладна пачынае выконваць функцыі Галоўнакамандуючага вайсковай абаронай краіны.

2.4. Урад прымае пастановы, рашэньні, распараджэньні, указы, інструкцыі, іншыя дакументы, вызначаныя Парлямантам.

2.5. Урад падсправаздачны Парляманту.

## 3. Прэзыдэнт
### (прадстаўніча-наглядальная ўлада)

3.1. Наяўнасьць народна-выбарнай прэзыдэнцкай пасады ў парляманцкай сістэме, дзе ўсе паўнамоцтвы выканаўчай улады належаць Ураду, сьведчыць пра парляманцка-прэзыдэнцкае ўладкаваньне галінаў улады ў Рэспубліцы Беларусь.

3.2. Рэспубліка Беларусь ёсьць парляманцка-прэзыдэнцкай рэспублікай.

3.3. Прэзыдэнт абіраецца на ўсеагульных выбарах на чатыры гады, можа быць на пасадзе ня больш за два тэрміны.

3.4. Функцыі і паўнамоцтвы Прэзыдэнта сфармуляваныя ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

3.5. Прэзыдэнт мае права «вэта» ў дачыненьні да законаў і пастановаў парляманту, якое можа быць пераадолена новым галасаваньнем у Парляманце канстытуцыйнай большасьцю галасоў (2/3).

3.6. Прэзыдэнт валодае заканадаўчай ініцыятывай, але не выдае ніякіх заканадаўчых актаў; ён можа рабіць звароты і заявы, прымаць дэклярацыі і мэмарандумы. Адзіны заканадаўчы дакумант, які можа выдаць прэзыдэнт, – пастанову аб роспуску парляманту.

3.7. Прэзыдэнт згодна з законам можа ўтвараць фонды падтрымкі культуры, асьветы, адукацыі, экалёгіі, аховы прыроды, сям'і, разьвіцьця навукі і інш.

3.8. Прэзыдэнт мае кантрольна-наглядныя функцыі за галінамі дзяржаўнай і грамадзкай дзейнасьці.

3.9. Прэзыдэнт мае рэзыдэнцыю, канцылярыю, дарадцаў, экспэртаў, тэхнічныя, транспартныя і электронныя сродкі абслугі.

3.10. Прэзыдэнт зьяўляецца Галавой дзяржавы (Вышэйшай службовай асобай), падпісвае вызначаныя Канстытуцыяй міжнародныя пагадненьні, рашэньні аб узнагародах, прыняцьце ў грамадзянства Рэспублікі Беларусь, рашэньні аб амністыі, ажыцьцяўляе памілаваньне асуджаных судом, прымае даверчыя лісты (граматы) амбасадараў іншых краінаў і інш.

3.11. Па даручэньні Парляманту Прэзыдэнт можа ўдзельнічаць у міжнародных перамовах, узначальваць дзяржаўныя дэлегацыі на міжнародных форумах, выступаць там ад імя дзяржавы.

3.12. Паўнамоцтвы Прэзыдэнта вызначаныя Канстытуцыяй і ня могуць быць зьмененыя ні праз рэфэрэндум, ні праз пастанову Парляманту, ні праз іншыя плебесцытныя інстытуты (такія як, напрыклад, пазаканстытуцыйныя сходы і інш.).

3.13. Прэзыдэнт мае права распусьціць Парлямант і прызначыць новыя выбары ў выпадку парляманцкага крызісу, немагчымасьці стварыць Урад і немагчымасьці аб’явіць новыя выбары ў парляманце.

3.14. Прэзыдэнт можа быць падвержаны імпічманту згодна закону.

3.15. Пры спробе рэалізаваць планы па пашырэньні сваіх паўнамоцтваў (праз рэфэрэндум альбо іншым чынам зьмяніць Канстытуцыю), Прэзыдэнт пасьля заключэньня Канстытуцыйнага суду аўтаматычна траціць паўнамоцтвы і адхіляецца ад улады.

3.16. Прэзыдэнт мае свайго пастаяннага прадстаўніка (якога ён прызначае і адклікае) у Радзе бясьпекі Рэспублікі Беларусь. Раду Бясьпекі фармуе Урад і зацьвярджае Парлямант.

3.17. У выпадку вайны Прэзыдэнт як Вышэйшая службовая асоба дзяржавы аб’яўляе ваеннае становішча, якое зацьвярджае Парлямант. Пасьля аб’яўленьня ваеннага становішча Прэм’ер-Міністар прымае на сябе функцыі Галоўнакамандуючага Узброенымі сіламі Рэспублікі Беларусь альбо прызначае іншага Галоўнакамандуючага, якога зацьвярджае парлямант.

## 4. Мясцовая ўлада

4.1. Органы мясцовай улады зьяўляюцца часткай дзяржаўнай сістэмы. Яны выбіраюцца на ўсіх узроўнях і непасрэдна адказныя перад сваімі выбарцамі, фармуюць выканаўчыя камітэты мясцовай улады.

4.2. Напачатку (у першыя кадэнцыі Парляманту і Ураду) кіраўнікоў выканаўчай улады вобласьцяў (ваяводзтваў), раёнаў (паветаў) і гарадоў прызначае Прэм’ер-міністар і зацьвярджаюць мясцовыя Рады дэпутатаў. Потым кіраўнікоў мясцовай выканаўчай улады выбірае насельніцтва і Рады дэпутатаў.

4.3. Органы мясцовай улады маюць функцыі мясцовага самакіраваньня, валодаюць правам на свабодную эканамічную ініцыятыву, пошук інвэстараў і эканамічных партнёраў за мяжой.

4.4. Сума падаткаў і збораў, неабходная для паўнавартаснага функцыянаваньня рэгіёна, застаецца ў рэгіёне дзеля самазабесьпячэньня і разьвіцьця (вызначаецца законам).

4.5. Кіраўніцтва мясцовых ворганаў улады пры наяўнасьці сур'ёзных абвінавачваньняў у злачынных парушэньнях закону (карупцыі і інш.) можа быць арыштавана з ініцыятывы цэнтральных ворганаў улады і аддадзена пад суд.

4.6. Пры сістэматычным парушэньні Канстытуцыі і заканадаўства мясцовая выбарная ўлада можа быць распушчана вышэйстаячай выбарнай уладай па прадстаўленьні Генэральнага Пракурора.

4.7. Ствараецца заканадаўства аб мясцовым самакіраваньні. Мясцовае самакіраваньне ўкараняецца ў сацыяльныя дачыненьні.

4.8. Ствараецца Дзяржаўны Вышэйшы Інстытут дзяржаўнага кіраўніцтва і адміністрацыі (на правах унівэрсітэта), з рэгіянальнымі філіямі.

## 5. Мясцовае самакіраваньне. Адміністратыўна-тэрытарыяльны падзел

5.1. Мясцовае самакіраваньне зьвязанае з дзейнасьцю грамадзянаў, накіраванай на рашэньне справаў мясцовага значэньня: горад, мястэчка, пасёлак, вёска. Мясцовая ўлада – гэта ворганы самакіраваньня (адміністрацыя), якія выбіраюцца мясцовым насельніцтвам для рэалізацыі ўладна-адміністрацыйных функцыяў на лякальным узроўні.

Пад мясцовым самакіраваньнем разумееецца дзейнасьць мясцовых Радаў дэпутатаў (іх выбіраюць грамадзяне згодна закону) і выканаўчыя структуры выбраных Радаў.

Поўнавартаснае функцыянаваньне ворганаў мясцовага самакіраваньня зьяўляецца ключавым элемэнтам, які забясьпечвае стабільнасьць дэмакратычных інстытутаў і сьведчыць пра моцную грамадзянскую супольнасьць.

5.2. Мясцовае самакіраваньне вырашае дзьве асноўныя задачы:

1). Забясьпечвае палітычную дэцэнтралізацыю, што зьмяншае магчымасьці цэнтральнай улады дыктаваць волю і ўмешвацца ў пытаньні мясцовага ўзроўню;

2). Стварае магчымасьці для больш эфэктыўнага і апэратыўнага вырашэньня актуальных праблемаў мясцовага значэньня, а таксама забясьпечвае стабільнае разьвіцьцё рэгіёну ў зялежнасьці ад яго спэцыфікі.

Шырокае разьмеркаваньне ўладна-выканаўчых функцый у мясцовых структурах, спрыяе эфэктыўнаму функцыянаваньню палітычных інстытутаў.

5.3. Функцыі і структура мясцовых ворганаў самакіраваньня залежыць ад адміністратыўна-тэрытарыяльнага дзяленьня Беларусі. На сёньняшні дзень у краіне 6 вобласьцяў, што забясьпечвае моцную цэнтралізацыю і адміністрацыйна-палітычны кантроль над мясцовай уладай з боку цэнтральных ворганаў улады.

Дзеля зьмяншэньня цэнтралізацыі, адміністрацыйнай і бюджэтнай нагрузкі мэтазгодна істотна павялічыць колькасьць вобласьцяў у залежнасьці ад наяўнасьці буйных эканамічных цэнтраў, што будзе спрыяць больш дынамічнаму разьвіцьцю гарадоў, пераразьмеркаваньню адміністрацыйных штатаў і эканамічных рэсурсаў, у тым ліку, людзкіх. За асноўны крытэр "цэнтру прыцягненьня" варта лічыць горад з колькасьцю насельніцтва больш за 60 тысячаў чалавек. Напрыклад да цэнтраў прыцягненьня можна залічыць: Бабруйск, Воршу, Мазыр, Полацк з Наваполацкам, Слуцк, Маладэчна, Баранавічы, Пінск, Барысаў, Ліду і г. д.

5.4. Прапанаваны падзел (дадаецца мапа, гл. Стар. 21):

Мяркуецца стварыць 16 ваяводзтваў* плюс асобную адміністрацыйную адзінку Сталічнае места Менск, каля 60 паветаў, каля 270 староствау.

***Заўвага:*** Адміністрацыйны падзел Беларусі на 16 ваяводзтваў – гэтая прапанова ўжо зроблена іншымі дасьледчыкамі і афармлена на мапе, якая зьмешчана ў

Сеціве, для агульнага агляду. Тут мы падаем гэтую мапу як узорны варыянт. Крыніца: http://www.karty.by/wp-content/uploads/2011/01/belarus_voevodstva_idea.brama_.by-modified.jpg Аўтары мапы не пазначаны. Мы ўдакладнілі гэтую пазыцыю тым, што ўвялі як асобную самастойную адміністрацыйную адзінку «Сталічнае места Менск» і павялічылі Менскае ваяводзтва да тыповых памераў, уключылі ў яго Заслаўе, Смалявічы, Койданаў, Стоўпцы, Узду і Нясьвіж. Цэнтар ваяводзтва **Койданаў** – савецкі Дзяржынск (з пэрспектывай горадабудаўнічага разьвіцьця).

5.5. Структура мясцовых органаў улады.

Тэрытарыяльная структура:

**Самакіраваньне 1-га ўзроўню:**

***Сталічнае места Менск і наступныя ваяводзтвы:***

Гарадзенскае, Берасьцейскае, Пінскае, Баранавіцкае, Лідзкае, Мазырскае, Слуцкае, Менскае (цэнтар – Койданаў, савецкі Дзяржынск), Маладзечанскае, Гомельскае, Бабруйскае, Барысаўскае, Полацкае, Магілёўскае, Аршанскае, Віцебскае.

***СТАЛІЧНАЕ МЕСТА МЕНСК.*** Менск належыць фармальна да Менскага ваяводзтва (цэнтар Койданаў) але валодае асаблівым статусам цалкам самастойнай адміністрацыйнай адзінкі сталічнага горада.

***Кіроўныя органы:***

Менскі Магістрат (былы Менгарсавет) выбіраецца на мясцовых выбарах тэрмінам на 4 гады.

Менскі Магістрат выбірае Старшыню Магістрата і стварае Управу Магістрата (выканаўчы орган). На чале Управы Менскага Магістрата стаіць Магістар, які выбіраецца насельніцтвам на 4 гады на мясцовых выбарах.

***ВАЯВОДЗТВА. Кіроўныя органы:***

Рада Ваяводзтва выбіраецца на агульных выбарах у ваяводзтве на 4 гады. Рада Ваяводзтва выбірае са свайго складу Старшыню Рады, Выканаўчы Камітэт і Ваяводу, які стаіць на чале Выканаўчага камітэту. (Магчыма, што ў пераходны пэрыяд (у першай кадэнцыі) дзеля каардынацыі дзеяньняў цэнтральных і мясцовых органаў улады, а таксама стабілізацыі агульнай сістэмы, можна дапусьціць прызначэньне ваяводаў Прэм’ер-міністрам. Пры гэтым, Выканаўчы камітэт абіраецца сябрамі Рады Ваяводства).

**Самакіраваньне 2-га узроўню:**

**паветы, гарады**

***ПАВЕТ (былы раён). Кіроўныя органы:***

Рада Павету выбіраецца на агульных выбарах павету на 4 гады. Рада Павету абірае са свайго складу Старшыню Рады, Управу павету (выканаўчы орган) і Маршалка павету, які стаіць на чале Управы. (Магчыма, што ў пераходны пэрыяд (у першай кадэнцыі) дзеля каардынацыі дзеяньняў цэнтральных і мясцовых органаў улады, а таксама стабілізацыі агульнай сістэмы, можна дапусьціць прызначэньне маршалкаў Прэм’ер-міністрам. Пры гэтым Выканаўчы камітэт абіраецца сябрамі Рады Павету).

***ГОРАД. Кіроўныя органы:***

Магістрат (былая Гарадская Рада) выбіраецца на мясцовых выбарах тэрмінам на 4 гады. Магістрат выбірае Старшыню Магістрата і стварае Управу Магістрата (выканаўчы орган). На чале Управы Магістрата стаіць Бурмістар, які выбіраецца насельніцтвам на 4 гады на мясцовых выбарах.

Дзеля эфэктыўнага функцыянаваньня буйных гарадоў мэтазгодна павялічыць колькасьць гарадзкіх раёнаў (будзе меншая цэнтралізацыя і лепшае задавальненьне інтарэсаў насельніцтва).

**<u>Самакіраваньне 3-га ўзроўню:</u>**
**старостывы, гарадзкія раёны**

***СТАРОСТВА (былы сельсавет)*. *Кіроўныя ворганы:***
Ствараецца ў мястэчках, пасёлках гарадзкога тыпу, гарадах павятовага падпарадкаваньня, вялікіх вёсках і паселішчах . Кіруецца Радай Старостыва, якая выбіраецца на мясцовых выбарах насельніцтвам дадзенага старостыва на 4 гады. Рада Старостыва выбірае Старшыню Рады і Управу Старостыва (выканаўчы ворган). Управай кіруе Стараста, які выбіраецца выбаршчыкамі Старостыва на мясцовых выбарах.

***ГАРАДЗКІ РАЁН*** кіруецца Раённай Радай, якая выбіраецца на мясцовых выбарах тэрмінам на 4 гады. Раённая Рада выбірае Старшыню Рады і Управу Раёна. Управай Раёна кіруе Старшыня Управы, які выбіраецца непасрэдна грамадзянамі раёну.

**5.6. <u>Функцыі і задачы мясцовага самакіраваньня:</u>**
– аналіз сацыяльна-эканамічных працэсаў на канкрэтнай тэрыторыі;
– Распрацоўка і рэалізацыя канкрэтных дзеяньняў, якія датычаць разьвіцьця і вырашэньня праблемаў азначанай тэрытарыяльнай адзінкі;
– забесьпячэньне аховы грамадзкага парадку, правоў грамадзянаў, прадпрыемстваў, аб’ектаў камунальнай уласнасьці, помнікаў гісторыі і культуры, ахова прыродных аб’ектаў;
– забесьпячэньне і гарантаваньне доступу грамадзянаў да базавай адукацыі і мэдыцынскай абслугі;
– стымуляваньне канкурэнцыі і прадпрыймальніцкай ініцыятывы, прыцягненьне інвэстыцый і развіцьцё тых ці іншых формаў прамысловасьці;
– эфэктыўнае выкарыстаньне камунальнай уласнасьці і прыродных рэсурсаў рэгіёну;
– разьвіцьцё рэгіянальнай інфраструктуры і камунікацый;
– стварэньне Сельскіх Самакіроўных Зямельных Грамадаў;
– актыўны ўдзел у рэалізацыі памежных і транспамежных праектаў з суседнімі дзяржавамі.

**5.7. <u>Мясцовы бюджэт</u>**
Мясцовы бюджэт фармуецца ў адпаведнасьці з заканадаўствам вольнай Рэспублікі Беларусь (гл. II, 3,4).

***<u>Дадатак:</u>*** **Рэфармаваньне адміністрацыйнай структуры (на прыкладзе Магілёўскай вобласьці)**

Галоўнае пытаньне ў сувязі з працэсам рэформы мясцовага самакіраваньня, ці не павялічыць гэта выдаткаў на ўтрыманьне адміністрацыйнага апарату.

Сёньняшняя сістэма мясцовай улады вельмі моцна зьбюракратызаваная: кожны з кіраўнікоў камітэту, упраўленьня мае яшчэ 2 – 3 намесьнікаў.

Адна з галоўных прычынаў такога разгалінаванага апарату – патрэба ва ўсебаковым кантролі за ўсімі сфэрамі жыцьця грамадзтва. Пашырэньне прасторы грамадзкага самакіраваньня зьменшыць патрэбы ў такім разбудаваным бюракратычным апараце.

Паўсюдная ліквідацыя некаторых адзьдзелаў і дэпартамантаў (напрыклад “ідэалягічнай працы”) прывядзе да вызваленьня людзкіх і фінансавых рэсурсаў і іх пераразьмеркаваньня, а таксама да скарачэньня выдаткаў на адміністрацыйныя мэты (заробкі, фінансаваньне дзейнасьці і г.д). Калі зрабіць простыя разьлікі, па штатах ідэалягічнага апарату, то на 6 вобласьцяў прыкладна прыходзіцца 54 працаўнікі (сярэдні заробак 250 – 300 эўра), у год гэта будзе амаль 200 тысячаў эўра. Грошы, якія ўкладаюцца ў абсалютна непатрэбную дзейнасьць. Можна дапусьціць, што апарат мясцовай адміністрацыі можа быць скарочаны на 25-30%.

Як мы бачым з параўнаўчай табліцы, адміністрацыйны апарат у рэгіёнах фактычна сфармаваны, г.зн. пры новым адміністрацыйна – тэрытарыяльным падзеле не давядзецца ствараць новага апарату, што прывяло б да павелічэньня фінансавых выдаткаў. Варта дадаць, што ваяводзтвы будуць меншыя па тэрыторыях і

колькасьці насельніцтва, чым цяперашнія вобласьці, што адпаведна зьмяншае нагрузку на мясцовую адміністрацыю (яна будзе колькасна паменшана). Выдаткі на адміністрацыю і апарат ваяводзтваў павінны быць на 25-30 адсоткаў меншымі, чым выдаткі на адміністрацыю і апарат цяперашніх вобласьцяў. (Трэба ўлічыць, што паветаў будзе па колькасьці ў два разы менш, чым цяперашніх раёнаў).

Напэўна, у абноўленых структурах мясцовай адміністрацыі будуць паяўляцца новыя пасады і дэпартаманты, але гэта не будзе вынікаць з патрэбаў самой адміністрацыі, але з неабходнасьці вырашаць патрэбы грамадзянаў. (Напр., дэпартамант па разьвіцьці і распаўсюджваньні энэргаашчаджальных тэхналёгіяў сярод насельніцтва).

*(Ніжэй гл. табліцу)*

## Сучасная структура мясцовых адміністрацый на прыкладзе Магілёўскай вобласьці

| | Пасада | Вобласьць | Горад | Раён |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Старшыня | Старшыня аблвыканкаму | Старшыня гарвыканкаму | Старшыня райвыканкаму |
| 2 | Першы намесьнік страшыні | Першы намесьнік старшыні | Першы намесьнік старшыні гарвыканкаму | Першы намесьнік старшыні райвыканкаму |
| 3 | Намесьнік старшыні | Намесьнік старшыні аблвыканкаму | Намесьнік старшыні гарвыканкаму | Намесьнік старшыні райвыканкаму |
| 4 | Намесьнік старшыні | Намесьнік старшыні аблвыканкаму | Намесьнік старшыні гарвыканкаму | Намесьнік старшыні райвыканкаму |
| 5 | Намесьнік старшыні | Намесьнік старшыні аблвыканкаму | Намесьнік старшыні гарвыканкаму | Намесьнік старшыні райвыканкаму |
| 6 | Намесьнік старшыні | Намесьнік старшыні аблвыканкаму | | |
| 7 | Кіраўнік справаў | Кіраўнік справамі аблвыканкаму | Кіраўнік справамі гарвыканкаму | Кіраўнік справаў гарвыканкаму |
| 8 | Дэпартамант экономікі | Камітэт экономікі | Упраўленьне экономікі | Адзьдзел экономікі |
| 9 | Дэпартамант сельскай гаспадаркі і харчаваньня | Камітэт сельскай гаспадаркі і харчаваньня | | Ўпраўленьне сельскай гаспадаркі і харчаваньня |
| 10 | Дэпартамант гандлю і паслугаў | Галоўнае ўпраўленьне гандлю | Упраўленьне гандлю і паслуг | |
| 11 | Дэпартамант працы, занятасьці і сацыяльнай абароне | Камітэт працы, занятасьці і сацыяльнай абароне | Упраўленьне працы, занятасьці і сацыяльнай абароне | Упраўленьне працы, занятасьці і сацыяльнай абароне |
| 12 | Дэпартамант па будаўніцтву і архетэктуры | Камітэт па будаўніцтву і архетыктуры | Упраўленьне па архетыктуры і горадабудаўніцтва | Адзьдзел па будаўніцтву і архетыктуры |
| 13 | | | Адзьдзел будаўніцтва | |
| 14 | Дэпартамант дзяржаўнай маёмасьці | Фонд дзяржаўнай маёмасьці | Ўпраўленьне маёмасьцю | |
| 15 | | | | Гаспадарчы адзьдзел |
| 16 | Фінансавы дэпартамант | Галоўнае фінансавае ўпраўленьне | Упраўленьне фінансаў | Фінансавы адзьдзел |
| 17 | Дэпартамант аховы здароў'я | Упраўленьне аховы здароў'я | | |
| 18 | Дэпартамант адукацыі | Упраўленьне адукацыі (20 працаўнікоў) | Упраўленьне адукацыі, спорту і турызму | Адзьдзел адукацыі, спорту і турызму (15 працаўнікоў) |
| 19 | Дэпартамант спорту | Упраўленьне спорту і турызму (7 працаўнікоў) | | |
| 20 | Дэпартамант ідэалёгіі, культуры і моладзі | Галоўнае ўпраўленьне ідэалёгіі, культуры і па справах моладзі (23 працаўніка, з іх 9 займаюцца ідэалягічнай працай) | Ўпраўленьне ідэалёгіі, культуры і па справах моладзі | Адзьдзел ідэалёгіі, культуры і па справах моладзі |
| 21 | Дэпартамант жыльлёва-камунальнай гаспадаркі | Упраўленьне жыльлёва-камунальнай гаспадаркі | Адзьдзел жыльлёва-камунальнай гаспадаркі | Адзьдзел жыльлёва-камунальнай гаспадаркі |
| 22 | Дэпартамант унутраных справаў | Упраўленьне ўнутраных справаў | | Адзьзьдзел унутраных справаў |
| 23 | Дэпартамант юстыцыі | Упраўленьне юстыцыі | | |

**Мапа новага адміністратыўна-тэрытарыяльнага падзелу Беларусі** (узорны варыянт)



## 6. Кантрольная палата

6.1. Кантрольная Палата выбіраецца Парлямантам і падсправаздачная яму.

6.2. Кантрольная Палата сочыць за выкананьнем дзяржаўнага бюджэту, выкарыстаньнем дзяржаўнай уласнасьці, выкананьнем законаў і заканадаўчых актаў парляманту, якія рэгулююць дачыненьні дзяржаўнай уласнасьці, гаспадарчыя, фінансавыя і падаткавыя адносіны.

## 7. Канстытуцыйны Суд

7.1. Канстытуцыйны Суд складаецца з адзінаццаці судзьдзяў.

7.2. Старшыня і судзьдзі Канстытуцыйнага Суду выбіраюцца і зацьвярджаюцца Парлямантам тэрмінам на сямнаццаць гадоў.

7.3. Рашэньні Канстытуцыйнага Суду зьяўляюцца абавязковымі і не аспрэчваюцца.

7.4. У выпадку невыкананьня законаў, Канстытуцыі і рашэньняў Канстытуцыйнага суду органамі вышэйшай улады пачынаюць дзейнічаць працэсы падрыхтоўкі імпічманту Прэзыдэнта, роспуску Парляманту альбо ўзбуджэньне адміністрацыйных захадаў ці судовай справы.

7.5. Ні Парлямант, ні Урад, ні Прэзыдэнт ня маюць права распусьціць Канстытуцыйны Суд.

7.6. Судзьдзі Канстытуцыйнага Суду ня могуць быць арыштаваныя і прыцягнутыя да адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасьці бяз згоды Парляманту, акрамя выпадкаў калі судзьдзя затрыманы на месцы крымінальнага злачынства.

## 8. Суд
### (Судовая ўлада)

8.1. Суд ёсьць незалежным органам судовай улады.

8.2. Судовая намэнклятура Рэспублікі Беларусь складаецца з Вярхоўнага суду, Вышэйшага Гаспадарча-маёмаснага суду, Вышэйшага Крымінальнага Суду прысяжных (па асабліва цяжкіх злачынствах, якія вымагаюць сьмяротнага пакараньня), Канстытуцыйнага суду, Ваяводзкіх, Павятовых і Гарадзкіх судоў.

8.3. Судзьдзі Вярхоўнага суду і ўсіх вышэйшых судоў Рэспублікі Беларусь і старшыні гэтых судоў выбіраюцца Парлямантам тэрмінам на сямнаццаць гадоў.

8.4. Судзьдзяў мясцовых судоў і старшыняў мясцовых судоў выбірае мясцовая Рада дэпутатаў і зацьвярджае Парлямант тэрмінам на адзінаццаць гадоў.

8.5. Ніхто, у тым ліку ніякі орган улады, не мае права ўмешвацца і ўплываць на рэшэньні судоў.

8.6. Судзьдзі, якія ўдзельнічалі ў карупцыйных схемах і выносілі палітычна матываваныя прысуды ў пэрыяд аўтарытарнай дыктатуры, будуць пазбаўлены права займацца судовай дзейнасьцю.

## 9. Пракуратура
## і сьледчыя органы

9.1. Генэральны Пракурор выбіраецца і зацьвярджаецца Парлямантам.

9.2. Ніжэйстаячыя пракуроры прызначаюцца Генэральным Пракурорам і потым зацьвярджаюцца парлямантам.

9.3. Генэральны Пракурор і ніжэйстаячыя пракуроры падпарадкоўваюцца закону. Генэральны Пракурор робіць штогадовую справаздачу перад Парлямантам.

9.4. Сьледзтва ажыцьцяўляе Дзяржаўны Сьледчы Камітэт (ДСК).

9.5. Старшыня Дзяржаўнага Сьледчага Камітэту (міністэрская пасада) прызначаецца Прэм'ер-Міністрам і зацьвярджаецца Парлямантам.

9.6. Сьледзтва па справах аб пагрозе бяспецы дзяржавы, аб злачынствах супраць дзяржавы, аб наркотыках, гандлю людзьмі і кантрабандзе ажыцьцяўляе асобны Дзяржаўны Сьледчы Дэпартамант (ДСД). Старшыню Дзяржаўнага Сьледчага Дэпартаманту (міністэрская пасада) прызначае Прэм'ер-Міністар і зацьвярджае Парлямант.

9.7. Ствараецца Антыкарупцыйны Камітэт (АК), падпарадкаваны Радзе Міністраў. Старшыню Антыкарупцыйныйнага Камітэта (міністэрская пасада) прызначае Прэм'ер-Міністар і зацьвярджае Парлямант.

9.8. У задачы Антыкарупцыйныйнага Камітэта ўваходзіць барацьба з карупцыяй і са злачынствамі ў сфэры дзяржаўнай маёмасьці, гандлю і эканамічных дачыненьняў.

9.9. Антыкарупцыйны Камітэт праводзіць апэратыўна-вышуковую дзейнасьць і сьледзтва.

9.10. Пракуратура праводзіць дазнаньне па ўсіх парушэньнях закону.

Пракуратура праводзіць сьледзтва па справах парушэньня закону з боку Дзяржаўнага Сьледчага Камітэту, Дзяржаўнага Сьледчага Дэпартаманту і Антыкарупцыйнага Камітэту.

Санкцыі на затрыманьне выдае Пракуратура.

## 10. Паліцыя

10.1. Паліцыя падпарадкоўваецца Міністэрству Унутраных Справаў Рэспублікі Беларусь.

10.2. Начальнікі Ваяводзкіх адзьдзелаў паліцыі прызначаюцца Міністрам МУС і зацьвярджаюцца на сэсіях Ваяводзкіх Радаў мясцовых дэпутатаў.

Начальнікі адзьдзелаў паліцыі ў гарадах (Паліцмайстры), прызначаюцца Міністрам МУС і зацьвярджаюцца на сэсіях Гарадзкіх Радаў мясцовых дэпутатаў.

Начальнікі Павятовых адзьдзелаў паліцыі прызначаюцца Міністрам МУС, зацьвярджаюцца на сэсіях Павятовых Радаў мясцовых дэпутатаў і падпарадкоўваюцца паводле субардынацыі.

10.3. Задачы паліцыі:

а) – сачыць за непарушнасьцю закону і спрыяць яго выкананьню грамадзянамі;
б) – забясьпечваць законны парадак сацыяльнага суіснаваньня людзей;
в) – садзейнічаць і дапамагаць людзям у экстрэмальных абставінах і выпадках, зьвязаных з пагрозай жыцьцю і здароўю, страты ці псаваньня маёмасьці, гонару і годнасьці грамадзян;

г) – папярэджваць парушэньні закону і злачынствы;
д) – затрымліваць, арыштоўваць злачынцаў і парушальнікаў, праводзіць дазнаньне, узбуджаць справы ў судзе;
е) – праводзіць прафілактычную працу з насельніцтвам, моладзьдзю, падлеткамі па юрыдычнай і праўнай пісьменнасьці.
ж) – сачыць за парадкам на дарогах. Дзеля гэтага ствараецца Дарожная Патрульна-пастарункавая Служба паліцыі (ДППС).

10.4. Паліцэйскі ня можа выступаць сьведкам у судзе па справе, якую запачаткавала (ініцыявала) паліцыя. Выпадкі, калі паліцэйскі можа сьведчыць у судзе, абазначаныя ў законе аб паліцыі.

10.5. Паліцэйскі ў Беларусі мусіць быць у вачах насельніцтва асобай, якая стаіць на абароне інтарэсаў грамадзянаў, іх правоў, законнасьці, справядлівасьці і карыстаецца даверам людзей.

10.6. Дзеля гэтага (пп. 10.5.) будзе рэарганізаваная Вышэйшая школа паліцыі, уведзена вучэбная дысцыпліна – «Этыка паліцыі», створаны Службовы і Маральна-этычны кодэкс паліцэйскага (абавязковае выкананьне), прыняты адпаведны закон «Аб паліцыі».

10.7. У новым законе «Аб паліцыі» будзе адзначана высокая службовая роля паліцыянта, адказнасьць яго перад законам і грамадзтвам, уведзена ўрачыстае прыняцьце прысягі, зацьверджана ўзмацненьне ролі і ўмацаваньне інстытуту ўчастковых паліцыянтаў, умацаваньне структураў крымінальнага дазнаньня, стварэньне новй эфэктыўнай патрульна-паставой службы, стварэньне новага (на базе расфармаванага АМАПу) цэнтральнага спэц-падразьдзяленьня для падтрыманьня парадку і барацьбы з бандытызмам, будуць прадугледжаны іншыя апэратыўныя фармаваньні для змаганьня з крымінальнай злачыннасьцю.

10.8. Паліцыя мае права праводзіць крымінальны вышук і дазнаньне (папярэдняе сьледзтва), пасьля чаго справа перадаецца ў сьледчыя органы альбо ў суд.

10.9. Пасьля ўсталяваньня новай улады будуць расьсьледаваны дзеяньні асобаў, якія, працуючы ў міліцыі, учынялі незаконны гвалт па палітычных матывах. Пры няўнасьці канкрэтна даказанай віны гэтыя асобы будуць пазбаўлены на вызначаны тэрмін права працаваць у адпаведных органах альбо пакараныя згодна з крымінальным заканадаўствам.

## 11. Служба Нацыянальнай Бясьпекі Рэспублікі Беларусі

11.1. Ствараецца дзяржаўная структура бясьпекі краіны – Служба Нацыянальнай Бясьпекі Рэспублікі Беларусь (СНБ), на правах дзяржаўнага камітэта, падпарадкаваная Парляманту. (Ранейшая савецкая структура – Камітэт Дзяржўнай Бясьпекі – ліквідуецца.)

11.2. Старшыня Службы Нацыянальнай Бясьпекі (міністэрская пасада) выбіраецца Парлямантам, падпарадкаваны Парляманту і трымае справаздачу перад Парлямантам.

11.3. Палітычна-матываванае сачэньне за грамадзянамі Беларусі забароненае.

11.4. Служба Нацыянальнай Бясьпекі валодае правам на затрыманьне парушальнікаў. Санкцыю на затрыманьне дзяржаўных злачынцаў і парушальнікаў дзяржаўнай

бясьпекі дае Пракурор – акрамя выпадкаў затрыманьня на месцы злачынства (альбо на месцы парушэньня дзяржаўнай бясьпекі).

11.5. Затрыманьне асобаў, якія зьдзейсьнілі дзяржаўнае злачынства альбо падазраюцца ў злачынстве супраць дзяржавы, ажыцьцяўляюць спэцыяльныя паліцыйныя і апэратыўныя сілы Службы Нацыянальнай Бясьпекі.

11.6. Служба Нацыянальнай Бясьпекі мае права праводзіць дазнаньне (папярэдняе сьледзтва), пасьля чаго справа перадаецца ў сьледчыя ворганы альбо ў суд.

11.7. Служба Бясьпекі ажыцьцяўляе ахову асобаў дзяржаўнага кіраўніцтва ўнутры памяшканьняў і ў зьнешніх перамяшчэньнях.

11.8. У веданьні Службы Бясьпекі (двайное падпарадкаваньне) знаходзіцца Вышэйшая Школа Дзяржаўнай Бясьпекі Рэспублікі Беларусь.

10.6. Служба Бясьпекі стварае Упраўленьне Зьнешняй Разьведкі.

11.7. У сістэме СБ ствараецца Беларускае Бюро Рассьледваньняў (эксклюзыўны ворган), якое займецца рассьледваньнем злачынстваў камуністычнага (савецкага) і антыбеларускага (лукашысцкага) рэжымаў.

## 12. Служба па надзвычайных сітуацыях

12.1. Ствараецца асобны Дэпартамант па Надзвычайных Сітуацыях (ДНС) у сістэме Рады Міністраў краіны. Старшыня ДНС (міністэрская пасада) прызначаецца Прэм’ер-міністрам.

12.2. У структуры ДНС аўтаномнымі адзінкамі існуюць:
- Служба Пажарнай Аховы (СПА);
- Служба Прыроднай і Радыяцыйнай бясьпекі.

## 13. Крызісная Рада

13.1. У выпадку ўзьнікненьня тупіковага палітычнага крызісу (канфлікту ў Парляманце альбо паміж Парлямантам і Прэзыдэнтам), які можа прывесьці да нэгатыўных палітычных і эканамічных наступстваў для краіны, Канстытуцыйны Суд склікае Крызісную Раду, якая мусіць вырашыць канфліктную сітуацыю ў інтарэсах стабільнасьці і дзеяздольнасьці дзяржавы.

13.2. Крызісная Рада складаецца з чальцоў Канстытуцыйнага Суду і грамадзкіх старэйшын (сэньёраў) – вядомых, высокіх і паважаных дзеячоў краіны ў розных галінах дзейнасьці колькасьцю 12 асобаў. Кіраўніком Крызіснай Рады зьяўляецца Старшыня Канстытуцыйнага Суду.

13.3. Пры немагчымасьці ўрэгуляваньня крызісу выконваецца закон аб роспуску Парляманту альбо імпічманце Прэзыдэнта.

13.4. Пры развале Ураду і няздольнасьці Парляманту стварыць новы ўрад у крызіснай сітуацыі, абʼявіць пра самароспуск і новыя выбары і пры адмове Прэзыдэнта ад роспуску Парляманту і ўзьнікненьні крызіснага тупіка, Канстытуцыйны Суд вызначае адпаведнасьць дзеяньняў улады з Канстытуцыяй краіны. Старшыня Канстытуцыйнага суду склікае Крызісную Раду, якая сьведчыць пра роспуск Парляманту і абʼяўляе новыя выбары.

Пры выключных і надзвычайных абставінах Крызісная Рада можа ўзяць на сябе функцыі часовага Урада. Пры гэтым ня будзе дапушчана абмежаваньня правоў грамадзян. Дэмакратычны лад застаецца.*

***Заўвага:*** Крызісная Рада і функцыі Крызіснай Рады прадугледжаны, каб у выпадку крызісаў максімальна прадухіліць магчымасьці дыктатуры і аўтарытарнага захопу ўлады.

13.5. Выбары старэйшын у Крызісную Раду ажыцьцяўляе парлямант на 2-й Сэсіі Парляманту. Калі Парлямант не выбера старэйшын Крызіснай Рады на 2-й Сэсіі Парляманту, тады склад Крызіснай Рады ў трохмесячны тэрмін фармуюць Прэзыдэнт (прызначае 6 грамадзкіх старэйшын) і Канстытуцыйны Суд (прызначае 6 грамадзкіх старэйшын)

13.6. Ні Парлямант, ні Прэзыдэнт, ні Канстытуцыйны Суд ня могуць адклікаць грамадзкіх старэйшын на працягу трываньня кадэнцыі парляманцкай ўлады. Іншых старэйшын можа выбраць новы Парлямант .

## 14. Выбарчая сістэма

14.1. Выбары праводзіць Цэнтральная Выбарчая Камісія па выбарах і рэфэрэндумах, якую ўтварае Парлямант.

14.2. Рашэньне аб правядзеньні выбараў прымае Парлямант (у крызісных сітуацыях – Прэзыдэнт альбо Крызісная Рада). Выбары праводзяцца на падставе дэмакратычных прынцыпаў.

14.3. Выбары ў Парлямант і ва ўсе мясцовыя ворганы ўлады адбываюцца па зьмешаным прапарцыйна-мажарытарным прынцыпе і па прапарцыйна-мажарытарным выбарчым законе на працягу першых 10 гадоў існаваньня вольнай улады ў Беларусі. Потым будуць магчымыя зьмены выбарчага закнадаўства.

14.4. Выбаршчыкамі зьяўляюцца ўсе грамадзяне Беларусі, якія дасягнулі 18-гадовага ўзросту. Выбары залічваюцца, калі прагаласавала 25 адсоткаў выбаршчыкаў.

## 15. Грамадзкія аб’яднаньні, партыі, рухі

15.1. Рэспубліка Беларусь забясьпечвае свабоду сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, дэманстрацыяў, пікетаў і гарантуе выкананьне права на іх правядзеньне. Кожны мае права на свабоду аб’яднаньняў.

15.2. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права ўтвараць і гуртавацца у партыях, рухах, розных грамадзка-палітычных, творчых, мастацкіх, навуковых, спартыўных, экалягічных, рэлігійных і іншых арганізацыях, суполках, таварыствах, фондах, клубах; утвараць саюзы, аб’яднаньні, згуртаваньні, блокі, лігі, камітэты, канфэрэнцыі, кангрэгацыі, форумы, сэмінары, асацыяцыі, асамблеі і іншыя ініцыятывы. Палітычныя партыі рэгіструюцца ў Міністэрстве Юстыцыі. Грамадзкія арганізацыі рэгіструюцца ў судах 1-й інстанцыі. Колькасьць удзельнікаў партыі і грамадзкай арганізацыі, неабходная для рэгістрацыі, вызначаецца законам.

15.3. Рэспубліка Беларусь заканадаўча забясьпечвае ўтварэньне і дзейнасьць незалежных прафсаюзаў.

15.4. Дзяржава падтрымлівае існаваньне прафсаюзаў, грамадзкіх аб’яднаньняў, партыяў і рухаў.

15.5. Палітычныя партыі, зарэгістраваныя Міністэрствам Юстыцыі, якія ўдзельнічаюць у выбарах і набіраюць вызначаны законам парогавы адсотак падтрымкі выбаршчыкаў, атрымліваюць дзяржаўныя датацыі для дзейнасьці і разьвіцьця.

Грамадзкія арганізацыі і аб'яднаньні атрымліваюць дзяржаўную дапамогу адпаведна колькасьці асобаў і вынікаў дзейнасьці па разраднай сістэме.

15.6. Забаронена фінансаваньне грамадзкіх арганізацыяў, дзеяньне якіх можа пагражаць нацыянальным інтарэсам альбо падрыву сувэрэнітэту краіны.

15.7. Фінансаваньне з-за мяжы палітычных партыяў, палітычных арганізацыяў, палітычных аб'яднаньняў і рухаў, якія перасьледуюць палітычныя мэты, забараняецца законам.

15.8. Забараняюцца арганізацыі, якія прапагандуюць і культывуюць зьдзек, збачэнства, гвалт і насільле над асобай, над чалавечай псіхікай і інтэлектам, дэструктыўныя сэкты, фашыстоўскія, камуністычныя партыі і камуна-фашыстоўскія арганізацыі, забараняюцца парамілітарныя арганізацыі і групы антыдзяржаўнага накірунку, якія выступаюць супраць існаваньня беларускай дзяржавы, беларускай мовы, гісторыі і культуры народу, прапагандуюць нацыянальную, сацыяльную, расавую, рэлігійную, полавую нянавісьць, вайну, знаходзяцца пад уплывам замежных арганізацыяў і структураў, якія шкодзяць_нацыянальнай бясьпецы і нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь.

Забараняюцца арганізацыі і партыі, стварэньне і дзейнасьць якіх супярэчыць заканадаўству (кшталту «Белая Русь»).

15.9. Забараняецца стварэньне і дзейнасьць палітычна ўгрунтаваных на таталітарных ідэалёгіях арганізацыяў моладзі і дзяцей у школе (кшталту камсамолу, савецкіх піянэраў ды «акцябратаў», БРСМ і т.п.).

15.10. Падтрымліваюцца патрыятычны скаўцкі рух, спартыўныя, экалягічныя і іншыя ініцыятывы і рухі, звязаныя з маральным, пазнаваўчым, эстэтычным, духоўным і фізічным разьвіцьцём маладой асобы.

## 16. Сродкі масавай інфармацыі

16.1. Сродкі масавай інфармацыі (СМІ) падзяляюцца на дзяржаўна-грамадзкія і прыватныя. Дзяржаўна-грамадзкія і прыватныя СМІ карыстаюцца свабодай слова, могуць выяўляць пазыцыю грамадзкіх, палітычных арганізацыяў, ворганаў улады і палітыку дзяржавы альбо быць у апазыцыі да ўлады, адлюстроўваць розныя інтарэсы. Дзейнасьць дзяржаўна-грамадзкіх і прыватных СМІ рэгулюецца законам.

16.2. Журналіст мае права на свабоду слова незалежна ад воргана ў якім працуе.

16.3. Палітычная цэнзура СМІ не дапускаецца. Манапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі дзяржавай, палітычнымі, грамадзкімі ворганамі або асобнымі грамадзянамі, стварэньне рынкавых манаполіяў СМІ забараняецца законам. Адна установа (ворган, арганізацыя), адна асоба можа валодаць ня больш як трыма друкаванымі альбо электроннымі СМІ.

16.4. Дзейнасьць замежных выдаўцоў СМІ на тэрыторыі Беларусі, валоданьне і выданьне замежных СМІ на беларускім рынку СМІ лімітуецца і рэгулюецца законам.

16.5. Свабодная дзейнасьць сродкаў масавай інфармацыі гарантаваная Канстытуцыяй, законамі Рэспублікі Беларусь і Законам аб сродках масавай інфармацыі. Закон аб СМІ забараняе антыдзяржаўную (падважваньне існаваньня Беларускай дзяржавы),

антычалавечую, антыграмадзкую, антымаральную інфармацыйную прапаганду, накіраваную на шкоду людзям і чалавецтву, – ўсё, што нязгодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

16.6. Грамадзкія інстытуты краіны ствараюць Наглядальную Раду* за выкананьнем заканадаўства ў Сродках масавай інфармацыі.

*__Тлумачэньне.__ Грамадзкая Наглядальная Рада перш за ўсё сочыць і назірае за маральным узроўнем матар'ялаў у друку, этэры і іншых СМІ (у тым ліку ў Сеціве); сочыць, каб у СМІ не пранікалі матар'ялы, накіраваныя на разбэшчваньне моладзі, дзяцей, зьневажэньне жанчын, старых асобаў, на прапаганду, абскурантызму, суіцыду, агрэсіі, гвалту, распусты, збачэнства, шкодныя для псіхікі і пачуцьця прыгожага ў чалавека.Такія наглядальныя рады існуюць у ЗША і ў некаторых эўрапейскіх краінах.

## 17. Войска. Абарона

Войска зьяўляецца адной з галоўных умоў незалежнасьці дзяржавы і галоўнай гарантыяй яе сувэрэнітэту.

У 1991 годзе савецкае войска, якое засталося ў спадчыну Рэспубліцы Беларусь, складала афіцыйна 140 тысячаў жаўнераў (у рэальнасьці значна больш). Дэпутаты БНФ у парляманце выступалі за войска ў колькасьці 110 тысячаў жаўнераў (згодна са структурнымі асаблівасьцямі войска таго часу). Вярхоўны Савет, прымаючы закон аб абароне, пагадзіўся спачатку на 100 тысячаў. Пазьней лічба была зьменшана на 80 тысячаў. Цяперашні рэжым зьменшыў беларускае войска да 65 тысячаў жаўнераў.

Беларусь знаходзіцца ў такой частцы Эўропы і ў такой геапалітычнай сітуацыі, якая вымагае мець моцнае, добра навучанае і добра ўзброенае войска з апорай на шматлікую рэзэрвовую армію. Павінна быць войска, здольнае аказаць моцны супраціў пераўзыходзячым сілам праціўніка і абараніць краіну.

У вольнай Беларусі такая задача паўстане і ў плане дзяржаўных інтарэсаў павінна быць прыярытэтнай.

Вопыт і досьвед расейска-ўкраінскай гібрыднай вайны прыводзіць да наступных высноваў:

17.1. Беларускае войска мусіць быць павялічана, лепш навучана і лепш узброена.

17.2. Побач са стварэньнем прафэсійных адзьдзелаў войска (на аснове кантракту) абавязкова павінен быць агульнанацыянальны прызыў і абавязак вайсковай службы кожнага мужчыны-грамадзяніна краіны пры дасягненьні адпаведнага ўзросту.

Агульнаграмадзкі вайсковы абавязак аблягчае стварэньне рэзэрвовай арміі Беларусі і войска тэрытарыяльнай абароны, якое разгортваецца ў час вайны.

17.3. Падвышаецца роля ваенкаматаў у падрыхтоўцы прызыўнікоў. Ваенная прафэсія становіцца прэстыжнай.

17.4. Ствараецца Міністэрства абароны, падпарадкаванае Парляманту, якое ажыцьцяўляе канцэпцыю разбудовы беларускай вайсковай абароны.

17.5. Жаўнер у войску павінен займацца толькі вайсковай справай і вучобай. Жаўнеры мусяць авалодаць вайсковымі спэцыяльнасьцямі, будуць мець магчымасьць вывучаць замежныя мовы. Жаўнер, у якога ёсьць сям'я, будзе мець дадатковыя адпачынкі, а тыя, хто мае сям'ю і служыць па месцы жыхарства, – адпускныя на суботу і нядзелю.

Як альтэрнатыва тэрміновай службе для мужчын-студэнтаў унівэрсітэта ствараецца вайсковая катэдра, дзе выкладаецца спэцыяльны вайсковы курс, пасьля сканчэньня якога прысвойваецца званьне малодшага афіцэра: такая асоба можа паклікацца толькі

на вайсковыя зборы. Студэнты, якія не прайшлі спэцыяльны курс на вайсковай катэдры, прызываюцца толькі на рэгулярныя зборы.

17.6. Асаблівая ўвага надаецца падрыхтоўцы афіцэраў. Ствараюцца спэцыяльныя афіцэрскія фармаваньні.

17.7. Ствараюцца спэцыялізаваныя вышэйшыя вайсковыя вучэльні па розных вайсковых спэцыяльнасьцях.

Утвараецца (рэарганізуецца) Ваенная акадэмія ўзброеных сілаў Рэспублікі Беларусь.

17.8. Распрацоўваецца Праграма і Канцэпцыя разбудовы Вайскова-прамысловага комплексу Беларусі (ВПК).

Ствараецца Міністэрства ВПК, падпарадкаванае Радзе Міністраў.

Дырэктары дзяржаўных прадпрыемстваў ВПК прызначаюцца Прэм’ер-міністрам і зацьвярджаюцца парлямантам.

17.9. Нацыянальнае войска вольнай Беларусі будзе фармавацца на новых прынцыпах. Новы прызыў асабістага складу напачатку ня будзе зьмешвацца са складам папярэдніх прызываў, пакуль ня пройдзе агульнавайсковую падрыхтоўку па нацыянальнай праграме ўзброеных сіл.

17.10. Беларускае войска будзе функцыянаваць паводле законаў Рэспублікі Беларусь. Ваеннаслужачыя, што стануць падтрымліваць пазастатутныя дачыненьні, будуць звольненыя з войска і / альбо панясуць крымінальную адказнасьць.

17.11. Беларускі жаўнер будзе навучацца і выхоўвацца патрыётам краіны, на веданьні нацыянальнай гісторыі, на прыкладах гераізму продкаў і на дасягненьнях беларускай культуры.

17.12. Вяртаецца і выконваецца палажэньне закону, згодна з якім служыць у беларускім войску могуць толькі грамадзяне Беларусі. Праводзіцца атэстацыя афіцэрскага складу войска, павелічэньне акладаў афіцэрам і паляпшэньне сацыяльна-бытавых умоваў.

17.13. Жанчыны могуць служыць у беларускім войску на дабраахвотных (кантрактных) умовах па вызначаных вайсковых функцыях і спэцыяльнасьцях.

17.14. Канцэпцыя стварэньня эфэктыўнага, дзейнага Беларускага войска і рэзэрвовай арміі будзе ўлічваць падыходы і вопыт структурнай пабудовы іншых арміяў сьвету (найперш Швайцарыі і Ізраіля).

17.15. Ствараецца Навукова-Дасьледчы Інстытут абароннай вытворчасьці і навуковыя цэнтры абаронных праблем пры НДІ.

17.16. Фінансаваньне на абарону ў мірны час у залежнасьці ад зьменных абставінаў павінна прымацца ў межах ад 5 да 10 адсоткаў кансалідаванага бюджэту (ад 2-х да 3-х адсоткаў ВУП). Ніжэй пазначанага мінімуму ў нашых беларускіх абставінах фінансаваньне на абарону ня будзе дазволена, і гэтая норма будзе замацавана ў законе. На пачатку рэсурсы будуць узяты за кошт зьмяншэньня колькасьці асабістага складу ўнутраных войскаў, міліцыі, АМАПу і ліквідацыі непатрэбных фармаваньняў.

# II. ЭКАНОМІКА, ФІНАНСЫ, ПАДАТКІ, ЗЯМЛЯ, ЭНЭРГЕТЫКА

*Над падразьдзелам працавалі: З. Пазьняк, Ю. Беленькі, С. Папкоў*

## 1. Банкаўская сістэма і банкаўская палітыка

1.1. Банкаўская сістэма Рэспублікі Беларусі складаецца з Нацыянальнага Банку, камэрцыйных банкаў, і нябанкаўскіх крэдытна-фінансавых арганізацыяў.

1.2. Дзяржаўную грашова-крэдытную палітыку ў сфэры банкаўскай дзейнасьці ажыцьцяўляе Нацыянальны Банк. Праўны статус, мэты і функцыі Нацыянальнага Банку адлюстраваны ў законе.

1.3. Дзеля разьвіцьця беларускай банкавай сістэмы ўводзяцца два тыпы банкаў: беларускія камэрцыйныя банкі (БКБ) на нацыянальным капітале і беларускія камэрцыйныя банкі з замежнымі інвэстыцыямі ў статутным капітале.

1.4. Будзе перагледжана крэдытная іпатэчная палітыка ў бок зьмяншэньня адсоткаў выплаты на ўзяты крэдыт.

1.5. Беларускаму прадпрыймальніцтву, бізнэсу, гандлю, прамыслоўцам, будуць зробленыя палёгкі дзеля хуткага ўздыму эканомікі, бізнэсу і банкавай справы.

1.6. Нацыянальны Банк праводзіць санацыю камэрцыйных банкаў, каб праверыць законнасьць механізмаў утварэньня і пераразьмеркаваньня банкаўскага капіталу. Пры Нацыянальным Банку ствараецца дэпартамант па ацэнцы і вырашэньні пытаньняў аб сумніўных крэдытах.

1.7. Аб’яўлаецца мараторый на дзейнасьць прадстаўніцтваў* расейскіх банкаў у Рэспубліцы Беларусь.

*<u>***Заўвага.***</u> Існуючаму расейскаму статутнаму капіталу ў беларускіх банках са зьмешаным статутным капіталам будзе прапанавана перавесьці статутную долю на бягучы рахунак банка і потым на дэпазіт з выгаднымі магчымасьцямі. Інвэстары могуць таксама забраць свой капітал з беларускіх банкаў. Тады пачнецца рэарганізацыя сістэмы БКБ (аб’яднаньні, зьліцьцё і т. п.)

1.8. Дзеля захаваньня эканамічнай бясьпекі дзяржавы ў адпаведнасьці з антыманапольным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь будзе забаронена наяўнасьць у банкаўскім капітале Беларусі больш за 20% банкаўскага капіталу для кожнай адной замежнай краіны.

1.9. У Банкаўскай сістэме Рэспублікі Беларусі акрамя існуючай электроннай сістэмы разьлікаў і апэрацый будзе ўведзена зручная для насельніцтва чэкавая сістэма разьлічэньня і аплаты (паводле прыкладу ЗША і Вялікай Брытаніі).

1.10. Пасьля стабілізацыі эканомікі і ўмацаваньня часовай (з 1992 году) грашовай адзінкі – беларускага рубля – увесьці нацыянальную грашовую адзінку – талер (1/100 частка – грош).

# 2. Рэфармаваньне эканомікі

*Падрыхтавалі: Ю. Беленькі,*
*С. Папкоў*

## а). Ацэнка цяперашняга (2016 г.) стану эканомікі краіны

2.1. Беларуская эканоміка пры існуючым рэжыме ўлады знаходзіцца цяпер у здэградаваным, блізкім да калапсу стане. Гэта вынік сьвядомай палітыкі рэжыму ўлады за 22 гады яго існаваньня. Сутнасьцю такой палітыкі ёсьць асэнсаванае адсячэньне беларускіх суб’ектаў гаспадараньня ад тэхналягічна разьвітых дэмакратычных краінаў Эўропы, Канады і ЗША, штучная прывязка беларускай эканомікі да супрацы з суб’ектамі гаспадараньня Расеі. Стварэньне неспрыяльных умоў для разьвіцьця нацыянальнага бізнэсу, выявілася ў заключэньні нявыгаднага для Беларусі Мытнага саюзу і іншых пагадненьняў з Расеяй.

У Беларусі замарожана сістэма постсавецкіх адносінаў у эканамічнай сфэры і ў грамадзка-палітычным жыцьці, захаваны састарэлы нізкі тэхналягічны ўзровень прадпрыемстваў, сістэма камэрцыйных банкаў краіны знаходзіцца пад кантролем расейскага бізнэсу праз перадачу яму (продажы па нізкім кошце) кантрольных пакетаў акцый.

У той жа час бальшыня прамысловых прадпрыемстваў краіны, будучы стратнымі і маларэнтабельнымі, згубіўшы ўласныя абаротныя сродкі, знаходзяцца ў крэдытнай залежнасьці ад банкаў-крэдытадаўцаў (якія самы залежныя ад расейскіх суб’ектаў капіталу). Сітуацыя сур’ёзна небясьпечная, бо пры запуску механізмаў банкруцтва, што вынікае з фінансавага становішча прадпрыемстваў, яны могуць быць скуплены за бясцэн і апынуцца ва ўласнасьці расейскіх крэдытораў.

2.2. Сельская гаспадарка неэфэктыўная, датуецца схавана і наўпрост з дзяржаўнага бюджэту. Нявырашанае пытаньне прыватнай уласнасьці на зямлю. Насьпеў комплекс пытаньняў, што патрабуюць вырашэньня ў блізкай пэрспэктыве: правядзеньне працэдураў банкруцтва сельскагаспадарчых прадпрыемстваў (тых, якіх немагчыма фінансава аздаравіць), рэфармаваньне ўсяго комплексу сельскагаспадарчай вытворчасьці ў сувязі з яе ўсё большай неэфэктыўнасьцю.

2.3. У цэлым, структура эканомікі краіны, яе штучная, насуперак нацыянальным інтарэсам, прывязка да Расеі, сістэма шкодных міжнародных дамоваў, падпісаных ад імя Рэспублікі Беларусь нелегітымным кіраўніком выканаўчай улады, – усё гэта выяўляе рэлікты каляніяльнай залежнасьці, сьведчыць аб стане ўнутранай акупацыі краіны антыбеларускай уладай у інтарэсах іншай дзяржавы. Усё гэта нагадвае пра абавязковасьць палітычна важных перамен.

## б). Эканамічная палітыка вольнай Беларусі

2.4. Мэтай эканамічнай рэформы зьяўляецца адраджэньне эканамічна актыўнага ўласьніка ва ўсіх сфэрах дзейнасьці; стварэньне эканамічнага заканадаўства і дзяржаўнай сістэмы ўлады, якія забясьпечылі б уздым эканомікі і разьвіцьцё вольных рынкавых эканамічных дачыненьняў. Пераход да паўнавартаснай свабоднай эканамічнай дзейнасьці можа заняць пэрыяд да пяці гадоў.

2.5. Пасьля ліквідацыі нелегітымнага рэжыму неабходна будзе тэрмінова рэалізаваць шэраг захадаў, каб спыніць дэградаваньне эканомікі і недапусьціць каляпсу.

Першачарговыя захады неабходна ўвязаць з усім комплексам рэфармацыйных мерапрыемстваў.

<u>Неабходныя першачарговыя дзеяньні:</u>

– Даць суб’ектам гаспадараньня максымальную свабоду для вядзеньня бізнэсу.

– Прыняць на заканадаўчым узроўні жорсткія антыкарупцыйныя законы, захады і палажэньні.
– У банкаўскай сфэры ажыцьцявіць палажэньні пп. ІІ-1.3; ІІ-1.4; ІІ-1.6 падразьдзелу «Банкаўская сістэма і банкаўская палітыка» гэтай Праграмы.
– Правесьці з краінамі-крэдыторамі рэструктарызацыю зьнешніх пазык.
– Падрыхтаваць праграму пабудовы новых высокатэхнічных прадпрыемстваў. Тым самым стварыць умовы дзеля прыцягненьня ў Беларусь інвэстыцыяў з тэхналягічна разьвітых дэмакратычных краінаў.
– Забясьпечыць поўнавартаснае функцыянаваньне дзяржаўнай і мытнай мяжы з Расеяй.
– Стварыць мэханізм рэальнага дзеяньня антыманапольнай палітыкі.
– Забясьпечыць рэальную незалежнасьць Нацыянальнаму Банку, вызначаную заканадаўствам.
– Бюджэтна-фінансавая палітыка мусіць быць скарэктаваная з улікам ныцыянальных інтарэсаў краіны. Неабходна перагледзець структуру Дзяржаўнага бюджэту і дапасаваць яго да першаснага разьвіцьця адукацыі, мэдыцыны, навукі, сацыяльных праграм (пры ўскладненьні міжнародных абставінаў і пагрозе дзяржаве –да разьвіцьця абароннай сфэры).
– Увесьці адзіную збалянсаваную і зразумелую для ўсіх грамадзянаў сістэму падаткаў і забясьпечыць яе існаваньне на працяглы пэрыяд часу.

2.6. <u>Рэфармаваньне па істотных накірунках.</u>

Знізіць агульную падатковую нагрузку да 20-25%. Падаткамі не абцяжарваюцца даходы, якія інвэстуюцца ў разьвіцьцё і ў будаўніцтва жыльля.

– Свабода эканамічнай дзейнасьці, нізкія падаткі павінны прывесьці да істотнага павышэньня падатковай базы за кошт дынамічнага стварэньня да 500 тысячаў суб’ектаў гаспадараньня, якія забясьпечаць высокі ўзровень папаўненьня бюджэту*****.

***<u>Заўвага</u>***: На 2016 год існавала 145 тыс. суб“ектаў гаспадараньня.

– Выйсьці на ёмістыя міжнародныя рынкі. Дапамагчы патэнцыйным беларускім экспарцёрам давесьці тавары і прадукцыю да міжнародных стандартаў якасьці.
– Стварыць інструманты ўнутранага рынку, што забясьпечыць эканамічную бясьпеку дзяржавы, у тым ліку:
– Стварыць эфэктыўнае заканадаўства па прыватызацыі дзяржаўных і камунальных прадпрыемстваў і нерухомасьці, падатковае заканадаўства, мытнае заканадаўства, заканадаўства па фінансавых інструмантах.
– Стварыць паўнавартасныя біржы: нерухомасьці, фондавыя, таварныя, каштоўных папер.
– Стварыць інвэстыцыйныя фонды, вэнчурныя фонды.
– Задзейнічаць пэнсійныя фонды, страхавыя кампаніі ў інвэстыцыйнай дзейнасьці.
– Каб пазьбегнуць махінацыяў у набыцьці прадпрыемстваў, інвэстар павінен прадставіць бізнэс-план, які мусіць ухваліць дзяржаўная камісія па прыватызацыі. Стварыць страхавы дэпазіт інвэстара, які будзе зьяўляцца гарантыяй выкарыстаньня набытай маёмасьці (прадпрыемства) згодна з бізнэс-планам.

2.7. <u>Першачарговыя дзеяньні (на працягу 6 месяцаў):</u>

**а). Зьнешнеэканамічная дзейнасьць.**

– Выйсьці з Мытнага Саюзу і Еўразійскага Эканамічнага Саюзу (ЕАЭС).
– Правесьці перамовы і заключыць двухбаковыя дамовы аб парадку эканамічнага ўзаемадзеяньня з постсавецкімі краінамі.
– Правесьці перамовы і заключыць дамовы з краінамі Эўропы, з ЗША, Канадай, Аўстраліяй (ды іншымі краінамі) аб парадку эканамічнага ўзаемадзеяньня.
– Дамовіцца з Украінай ад адкрытай мяжы, свабодным перамяшчэньні людзей і тавараў.

- Дамовіцца з Польшчай, Летувой і Латвіяй аб спрошчаных умовах памежнага гандлю.
- Правесьці перамовы з Украінай, Польшчай, балтыйскімі краінамі аб альтэрнатыўных шляхах пастаўкі энерганосьбітаў.
- Максімальна скараціць тэрміны мытнага кантролю тавараў.
- Зняць мытныя пошліны на легкавыя і малатанажныя аўтамабілі, максімальна зьнізіць мытныя пошліны на ўсе тавары.

**б). Разьвіцьцё ўнутранага рынку**

- На працягу 2-х месяцаў, правесьці інвентарызацыю дзяржаўных і камунальных прадпрыемстваў, нерухомых аб’ектаў і разьмеркаваць іх на 4 клясы (за выключэньнем стратэгічных) з улікам пэрспектыўнасьці, канкурэнтнасьці, эканамічнай бясьпекі дзяржавы, у тым ліку:
  - а). Прадпрыемствы, якія падлягаюць прыватызацыі з удзелам замежнага капіталу.
  - б). Ліквідныя прадпрыемствы, якія прыватызуюцца толькі беларускімі суб’ектамі.
  - в). Неліквідныя прадпрыемствы і нерухомасьць, якія перадаюцца ва ўласнасьць беларускім суб’ектам і бясплатна на аснове дамовы.
  - г). Нерухомасьць, якая перадаецца беларускім суб’ектам ва ўласнасьць з аплатай праз арэнду.
- Распрацаваць правілы прыватызацыі для прадпрыемстваў і нерухомасьці ў адпаведнасьці з клясіфікацыяй.
- Ліквідаваць Упраўленьне спраў прэзыдэнта (УСП). На конкурснай аснове прызначыць кіраўніцтва прадпрыемстваў УСП, перадаць іх яму ў валоданьне на правах даверанасьці і ў тэрмін 6 месяцаў падрыхтаваць да прыватызацыі.
- На дзяржпрадпрыемствах (акрамя стратэгічных) прызначыць на конкурснай аснове кіраўнікоў і перадаць ім у валоданьне на правах даверанасьці і ў тэрмін 6 месяцаў падрыхтаваць да прыватызацыі.
- На стратэгічных прадпрыемствах правесьці конкурсы па прызначэньні кіраўніцтва, пры захаваньні дзяржаўнай уласнсьці.
- Калі запрацуе рынак і рынкавы механізм эканомікі, будзе адноўлена фінансавая моц прыватызацыйных чэкаў “Маёмасьць”. Стварыць біржавыя адкрытыя пляцоўкі па продажы акцыяў прадпрыемстваў, чэкаў маёмасьці, нерухомасьці. Пакупнік прыватызаванага прадпрыемства будзе абавязаны 50% кошту аб’екта аплаціць чэкамі, якія ён абавязаны купіць праз біржу.
- Прыватызацыя сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Прыватызацыі падлягаюць сродкі вытворчасьці і нерухомасьць. Зямля, якой валодаюць СПК, прыватызуецца асобна, у адпавелнасьці з п.5 разьдзелу II.
- Максымальна зьменшыць колькасьць ліцэнзійных відаў дзейнасьці. Неліцэнзійная дзейнасьць адчыняецца на прынцыпах рэгістрацыі (на працягу 1-го – 2-х працоўных дзён).
- Дзяржаўныя органы забясьпечваюць адкрыты доступ да ўсёй эканамічнай інфармацыі.
- Дзяржаўныя і мясцовыя органы ўлады забясьпечваюць хуткую (у тэрмін ня больш за 1 дзень, у асаблівых выпадках ня больш за 3 працоўныя дні) выдачу даведак і дакумантаў фізічным і юрыдычным асобам.
- Скасаваць існуючую кантрактную сістэму працоўных адносінаў. Ураду тэрмінова на працягу 1 месяца павінен зацьвердзіць парадак адносінаў працаўнік-працадаўца з улікам абароны правоў працоўных.
- На тры гады адмяніць праверкі кантрольных органаў, пры гэтым уласьнік і кіраўнік вытворчых аб’ектаў нясуць фінансавую ці крымінальную адказнасьць за здарэньні на вытворчасьці.
- На тры гады вызваляюцца ад падаткаў новастворапыя суб’екты гаспадараньня малога бізнэсу, унутраны турыстычны бізнэс і сельскі турызм.

- Не абкладаюцца падаткам ахвяраваньні ў адукацыйныя, культурныя праекты, унутраная гуманітарная дапамога, замежная гуманітарная дапамога, якая не пярэчыць нацыянальным інтарэсам дзяржавы, замежная дапамога ў адукацыйныя і культурныя праекты.
- Не абкладаюцца падаткам ііндывідуальная, мастацкая і творчая дзейнасьць. Але можа быць уведзены часовы мінімальны падатак на рэалізаваныя творы і прадметы індывідуальнай мастацкай і творчай дзейнасьці тэрмінам на два гады, на пэрыяд рэформаў эканомікі.
- Не абкладаецца падаткамі гандаль таварамі індывідуальнага вырабніцтва.
- Дробны індывідуальны гандаль не абкладаецца падаткам. Мяцовыя улады абавязаны спрыяць уладкаваньню гандлёвых пляцовак для індывідуальнага гандлю.
- Ствараюцца ўмовы для разьвіцьця і дзейнасьці сярэдніх і дробных гандлёвых суб’ектаў гаспадараньня з перадачай ім ва ўласнасьць камунальнай і дзяржаўнай нерухомай маёмасьці, у тым ліку з выплатай праз арэнду (для стварэньня эфэктыўнай канкурэнцыі супэрмаркетам)*.

***Заўвага:*** Можа быць прынятае адмысловае заканадаўства аб супэрмаркетах (кшталту францускага), якое будзе рэгуляваць балянс магчымасьцяў і абараняць сельскагаспадарчую працу гаспадароў.

2.7. Накірункі, якія могуць стаць рухавіком эфэктыўнага разьвіцьця эканомікі:

- Разьвіцьцё транспартнай інфраструктуры, дарог і хуткаснага транспарту (у тым ліку чыгуначнага), што павінна забясьпечыць жыцьцёвасьць усіх куткоў краіны, мабільнасьць рабочай сілы.
- Разьвіцьцё аўтаномнай энэргетыкі на ўзнаўляльных крыніцах і разьвіцьцё вытворчасьці сродкаў для яе. Гэта паспрыяе эфэктыўнаму будаўніцтву індывідуальнага жыльля, забясьпечыць энэргіяй інфраструктуру і вытварчасьць у любой кропцы нашай тэрыторыі і энэргетычную бясьпеку краіны.
- Развіцьцё галіны Інфармацыйных тэхналёгій (IT). Пашырэньне сеткі хуткаснай інтэрнэт-сувязі на ўсю тэрыторыю краіны. Стварэньне умоў для развіцьця клястэраў IT у розных рэгіёнах краіны.
- Стварэньне ўмоў для разбудовы і разьвіцьця адукацыйна-навуковых і мэдыцынскіх клястэраў.
- Стварэньне ўмоў для ўключэньня інавацыйных суб’ектаў у міжнародную каапэрацыю індустрыі ведаў.
- Пасьлядоўная трансфармацыя дзяржаўных машынабудаўнічых прадпрыемстваў, якія вытвараюць не канурэнтную прадукцыю, у клястэры скаапэраваных прыватных сярэдніх і малых прадпрыемстваў па вытворчасьці камплектуючых, якія ўключаныя ў міжнародную каапэрацыю, у тым ліку зборачных падпрыемстваў дзеля забесьпячэньня галоўным чынам унутранага рынку.
- Разьвіцьцё прыватных інжынэрынгавых прадпрыемстваў, якія працуюць на ўнутраны і міжнародны рынкі.
- Стварэньне ўмоваў дзеля пастаяннага ўзрастаньня ўнутраных інвэстыцыйных рэсурсаў.
  Задача: Пазбавіцца залежнасьці эканомікі ад замежных пазыкаў і інвэстыцыяў.

## 3. Бюджэтная палітыка

*Падрыхтаваў С. Папкоў.*

3.1. Прыярытэтам бюджэтнай палітыкі новай Беларусі, як і ўсёй дзяржаўнай палітыкі краіны, ставіцца ўзрастаньне інтэлектуальнага патэнцыялу дзяржавы. Бюджэтная палітыка новай Беларусі грунтуецца на прыватнай уласнасьці, самакіраваньні сельскіх і гарадзкіх грамадаў людзей, прыярытэту адукацыі, навукі, сацыяльнага ўладкаваньня

і здароўя грамадзянаў. Бюджэтны прыярытэт адукацыі, навукі і здароўя грамадзянаў абумоўлены неабходнасьцю фармаваньня актыўнага, разумнага, здаровага чалавека, здольнага арганізаваць сваё жыцьцё.

3.2. Бюджэтная палітыка фармуе фінансавыя ўзаемасувязі мясцовых грамадаў* (супольнасьцяў) людзей і дзяржаўнага бюджэту.

3.3. Павінны быць распрацаваныя агульнадзяржаўныя нормы грашовага забесьпячэньня мэдычнага абслугоўваньня дашкольнага выхаваньня і школьнай адукацыі дзяцей. Гэтыя нормы забесьпячэньня залежаць ад узроўню бюджэту і вызначаюцца пры складаньні бюджэту.

3.4. Бюджэтная палітыка шчыльна зьвязаная з адміністрацыйным падзелам дзяржавы: цэнтральныя органы; ваяводзтва; сталічнае места Менск; павет; горад; гарадзкі раён; староства.

3.5. Кансалідаваныя даходна-расходныя бюджэты фармуюць цэнтральныя органы, павет і горад (у тым ліку сталічнае места Менск)*. Такі падыход забясьпечвае эфэктыўнасьць самакіраваньня і аптымізацыю колькасьці чыноўніцтва.

*<u>***Заўвага:***</u> У пэрспэктыве, калі ўмацуецца адміністрацыйны падзел і сістэма самакіраваньня, права фармаваць даходна-расходныя бюджэты могуць атрымаць таксама гарадзкія раёны. Прытым працэс будзе мець паступовы характар (па меры высьпяваньня абставінаў).

3.6. Павет і горад зьяўляюцца галоўнымі тэрытарыяльна-эканамічнымі суб'ектамі.

Падаткі з фізычных і юрыдычных асобаў, якія дзейнічаюць на тэрыторыі павету і гораду дзеляцца на часткі, якія вызначаюцца дамовай паміж Міністэрствам фінансаў і Управай павету і гораду.

У выпадку недахопу сродкаў мясцовага (павет-горад) бюджэту дзеля забесьпячэньня нормаў на адукацыю, мэдыцыну, сацыяльныя выдаткі з дзяржбюджэту выдзяляюцца субвэнцыі. Гэта вызначаецца дамовай паміж Міністэрствам фінансаў і ўправамі павету і гораду

Расходны бюджэт павету і горада ўтрымліае дзьве часткі:

– 1-я частка – гэта разьмеркаваньне сумаў для расходных бюджэтаў старостваў і гарадзкіх раёнаў. Разьмеркаваньне адбываецца ў прапорцыі з унёскам старостваў і гарадзкіх раёнаў у даходны бюджэт павету і гораду.
– 2-я частка – гэта фінансаваньне агульнапавятовых і агульнагарадзкіх функцый (п.3.16, 17).

3.7. Ваяводзтва зьяўляецца пераважна тэрытарыяльна-палітычным суб'ектам мясцовай улады. У эканамічным накірунку дзейнасьці яно забясьпечвае эканамічныя зносіны паветаў, садзейнічае эканамічным сувязям паветаў з іншымі ваяводзтвамі, а таксама з замежнымі эканамічнымі суб'ектамі. Арганізоўвае інфраструктурныя праекты, якія ахопліваюць некалькі паветаў ваяводзтва. Удзельнічае ў агульных праектах з іншымі ваяводзтвамі.

3.8. Ваяводзтва, староства і гарадзкі раён фармуюць толькі расходныя бюджэты.

3.9. Расходны бюджэт ваяводзтва складаецца з адлічэньняў павятовых і гарадзкіх бюджэтаў і зацьвярджаецца Радай Ваяводзтва. Норма адлічэньня павету і горада ў ваяводзтва ўзгадняецца з Радай павету і Магістратам горада.

3.10. Староствы і гарадзкія раёны ўдзельнічаюць у фармаваньні даходнага бюджэту павету і горада, прадстаўляюць у павет і горад поўную інфармацыю па эканамічнай дзейнасьці юрыдычных і фізічных асобаў на тэрыторыі староства і гарадзкога раёна.

Расходны бюджэт староства і гарадзкога раёна фармуецца Радай староства і гарадзкога раёна і зацьвярджаецца Радай павету і Магістратам горада.

3.11. Бюджэт Сталічнага места Менск ствараецца паводле прынцыпу мясцовага (павет-горад) бюджэту і фінансаваньня.

Гарадзкія раёны ўдзельнічаюць у фармаваньні даходнага бюджэту Менску, прадстаўляюць у Магістрат поўную інфармацыю па эканамічнай дзейнасьці юрыдычных і фізічных асобаў на тэрыторыі гарадзкога раёна.

Расходны бюджэт гарадзкога раёна фармуецца Радай гарадзкога раёна і зацьвярджаецца Магістратам Менска.

3.12. Пры фармаваньні даходнай часткі бюджэту недапушчальныя «рэквізіцыі» часткі чыстага прыбытку з высокарэнтабельных прадпрыемстваў.

3.13. <u>Крыніцы папаўненьня дзяржаўнага бюджэту:</u>
- Здабыткі ад дзяржаўнай уласнасьці (у тым ліку ад вытворчасьці, платы за арэнду і канцэсіі).
- Падаткі, акцызы.
- Мытныя пошліны.

3.14. <u>Цэнтральнае бюджэтнае фінансаваньне:</u>
- Цэнтральная выканаўчая ўлада.
- Цэнтральная заканадаўчая ўлада.
- Цэнтральныя праваахоўныя структуры.
- Судовая сістэма.
- Войска.
- Памежная варта.
- Мытня.
- Адукацыя.
- Ахова здароўя.
- Сацыяльныя выплаты.
- Навука.
- Дыпляматыя.
- Культура (музэі, бібліятэкі, тэатры, ахова помнікаў культуры і інш.).
- Ахова прыроды (заказьнікі і інш).
- Экстэрытарыяльныя службы.
- Спэцыялізаваныя фонды.
- Інвэстыцыйныя фонды.

3.15. <u>Выдаткі бюджэту ваяводзтва:</u>
- органы ўлады ваяводзтва,
- мерапрыемствы, зацьверджаныя Радай ваяводзтва,
- распрацоўка праектаў, зацьверджаных Радай ваяводзтва.

3.16. <u>Крыніцы папаўненьня мясцовага (павет-горад) бюджэту (1-я частка):</u>
- здабыткі ад уласнасьці.
- Мясцовыя падаткі і зборы.
- Частка агульнадзяржаўных падаткаў (па дамове з Мінфінам).
- Дадатковыя субвэнтныя трансфэрты Мінфіна.

3.17. <u>Мясцовае (павет-горад) бюджэтнае фінансаваньне (2-я частка):</u>
- Дашкольнае выхаваньне і школьная адукацыя.
- Мэдычнае абслугоўваньне.
- Мясцовыя органы ўлады.

- Сацыяльная дапамога.
- Ахова парадку.
- Ахова тэрыторыі.
- Экалёгія.
- Інвэстыцыйны фонд (жыльлё, камунікацыі, транспарт, сувязь, энэргетыка і інш.).

## 4. Падаткі

*Падрыхтаваў*
*П. Мірановіч*

Пры пабудове новай падаткавай сістэмы, простай і зразумелай для ўсіх, асноўнымі прыярытэтамі і дзеяньнямі павінны быць:

4.1. Правядзеньне комплексу мерапрыемстваў па пашырэньні падатковай базы.

Прыняцьце Закону аб падатковай амністыі для вывядзеньня бізнэсу з “ценю”, стварэньне новых прадпрыемстваў, заснаваных на сучасных тэхналёгіях, прыцягненьне замежных інвэстыцыяў, скасаваньне большай часткі ільготаў, пераход ад спэцыяльных рэжымаў падаткаабкладаньня да агульнай сістэмы падаткаабкладаньня.

Ільготныя фіскальныя рэжымы могуць стасавацца (ужывацца) толькі дзеля прыцягненьня замежных інвэстыцыяў, падтрымкі інавацыйнай дзейнасьці альбо для пераадоленьня беспрацоўя ў дэпрэсіўных рэгіёнах, а таксама для мікрабізнэсу (калі прадпрымальнік працуе без найму працоўнай сілы).

4.2. Паступоваяе зьмяншэньне агульнага ўзроўню падатковай нагрузкі шляхам адмены асобных падаткаў зьніжэньня ставак падаткаў, збораў, адлічэньняў у сацыяльныя фонды, ліквідацыі схаванага падаткаабкладаньня. Працэс зьмяншэньня падаткаў зойме некалькі гадоў. На фінальным завяршэньні рэформы падаткавая нагрузка не павінна перавышаць 20-25 адсоткаў ВУП.

4.3. Ліквідацыя практыкі падвойнага падаткаабкладаньня.

Адзін і той жа аб’ект падаткаабкладаньня можа абкладацца падаткам толькі аднаго віду і толькі адзін раз за вызначаны заканадаўствам падаткавы перыяд.

4.4. Выроўніваньне ўмоваў падаткаабкладаньня для ўсіх падаткаплатнікаў. Уніфікацыя ставак падаткаабкладаньня.

4.5. Дэцэнтралізацыя дзяржаўных фінансаў і заканадаўчае замацаваньне за мясцовымі бюджэтамі права на падаткі і зборы, дастатковыя для выкананьня ворганамі мясцовага самакіраваньня сваіх абавязкаў згодна з дзейным заканадаўствам.

Прадстаўнічыя ворганы мясцовага самакіраваньня згодна з Падатковым кодэксам надзяляюцца паўнамоцтвамі ўводзіць (адмяняць) мясцовыя падаткі, уплата якіх абавязковая на адпаведнай тэрыторыі ў межах гранічных ставак прадугледжаных Падатковым кодэксам.

Інфармацыю аб увядзеньні мясцовых падаткаў, аб зменах ва ўмовах аплаты або адмене мясцовых падаткаў прадстаўнічы ворган мясцовага самакіраваньня абавязаны накіраваць у Міністэрства па падатках і зборах, а таксама ў іншыя адпаведныя падаткавыя ворганы.

4.6. Прадугледзець ажыцьцяўленьне гнуткай падатковай палітыкі, якая павінна будавацца на разумным спалучэньні непасрэдных і ўскосных падаткаў, на выроўніваньні падаткавага цяжару, што дазваляе улічваць, як платаздольнасьць, маёмаснае становішча падаткаплатнікаў, так і даходы, якія яны атрымліваюць.

4.7. Распрацаваць і прыняць новы Падаткавы Кодэкс Рэспублікі Беларусь, дзе прадугледзець ня больш за сем агульнадзяржаўных падаткаў і адзін дзяржаўны мясцовы падатак:

Прапануюцца наступныя падаткі:

– Падаходны падатак.
– Падатак на прыбытак.
– Падатак на дабаўленую вартасьць.
– Акцызы.
– Падатак на імпарт і экспарт (мытныя пошліны).
– Падатак за карыстаньне дзяржаўнымі прыроднымі рэсурсамі.
– Сацыяльны падатак (адлічэньні ў фонд сацыяльнай абароны насельніцтва).*
– Мясцовы падатак на маёмасьць.

***Заўвага:*** У першыя гады рэформаў сацыяльны падатак павінен быць істотна зьніжаны.

4.8. Стварыць адзіную падаткавую праўную базу, дзе прадугледзець палажэньне аб тым, што ніхто іншы, акрамя заканадаўчага воргана (парляманту), ня можа адмяняць ці ўводзіць падаткі і зборы, зьмяншаць іх стаўкі (акрамя мясцовага падатку на маёмасьць), прымаць іншыя рашэньні аб падатках.

Заканадаўчыя акты, не зьвязаныя з пытаньнямі падаткаабкладаньня, не павінны утрымліваць нормаў, якія ўсталёўваюць асаблівы парадак падаткаабкладаньня. Калі ў непадаткавых законах прысутнічаюць нормы, якія тычацца падаткавага заканадаўства, то іх можна прымяняць толькі ў выпадку, калі яны не супярэчаць Падаткаваму кодэксу.

4.9. У адпаведнасьці з Падаткавым кодэксам прадугледзець функцыю **Падаткавага дарадцы,** які будзе аказваць неабходную дапамогу падаткаплатнікам (кансультацыі, запаўненьне падаткавых дэклярацый і г. д.) Падатковым дарадцам можа быць бухгалтар альбо іншая асоба з адпаведнай адукацыяй, якая дзейнічае на падставе ліцэнзіі выдадзенай падаткавым органам. Дапамогу ў запаўненьні падаткавых дэклярацый можа аказваць бясплатна таксама сам падаткавы орган, калі таго вымагаюць абставіны.

4.10. У новым Падаткавым Кодэксе прадугледзець пасаду **Падаткавага Правамоцніка (амбудсмэна),** які прызначаецца Урадам і зацьвярджаецца Парлямантам, мае сваіх прадстаўнікоў у паветах. Падаткавы Правамоцнік (амбудсмэн) ажыцьцяўляе наглядныя функцыі за выкананьнем падаткавага заканадаўства падаткавымі органамі. Пасьля стабілізацыі эканамікі пасада амбудсмэна ліквідуецца.

4.11. Спрасьціць камунікацыю падатковых органаў з падаткаплатнікамі. Увесьці аўтаматызацыю сістэмы фінансавых разьлікаў. Уніфікаваць бухгалтарскі ўлік і справаздачнасьць з міжнароднымі стандартамі. Прадугледзець атэстацыю супрацоўнікаў падатковай службы і падвышэньне заработнай платы**.

****Заўвага:*** Магчымае ўключэньне Міністэрства па падатках і зборах і Мытнага Камітэту ў склад Міністэрства Фінансаў асобнымі дэпартамантамі з рэарганізацыяй штатаў і пераатэстацыяй супрацоўнікаў.

4.12. У Падаткавы кодэкс увесьці палажэньне пра асаблівыя (адменныя) умовы пры абвяшчэньні ваеннага альбо надзвычайнага становішча.

4.13. Такія сферы дзейнасьці, як экатурызм, этнатурызм, аграрурызм, могуць атрымоўваць падаткавыя льготы, асабліва пры ўмове іх удзелу ў рэстаўрацыі і аднаўленьні помнікаў гісторыі і ккультуры.

4.14. **Падсумаваньне.** Галоўнае пры правядзеньні падаткавай рэформы:

- напаўненьне бюджэту з дапамогай правядзеньня шырокіх эканамічных пераўтварэньняў і актыўнай барацьбы з карупцыяй;
- адмена асобных падаткаў і збораў,
- зьніжэньне падаткавых ставак павінна адбывацца паступова з адначасовым скасаваньнем падаткавых ільготаў і пашырэньнем падаткавай базы. Гэта дазволіць пазбегчы дэфіцыту бюджэту;
- пасьлядоўныя захады па спрашчэньні падатковага адміністраваньня;
- асаблівага падыходу патрабуе праца з кадрамі падатковых органаў. Прадугледзець хуткую іх падрыхтоўку і павышэньне кваліфікацыі.

**Асноўныя прынцыпы падаткавай рэформы:** зьмяншэньне колькасьці падаткаў, нізкія стаўкі, лёгкасьць уплаты, жорсткі кантроль за няплатнікамі, аднолькавыя правілы для ўсіх падаткаплатнікаў.

# 5. Зямля

*Падрыхтаваў: С. Папкоў*

**5.0. Уводная нататка**

Ствараецца нацыянальная праграма па адраджэньні і разьвіцьці беларускай вёскі. Спыняецца зьнішчэньне паселішчаў пад відам будаўніцтва так званых “агра-гарадкоў”. Лясы, насельнікі лясоў, лясная флора і фаўна, прыродныя вадаёмы, рэкі і насельнікі рэк і вадаёмаў, нетры зямлі, паветраная прастора зьяўляюцца дзяржаўнай уласнасьцю і не падлягаюць прыватызацыі. Грамадзяне Беларусі могуць вольна карыстацца лясамі, вадаёмамі, прыродным асяродзьдзем у межах прынятага заканадаўства.

У адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформе прадугледжана рэанімацыя сацыяльна-ўрбаністычных функцыяў мястэчак, аднаўленьне сістэмы мясцовых дарог, стварэньне сродкаў камунікацыяў і сувязі. Ніхто ня будзе мець права зганяць чалавека з абжытага месца. Ствараюцца праграма, навукова-дасьледчы інстытут і міжведамасная вытворчая арганізацыя па аднаўленьні і рэанімацыі беларускіх рэк, вадаёмаў і прыроднага асяродзьдзя.

Вяртаецца чарнобыльскае заканадаўства 90-х гадоў, ільготы ліквідатарам, забесьпячэньне і падтрымка людзей у зонах малой радыяцыі. Спыняецца сельгасвытворчасьць на радыяцыйна забруджаных землях, уведзеная аўтарытарным рэжымам.

Радыяцыйна забруджаная тэрыторыя аб“яўляецца зачыненай для любой прамысловай вытворчасьці і гаспадарчай дзейнасьці, акрамя экстрэмальнага турызму і адпаведных навуковых дасьледаваньняў, абвяшчаецца запаведнай зонай радыяцыйнай катастрофы і прыроднай рэанімацыі. Праводзіцца комплекснае дасьледаваньне радыяцыйна забруджаных тэрыторыяў, інфармацыя даводзіцца да насельніцтва.

* * *

5.1. Ствараецца нацыянальнае заканадаўства аб уласнасьці на зямлю, якое прадугледжвае два этапы.

5.2. **Першы этап** – прыняцьце заканадаўства аб прыватызацыі зямлі, якое вызначае парадак прыватызацыі зямлі.

5.3. Мэты прыватызацыі зямлі:

- Разьвіцьцё сацыяльнай і эканамічнай актыўнасьці чалавека.
- Эфэктыўнасьць гаспадараньня.

5.4. Збалянсаваны падыход:

- Нельга драбніць зямлю на маленькія ўчасткі, што прывяло б да нізкай эфэктыўнасьці яе выкарыстаньня.
- Трэба стварыць умовы, каб зямля не канцэнтравалася ва ўласнасьці невялікага кола ўласьнікаў. Доступ да зямлі не павінны быць абмежаваны для наступных пакаленьняў грамадзянаў Беларусі.
- Тэрмін пэрыяду прыватызацыі – 5 гадоў (дзеля адаптацыі да новых умоваў гаспадараньня на зямлі ў пераходны пэрыяд).

5.5. Ствараецца агульны Дзяржаўны Зямельны Фонд краіны разьмеркаваны паміж **Сельскімі Самакіроўнымі Зямельнымі Грамадамі (**скарочана **ССЗГ** альбо – **Зямельная грамада),** кампэтэнцыя якіх вызначана Статутам грамады і заканадаўствам.*

***Заўвага-1***. Зямельныя фонды мясцовых Зямельных грамадаў зьяўляюцца ворганамі самакіраваньня.

**Функцыі ССЗГ:** маніторынг зямельных рэсурсаў мясцовай грамады, рэгістрацыя землеўласьнікаў і землекарыстальнікаў, каапэратыўныя зносіны з суседнімі мясцовымі грамадамі. Кантроль за выкарыстаньнем земляў, дачыненьні з дзяржаўнымі зямельнымі ворганамі. Заключэньне дамоваў на экспэртызу праектаў выкарыстаньня зямлі. Заключэньне дамоваў з уласьнікамі і арандатарамі зямлі пра ўмовы выкарыстаньня зямлі.

**Функцыі Дзяржаўнага Зямельнага Фонду:** маніторынг дзяржаўных земляў і іх выкарыстаньня, продаж (перадача) дзяржаўных земляў мясцовым грамадам, выкуп зямлі ва ўласьнікаў і мясцовых грамадаў для дзяржаўных патрэбаў, продаж і перадача ў арэнду зямельных участкаў. Заключэньне дамоваў на экспэртызу праектаў выкарыстаньня зямлі. Заключэньне дамоваў з уласьнікамі і арандатарамі зямлі пра ўмовы выкарыстаньня зямлі.

**Зямельная біржа:** афармленьне дамоваў куплі-продажу і арэнды зямлі паміж прыватнымі ўласьнікамі і пакупнікамі зямлі.

**У заканадаўстве будзе прадугледжана** падрыхтоўка сялянскіх кадраў пры дапамозе дзяржавы (у тым ліку за мяжой) па авалоданьні тэхналёгіямі і уменьнем гаспадараньня на зямлі (атрыманьне сэртыфіката).

5.6. Права на прыватызацыю зямлі набываюць **усе грамадзяне Беларусі.**

5.7. Прэтэндэнтам на прыватызацыю ўчастка зямлі зьяўляецца **сям'я**

5.8. Плошча зямельнага ўчастка сельскагаспадарчай зямлі, які перадаецца ва ўланасьць кожнай сям'і, будзе складаць прыкладна ад 2 да 4 га (у залежнасьці ад кадастравай ацэнкі і колькасьці сем'яў) Сям'я можа карыстацца сваім участкам альбо не карыстацца і пакінуць свой участак зямлі пад арэнду ў Зямельным Фондзе. Такая сям'я будзе атрымліваць ад Зямельнага Фонду адлічэньні за арэнду ўчастка. Памер адлічэньняў для сям'і будзе залежаць ад колькасьці арандатараў. У любы час сям'я можа адмовіцца ад арэнды і ўзяць свой участак для сельскагаспадарчага выкарыстаньня**.

***Заўвага-2.*** У нетыповых выключных выпадках (напрыклад, дачыненьні з адзінокімі людзьмі) парадак валоданьня зямельным участкам вызначаецца заканадаўствам.

5.9. **Другі этап** – стварэньне рынку зямлі.

5.10. Рынак зямлі пачынае дзейнічаць пасьля завяршэньня пэрыяду прыватызацыі зямлі.

Удзельнікі рынку: фізічныя асобы, юрыдычныя асобы (зямельныя фонды мясцовых грамадаў, зямельныя банкі, пэнсійныя фонды, Дзяржаўны Зямельны Фонд, тэрытарыяльныя зямельныя біржы).

5.11. Функцыі рынку: купля і продаж зямлі, арэнда зямлі.

5.12. Продаж зямлі толькі грамадзянам Рэспублікі Беларусь і юрыдычным асобам Беларусі (без удзелу замежных фізічных і юрыдычных асобаў).

5.13. Замежныя фізічныя і юрыдычныя асобы, юрыдычныя асобы з удзелам замежнага капіталу (сумесныя прадпрыемствы) маюць права на арэнду зямлі.

5.14. Абмежаваньне тэрмінаў арэнды: мінімум 5 гадоў і максымум 35 гадоў

5.15. Прымаюцца палажэньні, якія запабягаюць драбненьню зямлі і абмяжоўваюць максімальную колькасьць зямлі ў прыватнай уласнасьці і ў арэндзе.

Зямельныя вытворчыя ўчасткі плошчай 2 га ня дзеляцца. Купля-продаж зямельных участкаў, передача ў спадчыну праводзіцца ўчасткамі плошчай кратнай 2 га. Памер максымальнага надзелу павінен складаць 100 – 150 га (у залежнасьці ад кадастравай ацэнкі).

У спадчыну без абкладаньня падаткам перадаецца толькі той участак зямлі, які атрыманы ва ўласнасьць падчас прыватызацыі, астатняя прыватная зямля абцяжарваецца падаткам на спадчыну.*** Спадчынныя дачыненьні (напрыклад, калі ёсьць некалькі спадчыньнікаў альбо няма ніводнага) рэгулююцца законам.

***__*Заўвага-3*__ Калі спадчыньнікі працягваюць вытворчасьць на зямельных рэсурсах гаспадаркі, яны маюць магчымасьць сплаціць падатак на спадчыну ў растэрміноўку. Калі спадчыньнікі не плануюць працягваць вытворчасьць на зямлі, то яна выстаўляецца на продаж і з сумы рэалізацыі выплочваецца падатак на спадчыну.

## __*5.16. Рэзюмэ:*__ Асноўныя прынцыпы рэформы.****

- Права на прыватызацыю зямлі маюць усе грамадзяне Беларусі;
- Прэтэндэнтам на прыватызацыю ўчастка зямлі зьяўляецца сям'я
- Велічыня участка прыватызацыі вызначаецца па колькасьці сем'яў у Беларусі
- Ствараецца агульны Дзяржаўны Зямельны Фонд краіны
- Ствараюцца Сельскія Самакіроўныя Зямельныя Грамады
- Продаж зямлі толькі грамадзянам Рэспублікі Беларусь і юрыдычным асобам Беларусі (без удзелу замежных фізічных і юрыдычных асобаў).
- Удзельнікі рынку: фізічныя асобы, юрыдычныя асобы – (зямельныя фонды мясцовых грамадаў, зямельныя банкі, пэнсійныя фонды, Дзяржаўны Зямельны Фонд, тэрытарыяльныя зямельныя біржы).
- Абмежаваньне драбленьня зямлі.
- Абмежаваньне максімальнай колькасьці зямлі ў прыватнай уласнасьці і ў арэндзе.

****__*Заўвага-4.*__ Зямельная рэформа і зямельныя дачыненьні ўласнасьці на зямлю вымагаюць ствараць абёмнае заканадаўства непасрэднага дзеяньня. Распрацоўшчыкі Народнай Праграмы апрацавалі некаторыя палажэньні такога заканадаўства, прыкладны Статут Сельскай Самакіроўнай Зямельнай Грамады і іншае. Аднак усё гэта павінна стацца пазьней заканадаўчай працай Парляманту Вольнай Беларусі, які будзе зыходзіць з прынцыпаў Народнай Праграмы.

__*Тлумачэньне-1*__

Прыярытэтам кожнай рэформы мусіць быць здароўе, сацыяльная і эканамічная дзеяздольнасьць людзей, узрастаньне інтэлектуальнага патэнцыялу народу і дабрабыту. Таму на першае месца рэформы ў сфэры ўласнасьці ставіцца разьвіцьцё сацыяльнаай і эканамічнай актыўнасьці грамадзянаў.

**Прыватная ўласнасьць** сям'і, арганізацыя эканамічнага жыцьця сям'і на грунце сваёй уласнасьці (участка зямлі, сродкаў вытворчасьці, нерухомасьці, грошай ды

інш.) ёсьць неад’емнай умовай поўнавартаснага выхаваньня і разьвіцьця дзяцей і моладзі. Прыватная ўласнасьць умацоўвае сям’ю і асобу, робіць іх свабоднымі і актыўнымі ў справах арганізацыі як жыцьця сваёй сям’і, так і жыцьця мясцовых грамадаў і дзяржавы.

***Тлумачэньне-2***

Існуе прагматычны лібэральны падыход да прыватызацыі, дзе на першае месца рэформаў ставіцца эфэктыўнасьць таварнай вытворчасьці,

Галоўная мэта эканамічных рэформаў, лічаць прадстаўнікі такога падыходу, – павышэньне эканамічнай эфэктыўнасьці: рост фондааддачы, прадукцыйнасьці працы і, на гэтай аснове, стабільны рост узроўню жыцьця.

Галоўны рэсурс – чалавечы фактар: свабода прадпрымальніцтва, свабода канкурэнцыі, укараненьне апошніх дасягненьняў у мэнэджменце і тэхналёгіях.

Такая пастаноўка мэтаў і ўсталяваньне сістэмы, дзе чалавек гэта рэсурс (хоць і галоўны) прыводзіць да дзікага капіталізму, карупцыі, крызісу і зьбядненьня большасьці людзей і дзяржавы. Таму патрабуецца ўзважаны, збалянсаваны падыход у пытаньнях прыватызацыі і рынку зямлі. Суб’ектам прыватызацыі зямлі павінна быць сям’я – цаглінка грамадзтва рэальна здольная да працы на зямлі з працягам у будучыню. Рэформа павінна быць скіраваная на стварэньне грамадзтва гаспадароў на зямлі, але не брукаваць дарогі да зямельных алігархаў і наёмнай беднаты.

5.17. **Рэстытуцыя зямлі.**

Прадугледжана вяртаньне ўласьнікам зямельнай уласнасьці, адабранай у беларусаў маскоўскімі бальшавікамі і іншымі акупантамі.*****.

*****<u>***Тлумачэньне-3:***</u> Гісторыя Беларусі, пачынаючы з канца ХУІІІ стагодзьдзя, гэта гісторыя акупацыяў і змаганьня з акупантамі. Акупацыйныя ўлады рабавалі, адбіралі землі ў сялянаў, сялілі на беларускай зямлі асаднікаў, канфіскоўвалі, прадавалі і дарылі сваім абшарнікам, вайскавікам, фаварытам ды набліжаным да ўлады. Пасьля 1991 году гэты рабаўнічы працэс забіраньня беларускай зямлі часткова запаволіўся. Ён будзе спынены цалкам у вольнай Беларусі. Разам з прыватызацыяй пачнецца рэстытуцыя зямлі. Акупацыйная ўласнасьць замежных грамадзянаў, якая была захопленая ў беларусаў, не падлягае рэстытуцыі.

5.18. Права на вяртаньне зямлі, будуць мець толькі грамадзяне Беларусі, якія прадставяць неабходныя дакуманты аб валоданьні зямлёй.

5.19. Грамадзянін Беларусі, які ня зможа прад’явіць дакумантаў на зямельную ўласнасьць, мае права прадставіць трох сьведкаў, якія пад прысягай засьведчаць аб прыналежнасьці яму азначанай зямлі.

Грамадзянін, які вярнуў зямлю на падставе сьведчаньня сьведкаў, заключае дамову з Зямельнай Грамадой, дзе прадугледжана, што ён павінен працаваць на гэтай зямлі, абрабляць яе і на працягу 20 год ня мае права прадаваць. Калі дамова будзе парушана, зямля пераходзіць у валоданьне Зямельнай Грамады.

5.20. Грамадзянін замежнай краіны, які прад’яўляе патрабаваньне і неабходныя дакуманты на рэстытуцыю зямлі ў Беларусі, можа яе атрымаць ва ўласнасьць Пастановай Сойму пры ўмове атрыманьня ім грамадзянства Беларусі, вяртаньня на пастаяннае жыхарства ў Беларусь і абавязковасьці асабістай сельскагаспадарчай працы на вернутай зямлі бяз права яе продажу згодна з вызначаным законам тэрмінам (20 гадоў).

5.21. Гаспадары («фэрмеры»), якія ўжо працуюць на правах арэнды зямлі, захоўваюць свой статус і арандаваны надзел, атрымліваюць ва ўласнасьць базавы ўчастак зямлі (ад 2 да 4 га) згодна з правіламі прыватызацыі.

5.22. Парадак рэстытуцыі зямельных надзелаў заканадаўча вызначае парлямант (Сойм).

# 6. Энэргетыка

*Падрыхтавана*
*паводле матар’ялу*
*М. Крыжаноўскага*

Энэргетыка ёсьць галоўным матар’яльным чыньнікам існаваньня эканомікі і дзяржавы. Спажываньне энэргіі чалавецтвам увесь час узрастае, разам з яго разьвіцьцём. Пошукі новых крыніцаў энэргіі ёсьць глабальнай праблемай цяперашняга чалавецтва. Разам з тым энэргетычная незалежнасьць дзяржавы зьяўляецца гарантыяй і грунтам яе палітычнай незалежнасьці. Дзеля забясьпячэньня гэтых умоў павінна праводзіцца мэтанакіраваная дзяржаўная палітыка. Беларуская дзяржаўная палітыка ў галіне энэргетыкі мусіла б разьвівацца па некалькіх накірунках.

6.1. Пошукі, дасьледаваньні, здабыча і выкарыстаньне прыродных рэсурсаў і нетраў. Стымуляцыя разьвіцьця геалягічнай навукі.

6.2. Пошукі і ўкараненьне новых тэхналёгій у выкарыстаньні прыродных рэсурсаў.

6.3. Дывэрсіфікацыя паставак энэргапрадуктаў. Прынцып дывэрсіфікацыі ўводзіцца ў заканадаўства, як неабходнае патрабаваньне у галіне пошуку зьнешніх крыніцаў энэргіі. (Выкарыстаньне звадкаванага газу і інш.).

6.4. Выкарыстаньне ўзнаўляльных крыніцаў энэргіі (УКЭ).

6.5. Антыманапольная палітыка міжнароднай каапэрацыі ў галіне гандлю і транзіту энэргарэсурсаў (Балта-Чарнаморскі нафтавы калектар як прапанова і пэрспэктыва). Стварэньне і ўдасканаленьне антыманапольнага заканадаўства.

6.6. Забарона на будаўніцтва атамных электрастанцый. Распараджэньнем Ураду спыняецца будаўніцтва Астравецкай атамнай электрастанцыі. Узбуджаецца крымінальная справа і сьледзтва па афёры з Астравецкай АЭС.

6.7. Адмяняюцца рэжымныя квоты і абмежаваньні на разьвіцьцё ўзнаўляльнай энэргетыкі.

6.8. У Міністэрстве энэргетыкі ствараецца аўтаномны Дэпартамант Узнаўляльнай Энэргетыкі з асобным фінансаваньнем і пашыранымі правамі.

6.9. Разьвіцьцё ўзнаўляльнай энэргетыкі стане адным з прыярытэтаў у навуковых дасьледаваньнях, тэхналёгіях, будаўніцтве і інвэстыцыйнай палітыцы.

6.10. Стымуляцыя навуковых дасьледваньняў у галіне пошукаў новых тэхналёгій і новых крыніцаў энэргіі.*

****<u>Тлумачэньне-1.</u>*** Неабходны рост вытворчасьці энэргіі магчымы выключна пры выкарыстаньні інавацыйных тэхналёгій і больш эфэктыўнага пераўтварэньня энэргіі. Па навуковых ацэнках рэсурсы ўсіх узнаўляльных крыніцаў энэргіі ў шмат разоў пераўзыходзяць сёньняшні і прагнозны ўзровень энэргаспажываньня.

УКЭ адносна раўнамерна распаўсюджаныя па тэрыторыі зямнога шару, не знаходзяцца ў манапольным валоданьні абмежаванага кола краінаў і таму разглядаюцца як крыніцы энэргіі, выкарыстаньне якіх спрыяе павышэньню энэргетычнай бясьпекі многіх краінаў, зніжэньню залежнасьці ад імпарту энэргетычных рэсурсаў і, адпаведна, умацаваньню палітычнай стабільнасьці ў сьвеце.

Відавочна, што акрамя ўзнаўляльных крыніцаў энэргіі ў людзей няма альтэрнатывы надзейнаму і невычарпальнаму энэргазабяспечаньню. Але пры існуючым узроўні тэхналягічнага разьвіцьця і кан’юнктуры, якая склалася на сусьветных энэргетычных рынках, такія відавочныя перавагі УКЭ, як невычарпальнасьць, адсутнасьць выдаткаў на паліва і экалягічная бяспека,

пакуль не могуць пераважыць добра адпрацаваныя, простыя і больш танныя мэтады атрыманьня энэргіі з традыцыйнага вуглевадароднага паліва. У такіх умовах большасьць краінаў ужо ўсьвядоміла неабходнасьць дзяржаўнай падтрымкі разьвіцьця УКЭ. Калі ў 1980 – пачатку

90-х гадоў гэтае пытаньне практычна не разглядалася на дзяржаўным узроўні, то ў 1998 – 2005 гадах многія краіны пачалі прымаць захады па распрацоўцы цэлай сістэмы мераў па падтрымцы УКЭ. Колькасьць краін, якія рэалізуюць у той ці іншай меры палітыку падтрымкі УКЭ, павялічылася з 55 у 2005 годзе да 118 у пачатку 2011 году.

Урады многіх краінаў распрацоўваюць сістэмы стымулаў і гарантый, якія маглі б забясьпечыць належныя ўмовы для разьвіцьця ўзнаўляльных крыніцаў энэргіі. Больш э фэктыўным зьяўляецца выкарыстаньне не асобных стымулаў, а іх сістэм, напрыклад, зьніжэньне падатку сумесна з запускам спэцыяльнай адукацыйнай праграмы.

Ва ўмовах Беларусі найбольш пэрспэктыўнымі ўзнаўляльнымі крыніцамі энэргіі зьяўляюцца энэргія біямасы, ветраэнэргетыка, гідраэнэргетыка, сонечная энэргія.

Разьлікі паказваюць, што тэхнічна магчымы і эканамічна мэтазгодны патэнцыял найбольш пэрспэктыўных ва ўмовах Беларусі ўзнаўляльных крыніцаў энэргіі складае больш за 75 млрд. кВт·г/год, што амаль у два разы перавышае аб’ём спажываньня электраэнэргіі ў краіне (каля 38 млрд. кВт·г/год). Відавочна, што патэнцыял узнаўляльных крыніцаў энэргіі ў Беларусі дастатковы для таго, каб ужо ў хуткім часе значна скараціць аб’ёмы выкарыстаньня традыцыйнага вуглевадароднага паліва, імпартаванага з Расеі, а ў пэрспэктыве – поўнасьцю забясьпечыць эканоміку краіны надзейнай і невычарпальнай энэргіяй. У Маскве гэта добра разумеюць, таму імкнуцца як мага хутчэй узяць пад свой кантроль беларускую энэргасістэму, каб прывязаць яе да расейскіх энэрганосьбітаў.

***__Тлумачэньне-2__***. Галоўныя высновы.

1. Асноўнай вартасьцю ўзнаўляльных крыніцаў энэргіі зьяўляецца іх невычарпальнасьць, адсутнасьць выдаткаў на паліва і экалягічная бясьпека.
2. Беларусь валодае вялікім патэнцыялам узнаўляльных крыніцаў энэргіі, які ў два разы перавышае спажываньне электраэнэргіі ў краіне, што дазваляе ўжо ў хуткім часе істотна скараціць аб’ёмы выкарыстаньня вуглевадароднага паліва, якое імпартуецца з Расеі, а ў пэрспэктыве, з пасьпяховым разьвіцьцём ветраэнэргетыкі і сонечнай энэргетыкі, поўнасьцю вырашыць усе праблемы надзейнага і невычарпальнага энэргазабесьпячэньня.
3. Пры існуючым узроўні тэхналягічнага разьвіцьця і кан’юнктуры, якая склалася на сусьветных энэргетычных рынках, відавочныя перавагі ўзнаўляльных крыніцаў пакуль не могуць пераважыць добра адпрацаваныя, простыя і больш танныя мэтады атрыманьня энэргіі з традыцыйнага вуглевадароднага паліва. Таму ўрады многіх краінаў распрацоўваюць сістэмы стымулаў і гарантый, якія забясьпечваюць належныя ўмовы для разьвіцьця ўзнаўляльных крыніцаў энэргіі.
4. Узнаўляльныя крыніцы энэргіі – гэта не толькі альтэрнатыва АЭС і энэргетыцы, заснаванай на выкарыстаньні вуглевадароднага паліва (газ, нафтапрадукты і інш.), але, перш за ўсё, гэта гарантыя надзейнага і невычарпальнага энэргазабесьпячэньня, асноўны накірунак умацаваньня эканамічнай, энэргетычнай, экалягічнай і палітычнай бясьпекі.
5. Атамная энэргетыка з прычыны вялікай рызыкі аварый з цяжкімі наступствамі, з-за абмежаванасьці ядзернага паліва, з-за невырашальнасьці праблемы бясьпечнага захоўваньня (утылізацыі) ядзерных адходаў, з-за вялікіх коштаў электраэнэргіі, выпрацаванай АЭС, ды іншых нэгатыўных чыньнікаў ня мае ніякіх пэрспэктываў. Ужо ў хуткім часе ад яе застануцца толькі непрыемныя ўспаміны.
6. Акрамя ўзнаўляльных крыніцаў энэргіі ў людзей няма іншай альтэрнатывы надзейнага і невычарпальнага энэргазабесьпячэньня.
7. Галоўнай прычынай нізкага ўзроўню разьвіцьця ў Беларусі ўзнаўляльных крыніцаў энэргіі зьяўляецца, празьмерна вялікая (перш за ўсё палітычная) зацікаўленасьць Расеі ў экспарце ў нашу краіну сваіх паліўна-энэргетычных рэсурсаў, якую яна пасьпяхова рэалізуе пры «паслухмянасьці» кіроўнага антыбеларускага рэжыму.
8. Яшчэ дзьве істотныя прычыны неразвітасьці УКЭ ў падрэжымнай Беларусі –адсутнасьць эфэктыўнай дзяржаўнай падтрымкі разьвіцьця гэтай галіны энэргетыкі, стварэньне заканадаўчых перашкодаў і «непрафэсійная» (несумленная) праца ворганаў рэжымнага кіраваньня з замежнымі інвэстарамі.

Па вялікім рахунку, шкоднасьць крыецца ў самым існаваньні антыбеларускага рэжыму і ў ягонай, па сутнасьці, акупацыйнай палітыцы ў Беларусі.

# III. АДУКАЦЫЯ, НАВУКА, КУЛЬТУРА

*Падразьдзел падрыхтаваў*
*Л. Баршчэўскі*

## 1. Адукацыя

**1.0. Уводная нататка**

Неабходнасьць карэннай рэформы адукацыі ў Беларусі вынікае з яе цяперашняй антынацыянальнай ідэалагізаванасьці, русіфікацыі і малой эфэктыўнасьці, асабліва ў сфэры гуманістыкі.

Найперш павінна рэфармавацца сістэма кіраваньня адукацыяй. Міністэрства адукацыі павінна аддаць прыярытэт забесьпячэньню якаснай нарматыўнай базы, ажыцьцяўленьню абавязковых адукацыйных паслугаў у сфэры выхаваньня і адукацыі на розных узроўнях, а таксама кантролю за выкананьнем нацыянальна-культурнага кампанэнту.

Грамадзкія інстытуцыі павінны мець магчымасьць абмяркоўваць сьветапоглядныя асновы адукацыйных праектаў і магчымасьці ўзмацненьня эфэктыўнасьці ажыцьцяўленьня адукацыйных паслугаў.

Адказнасьць за арганізацыю дашкольнага выхаваньня і школьніцтва ў практычным рэчышчы павінна перамясьціцца ў сфэру дзейнасьці ворганаў мясцовага самакіраваньня. Унівэрсытэцкая адукацыя мусіць адпавядаць крытэрам балонскага працэсу. Пры гэтым пад увагу павінна брацца акалічнасьць надзвычайнай слабасьці нацыятворчага кампанэнту ў датыхчасовай дзейнасьці беларускіх установаў вышэйшай адукацыі. Павінны быць зроблены захады па пераадоленьні гэтага недахопу.

* * *

**1.1. <u>Нацыянальныя прынцыпы адукацыі.</u>**

У сістэме вышэйшай школы ствараецца механізм, які будзе забясьпечваць фармаваньне інтэлектуальнай і гуманітарнай эліты нацыі.

Ствараецца нацыянальны гуманітарны ўнівэрсітэт, а таксама шэраг новых унівэрсітэтаў, ліцэяў і калегіюмаў на высокім беларускім узроўні адукацыі.

Рыхтуецца адукацыйная праграма і сістэма нацыянальнай адукацыі на ўзроўні патрабаваньняў 21-га стагодзьдзя і прынцыпаў непарыўнасьці (пераемнасьці) адукацыі.

Аднаўляюцца неабгрунтавана зачыненыя беларускія школы ў сельскай мясцовасьці. Вяртаецца беларуская школа і адукацыя ва ўсёй краіне.

Рэарганізуецца і пашыраецца сістэма дашкольнага дагляду і здаровага дашкольнага выхаваньня дзяцей па правілах гуманізму і нацыянальнай выхаваўчай культуры.

Уся сістэма выхаваньня, навучаньня і адукацыі адбываецца на беларускай мове. Выкладаньне можа быць таксама на іншай мове ў частцы, прадугледжанай заканадаўствам.

1.2. Сістэма адукацыі Беларусі грунтуецца на пераемнасьці традыцыяў нацыянальнага выхаваньня, беларускай народнай пэдагогікі ў спалучэньні з гуманістычным сьветапоглядам, заснаваным на павазе да агульначалавечых, найперш традыцыйных, каштоўнасьцяў. Нацыянальна-культурны кампанэнт палягае перш за ўсё ў асэнсаваным засваеньні цывілізацыйных здабыткаў беларусаў як тытульнай нацыі краіны.

1.3. Сістэма кіраваньня адукацыяй у Беларусі мае грамадзка-дзяржаўны самакіроўны характар. Грамадзтва выступае галоўным замоўцам адукацыйных паслуг і, праз разумную сістэму падаткаабкладаньня, галоўным іх фундатарам.

Грамадзкія аб'яднаньні адпаведнай скіраванасьці ўдзельнічаюць у абмеркаваньні зьменаў, якія насьпелі ў сфэры адукацыі, ажыцьцяўляюць грамадзкую экспэртызу сацыяльна-значных адукацыйных праектаў.

Дзяржава ў асобе Ураду вызначае нормы абавязковага бюджэтнага фінансаваньня адукацыйных паслуг на аднаго выхаванца, навучэнца, студэнта навучальна-выхаваўчых установ розных узроўняў.

**Міністэрства адукацыі:**
– выступае ў ролі каардынатара адукацыйных праектаў, стварэньня нарматыўных дакумэнтаў па бюджэтным фінансаваньні ўнівэрсытэцкай і спэцыяльнай адукацыі, абавязковых адукацыйных стандартаў для ўстаноў адукацыі і выхаваньня ўсіх тыпаў і формаў уласнасьці;
– ажыцьцяўляе кантроль за рэалізацыяй нацыянальна-культурнага кампанэнту ва ўсёй сыстэме адукацыі;
– арганізуе дзяржаўныя іспыты па заканчэньні гімназіі і ліцэю;
– забясьпечвае правядзеньне навуковых экспэртызаў і рэкамэндацыяў да ўжываньня ў сістэме адукацыйных установ абавязковых вучэбных матар’ялаў;
– стварае Дэпартамант кантролю за якасьцю адукацыйных паслугаў;
– прысвойвае кваліфікацыйныя катэгорыі навукова-пэдагагічным і пэдагагічным супрацоўнікам сфэры адукацыйных паслугаў;
– акрэдытуе непублічныя ўнівэрсытэты Беларусі (на іх жаданьне);
– рэпрэзэнтуе дзяржаву ў міжнародных кантактах гэтай сфэры дзейнасьці.

**Органы мясцовага самакіраваньня:**
– займаюцца кадравым, фінансавым і матар’яльна-тэхнічным забесьпячэньнем дзейнасьці публічных падведамных установ дашкольнага выхаваньня, школьніцтва, установ прафэсійнай адукацыі;
– вызначаюць нормы мясцовых датацый на ажыцьцяўленьне адукацыйных паслугаў на адпаведнай тэрыторыі;
– спрыяюць утварэньню і функцыянаваньню грамадзкіх арганізацыяў (Школьная рада, Таварыства Беларускай школы) і супрацоўнічаюць з імі.

1.4. Нарматыў бюджэтнага фінансаваньня адукацыйных праектаў і паслуг у прынцыпе складае 10% і, у кожным разе, а ў першыя гады рэформаў ня можа быць ніжэйшы за 8% ад гадавога ВУП краіны.

1.5. Усе прызначэньні на пасады кіраўнікоў навучальных і навучальна-выхаваўчых установ, кіраўнікоў нацыянальных адукацыйных інстытуцыяў і каардынацыйных органаў адукацыі мясцовага ўзроўню праводзяцца на галоснай конкурснай аснове. Міністар адукацыі прызначаецца Прэм’ер-міністрам краіны са згоды Парляманту.

1.6. Сістэма дашкольнага выхаваньня будуецца на аснове запатрабаваньняў бацькоў пры абавязковым выкананьні нарматыўных актаў, выдадзеных кампэтэнтнымі органамі і інстытуцыямі ў сфэры зьместу выхаваўчага працэсу і рэалізацыі нацыянальна-культурнага чыньніка ў ім.

Асноўная мова выхаваньня ва ўстановах гэтага ўзроўню – беларуская; адначасова заахвочваецца вывучэньне іншых моваў у межах адукацыйна-гульнявога кампанэнту.

1.7. Сістэма сярэдняй адукацыі складаецца з трох ступеняў рэалізацыі адукацыйных паслуг, якія ажыцьцяўляюцца ў базавай школе (1-ы – 6-ы гады навучаньня), гімназіі (7-ы—9-ы гады навучаньня) і ліцэі або прафэсійным коледжы (10-ы—12-ы гады навучаньня).

Дапускаецца стварэньне вучэбных цэнтраў прафэсійнага навучаньня без атрыманьня агульнай сярэдняй адукацыі.

Беларускія ліцэі падзяляюцца на два тыпы: рэальныя і гуманітарныя. Ва ўстановах публічнай адукацыі асноўная мова навучаньня і выхаваньня – беларуская. Непублічныя ўстановы сярэдняй адукацыі I і II ступеняў, а таксама рэальныя ліцэі і прафэсійныя

коледжы, вучэбныя цэнтры могуць мецць іншую асноўную мову навучаньня і выхаваньня, прычым вывучэньне ў іх беларускай мовы прыярытэтнае, выкладаньне гісторыі і геаграфіі Беларусі ажыцьцяўляецца па-беларуску у адаведнасьці з стандартамі і нарматывамі, вызначанымі Міністэрствам адукацыі.

Адукацыя на ўзроўні базавай школы і гімназіі ў Беларусі зьяўляецца абавязковаю: права на яе атрыманьне гарантуецца дзяржавай. Усе ўстановы школьніцтва ў абавязковым парадку рэалізуюць вызначаныя Міністэрствам адукацыі стандарты і па сваім жаданьні могуць выходзіць за іх межы, не парушаючы духу закону. Настаўнікі базавых школаў, гімназіяў, ліцэяў маюць права на свабодны выбар праграм і навучальных дапаможнікаў з адпаведнага рэестру, зацьверджанага Міністэрствам адукацыі на падставе навукова-пэдагагічных і грамадзкіх экспэртызаў. Мінімальная стаўка аплаты працы пэдагагічных супрацоўнікаў сыстэмы школьніцтва не павінна быць ніжэйшай за базавы аклад дзяржаўнага службоўца 3-й катэгорыі.

1.8. Унівэрсытэцкая адукацыя ажыцьцяўляецца праз сетку публічных і непублічных унівэрсытэтаў, якія маюць правы самакіраваньня ва ўсіх сфэрах дзейнасьці, што рэгулюецца статутамі, прынятымі праз дэмакратычнае волевыяўленьне навукова-пэдагагічных супрацоўнікаў адпаведных устаноў.

Непублічныя ўнівэрсытэты, якія атрымалі акрэдытацыю Міністэрства адукацыі, маюць права на атрыманьне бюджэтнай датацыі ў межах вызначаных нарматываў на аднаго студэнта. Міністэрства адукацыі ажыцьцяўляе датацыю на рэалізацыю нацыянальна-культурнага кампанэнту вышэйшай адукацыі ва ўнівэрсытэтах усіх тыпаў і відаў уласнасьці на падставе распрацаваных нарматыўных дакумэнтаў.

1.9. Нарматывы дадатковага фінансаваньня публічных устаноў адукацыі на адпаведнай тэрыторыі вызначаюцца ворганамі мясцовага самакіраваньня. У сфэры прафэсійнай і сярэдняй спэцыяльнай адукацыі частку дадатковых выдаткаў бяруць на сябе зацікаўленыя прадпрыемствы ды ўстановы.

1.10. Найважнейшым чыньнікам агульнаадукацыйнай сярэдняй школы зьяўляецца настаўнік. За гады савецкай акупацыі і за наступны пэрыяд аўтарытарнага антынароднага рэжыму статус настаўніка змалеў, апусьціўся да ганебнага становішча.

Павінна быць створана сістэма пэдагагічнай адукацыі і сацыяльных дачыненьняў, якая запатрабуе настаўнікаў адукаваных, культурных, гуманітарна разьвітых пэдагогаў, паважаных у грамадзтве і ў школе, адказных за сваю пэдагогіку і навучаньне перад сабой, людзьмі і краінай.

1.11. Пры стварэньні дзяржаўнага бюджэту прыярытэтам павінна стаць адукацыя. Мусіць быць значна павялічана зарплата настаўнікам. Павялічваецца колькасьць школьных будынкаў. Колькасьць вучняў у клясе не павінна перавышаць 18 асобаў.

1.12. Прымаецца прафэсійна-этычны кодэкс пэдагога-настаўніка абавязковы для выкананьня.

1.13. Дзяржава стварае ўмовы для абавязкавага забесьпячэньня настаўнікаў жыльлём.

## 2. Навука, культура

*Падрыхтаваў З. Пазьняк*

2.1. Навука ў сучасным сьвеце ёсьць вялікая вытворчая сіла. Высокаразьвітая навука ў гуманітарнай сфэры і ў галіне пэрспэктыўных тэхналягічных накірункаў забясьпечвае прыярытэт дзяржавы ў сусьветнай эканоміцы, гандлі і вытворчасьці. Бядотны стан, у якім апынулася беларуская навука пад недэмакратычным рэжымам, будзе

пераадолены. У вольнай Беларусі навука зойме сваё запатрабаванае, пэрспэктыўнае і пачэснае месца.

2.2. Будзе вернуты вольны статус і самастойнасьць Нацыянальнай Акадэміі Навук Рэспублікі Беларусь.

2.3. Прыярытэт акадэмічных дасьледваньняў будзе скіраваны на разьвіцьцё фундамэнтальнай навукі і новых тэхналёгіяў.

2.4. Будзе адроджаны самастойны Інстытут Беларускай літаратуры, адчыненыя новыя гуманітарна-дасьледчыя акадэмічныя інстытуты. Гуманітарная навука (панішчаная антыбеларускім рэжымам) будзе адноўлена, зойме патрэбнае месца ў сістэме акадэмічных навук.

2.5. Арганізуецца і адчыняецца Інстытут Літаратурнага перакладу на беларускую мову з замежных моваў сусьветнай літаратуры.

2.6. Дзяржава будзе падтрымліваць і разьвіваць стварэньне навукова-дасьледчых цэнтраў пры беларускіх унівэрсітэтах.

2.7. Ствараецца Дзяржаўны Навукова-Дасьледчы і Праектны інстытут аховы і рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры.

2.8. Будынкі, адабраныя рэжымам ад творчых, навукова-дасьледчых і грамадзкіх установаў, вяртаюцца іх ранейшым уласьнікам.

2.9. Беларуская дзяржава будзе падтрымліваць функцыяваньне творчых Саюзаў, суполак і мастацкіх арганізацыяў, паспрыяе адчыненьню новых беларускіх тэатраў, рэарганізацыі і разбудове Нацыянальнай кінастудыі Беларусьфільм, разбудове Нацыянальнага анімацыйнага цэнтру, стварэньню Нацыянальнага ўнівэрсітэту Літаратуры, Тэлебачаньня, Драматургіі, Фатаграфіі, Музыкі і Кіно, падтрымае існаваньне аўтэнтычнага фальклёру і народнай творчасьці.

2.10. Адраджаецца сістэма бібліятэк (у тым ліку сельскіх) на новым узроўні як цэнтраў культуры шматпрофільнага выкарыстаньня (бібліятэка, кнігарня, кіно-відэа заля, інтэрнэт-кавярня, пэрыёдыка, вольная пляцоўка).

2.11. Аднаўляецца ўсеагульная цэнтралізаваная радыёфікацыя краіны на новым тэхналягічным узроўні. Ствараецца новая дзяржаўная радыёстанцыя Беларускай гісторыі, культуры і актуальных навінаў. Вяртаецца і аднаўляецца вяшчаньне зачыненых рэжымам беларускіх радыёстанцыяў.

2.12. Беларуская дзяржава будзе стымуляваць стварэньне і дзейнасьць беларускіх культурніцкіх арганізацыяў, прызначаць датацыі, мінімізаваць плату за арэнду памяшканьняў.

2.13. Будзе падтрымана разьвіцьцё тэхнічных і дакладных навук, інфармацыйных інстытутаў, прадугледжана дафінансаваньне мэдыцынскіх унівэрсітэтаў, адчыненьне на іх базе навукова дасьледчых (НДІ) і прамысловых інстытутаў.

# IV. АСОБА, СЯМ“Я, ГРАМАДЗТВА, ДЗЯРЖАВА

*Падразьдзел*
*падрыхтаваў З. Пазьняк*

## 1. Асоба

1.1. Вольная Беларусь – гэта будзе краіна вольных людзей. Правы грамадзянаў будуць забясьпечаны. Законы будуць выконвацца. Ніхто ня можа быць прымушаны да выказваньня сваіх перакананьняў або адмовы ад іх. Ніхто ня можа быць прымушаны да працы пад страхам пакараньня. Ніхто ня можа пазбавіць чалавека працы за ягоныя думкі, словы і перакананьні, выказаныя ў межах закону. Дасканала сказана пра гэта ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 году ў частцы распрацаванай пад уплывам і пры ўдзеле дэпутатаў БНФ (Разьдзел 2, арт. 21–63). Пасьля ліквідацыі рэжыму палажэньні Канстытуцыі 1994 году аб правах асобы будуць уведзены ў заканадаўчую практыку.

Адмяняюцца ўсе дэкрэты і законы антыбеларускай улады, якія прыніжалі чалавечую годнасьць (аб так званых “дармаедах”, аб гандлёвых сэртыфікатах індывідуальных прадпрыймальнікаў, аб падатках на беспрацоўных і т. п.), ліквідуецца інстытут “ідэёлагаў” на прадпрыемствах, пераглядаецца кантрактная сістэма працаuладкаваньня, абʼяўляецца амністыя, пераглядаюцца ўсе справы палітвязьняў, рыхтуецца рэформа судовай сістэмы, рэабілітацыя палітвязьняў і кампэнсацыя стратаў, пераглядаюцца судовыя справы.

## 2. Сямʼя

*Падрыхтавалі:*
*З. Пазьняк, С. Папкоў*

2.0. **Уводная нататка**

Галоўным гуманістычным дасягненьнем беларускай цывілізацыі пэрыяду Вялікага Княства Літоўскага было стварэньне хрысьціянскай асобы чалавека і – самае адметнае – стварэньне ўзорнай хрысьціянскай сямʼі (што адзначалі тады эўрапейскія сучасьнікі), дзе пры агульным аўтарытэце бацькі высока цанілася і шанавалася жанчына, яе партнёрская роля і культ маці. Культ маці праіснаваў у культурна-псыхалягічнай традыцыі да сёньняшняга дня і гэтым вызначае беларусаў сярод іншых народаў, дае нават падставу некаторым аналітыкам называць беларусаў «жаночай нацыяй».

Пэрыяд савецкай акупацыі быў катастрафічна-разбуральным для беларускай сям“і, пазбаўленай прыватнай уласнасьці і права на вольнае выяўленьне працы. Разбуральны працэс у гэтых абставінах напачатку найбольш закрануў псіхатып і сацыяльнае аблічча мужчыны. Наступны ўдар быў па жанчыне. Сам інстытут сямʼі апынуўся пад пагрозай.

На нетрываласьць сям“і ўплывае антынацыянальная палітыка існуючага рэжыму, дзе сам начальнік гэтага рэжыму ёсьць адмоўным прыкладам разбурэньня сямʼі.

Прыступаючы да стварэньня ўмоваў дзеля ўмацаваньня і росквіту добрай сямʼі, традыцыйных гуманістычных каштоўнасьцяў і станоўчых перамен неабходна будзе асаблівую ўвагу зьвярнуць на матарʼяльную, сацыяльную і выхаваўчуую дапамогу сямʼі ў гадаваньні дзяцей. Гэты аспэкт істотны як для надзейнага існаваньня сямʼі, гэтак і дзеля выхаваньня якаснай асобы грамадзтва ў атмасфэры сямейнага клопату і любові, а таксама ў дэмаграфічным сэнсе.

* * *

2.1. **<u>Прынцыпы дачыненьняў паміж сям’ёй і дзяржавай:</u>**

Прымаецца закон аб прыярытэце і ахове сям’і, шлюбу (саюзу мужчыны і жанчыны), мацярынства, аб абароне сям’і ад пасягальніцтва і ўмешваньня ў сямейныя справы з боку ідэалёгіі і арганізацыяў. Закон аб сям’і па зьмесьце і духу сваім мусіць быць накіраваны на ўмацаваньне сям’і. Пацьвярджаецца выключнае права бацькоў на выхаваньне дзяцей. Ніхто ня мае права супраць волі сям’і ўмешвацца ў сямейныя справы людзей, калі яны ня носяць антызаконнага зьместу. Кантакты школы і сям’і ў навучаньні дзяцей маюць пэдагагічны характар. За крымінальныя і антыграмадзкія паводзіны дзяцей нясуць адказнасьць бацькі. Пазбаўленьне бацькоўства адбываецца толькі тады, калі бацькі адмаўляюцца ад догляду за дзецьмі і тое пагражае жыцьцю і здароўю дзіцяці.

Наўмыснае калецтва і пашкоджаньне здароўя дзіцяці бацькамі цягне за сабой крымінальную адказнасьць. Бацькі павінны клапаціцца пра сваіх дзяцей. Паўнагадовыя дарослыя дзеці павінны клапаціцца пра сваіх бацькоў, супрацоўнічаць у гэтым з органамі сацыяльнага забесьпячэньня і мэдыцыны. Дзяржава спрыяе ўмацаваньню сям’і праз сістэму льгот, выплат, узнагарод, маральнай падтрымкі ўзорных сем’яў.

Дзяржава прадугледжвае падтрыманьне шматдзетнай сям“і, якая бярэ сіротаў і сацыяльна пакінутых дзяцей на выхаваньне і адаптацыю, дапамагае сем’ям якія маюць дзяцей з фізічнымі і псіхічнымі недахопамі, закладае разьвіцьцё адмысловай адукацыі для такіх дзяцей.

Законам будуць створаны роўныя ўмовы і магчымасьці для ўсіх атрымліваць адукацыю ў тым ліку дома (хатняе навучаньне).

2.2. Прымаецца закон аб абароне прыроды чалавека. Прапаганда збочаных адносінаў супраць натуральнай прыроды чалавека караецца паводле закону.

2.3. Прымаецца закон аб адказнасьці за прапаганду сацыяльнай, нацыянальнай, расавай і палавой нянавісьці. Прапаганда нянавісьці супраць іншых нацыяў, расаў, групаў насельніцтва, супраць мужчыны ці жанчыны караецца паводле закону.

2.4. Пад патранатам законнага Прэзыдэнта вольнай Беларусі ствараецца дзяржаўны Фонд дапамогі шматдзетным сем’ям.

2.5. Прымаецца палажэньне ў закон аб сям’і, паводле якога жанчыне, якая нарадзіла трох і больш дзяцей і якая займаецца толькі іх доглядам і хатнімі клопатамі, гэты догляд і хатнія клопаты залічваецца ў працоўны стаж з выплатай у будучыні сярэдненацыянальнай пэнсіі.

Шматдзетнай маці належыцца штомесячная грашовая падтрымка ад дзяржавы (з дадатным каэфіцыентам на кожнае наступнае дзіця) і разавыя выплаты з Фонду дапамогі шматдзетным сем“ям.

2.6. Улада вольнай Беларусі павінна зыходзіць з палажэньня, што моцная добрая сям“я – гэта падмурак моцнай добрай дзяржавы, дзеля жыцьця добрых і працавітых людзей.

2.7. Рэарганізуецца і пашыраецца сістэма дашкольнага дагляду і здаровага дашкольнага выхаваньня дзяцей па правілах гуманізму і нацыянальнай выхаваўчай культуры.

2.8. На базе Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства адукацыі ствараецца Патранажная служба маладой сям’і* ў выглядзе Інстытута Маладой сям’і, які рыхтуе патранажных сясьцёр і братоў – дабрадзеяў маладой сям’і. Патранажная служба (па замове і пры згодзе сям’і) мэтадалягічна дапамагае маладым сем’ям у праблемах здароўя і сямейнага выхаваньня дзяцей дашкольнага ўзросту ў рэчышчы гуманістычных і нацыянальных беларускіх традыцыяў.

*<u>**_Заўвага:_**</u> Маладая сям'я – гэта тая сям'я (незалежна ад узросту бацькоў), дзе ўсе дзеці непаўналетнія.

<u>**_Тлумачэньне:_**</u> Патранажныя сёстры і дабрадзеі (браты) маладой сям'і, згодна з правіламі, вызначанымі інструкцыяй, дапамагаюць парадамі і падтрымкай у вырашэньні праблемаў здароўя, догляду і здаровага выхаваньня дзяцей у традыцыях айчыннай культуры.

Пэрыяд разьвіцьця чалавека да 7-гадовага ўзросту ёсьць важным у пасьпяваньні фізыялагічных, пачуцьцёвых (мэнтальных), інтэлектуальных і моўных здольнасьцяў асобы. Мова ў гэты раньні пэрыяд фармаваньня розуму чалавека ёсьць генэтычна абумоўленым інтэлектуальным рэсурсам. Парадыгма інтэлекту і мовы фармуецца ў гэты пэрыяд. Для аптымальнага фармаваньня інтэлекту вельмі важна, каб дзіця пачынала разьвівацца ў той мове, на якой спрадвеку размаўлялі яго продкі (гэта значыць на яго нацыянальнай мове). Авалоданьне іншымі мовамі – гэта ўжо другаснае пытаньне. Такі падыход належыцца да ўсіх грамадзянаў Беларусі з улікам асаблівасьцяў сям'і.

Тым часам беларуская нацыя ў выніку акупацыяў і разбуральных дзеяньняў акупантаў над чалавечай асобай атрымала ў спадчыну дэструктыўны чужы груз грамадзкіх наступстваў, пераадолець якія неабходна ўсяму грамадзтву, пачынаючы ад нараджэньня чалавека на сьвет. Тут патрэбная грамадзкая ўзаемадапамога, частку якой павінна забясьпечыць патранажная служба маладой сям'і.

2.9. <u>**Падрыхтоўка кадраў і навучаньне:**</u>

Кваліфікацыя і падрыхтоўка патранажных кадраў адбываецца па двух профільных накірунках. Першы накірунак – у аснове курс медсястры з профільным вывучэньнем асноваў мэдыцыны, беларускай мовы, пэдагогікі і псыхалёгіі. Другі накірунак – курс настаўніка малодшых клясаў з профільным вывучэньнем асноваў пэдагогікі, беларускай мовы, мэдыцыны і псыхалёгіі.

Падрыхтаваныя кадры могуць працаваць у патранажнай, мэдыцынскай і школьна-адукацыйнай сістэме, а таксама сумяшчаць гэтыя працы.

2.10. Прымаецца палажэньне ў закон аб крымінальнай адказнасьці за збочанае разбэшчваньне дзяцей і моладзі пад выглядам полавай асьветы і полавай адукацыі, за навязваньне дзецям нясвоечасовых па іх псіхічным і біялягічным разьвіцьці сэксуальных ведаў. Праводзіцца перагляд падыходу і строгая рэглямэнтацыя (падзел) паводле ўзросту і полу полавай асьветы моладзі.

## 3. Ахова здароўя

*Падрыхтаваў З. Пазьняк*

3.1. Ахова здароўя датычыць кожнага чалавека і ўсіх людзей і таму па вызначэньні павінна быць дзяржаўнай справай і падтрымлівацца з бюджэту дзяржавы.

Ствараецца дзяржаўны фонд мэдыцыны.

Уводзіцца сістэма прагрэсіўнай аплаты работнікаў аховы здароўя. Уводзіцца кляснасьць мэдсёстраў (і мэдбратоў) у залежнасьці ад стажу і кваліфікацыі.

3.2. Дазваляецца арганізацыя і дзейнасьць прыватнай мэдычнай практыкі, шпіталяў, дыягнастычных цэнтраў і іншых мэдыцынскіх установаў адначасна з арганізацыяй і станаўленьнем мэдыцынскіх страхавых кампаніяў і фондаў.

3.3. Уся правізарычная сетка аптэк падпарадкавана Міністэрству аховы здароўя.

3.4. Усе паслугі дзяржаўнай лячэбнай мэдыцыны бясплатныя для ўсіх.

3.5. Стварэньне страхавой сістэмы і сеткі прыватных мэдыцынскіх практык і шпіталяў вымагае часу, працы і дапамогі дзяржавы (найперш у заканадаўчым зьмесьце). На выхадзе гэтага працэсу сістэма павінна выглядаць так:

– Прыватны бізнэс, прыватныя прадпрыемствы, прыватныя ўстановы пры вызначаных законам падаткавых правілах (сума даходу, патрачаная гаспадаром прадпрыемства на аплату страховак працаўнікам, не абкладаецца падаткам) абавязаныя будуць забясьпечыць мэдычнае страхаваньне сваім супрацоўнікам і працаўнікам. Страхоўка гарантуе працаўнікам бясплатнае лячэньне у сфэры прыватнай і дзяржаўнай мэдыцыны (на выбар), якое аплочвае страхавая кампанія. Пры звальненьні з працы працаўнік траціць працоўную страхоўку, але тады можа лекавацца бясплатна ў сістэме дзяржаўнай мэдыцыны.
– Працаўнікі бюджэтных арганізацый карыстаюцца страхавай мэдыцынай альбо (на выбар) бясплатным мэдыцынскім абслугоўваньнем у сфэры дзяржаўнай мэдыцыны. Яны могуць таксама, як і кожны грамадзянін, карыстацца за аплату прыватнай мэдыцынай. Дапускаецца існаваньне ведамасных мэдыцынскіх установаў для бюджэтных арганізацый.
– Студэнты, пэнсіянеры, беспрацоўныя і працаўнікі арганізацыяў бізнэсу, у якіх па нейкіх выключных прычынах (прадугледжаных законам) няма страхавога забесьпячэньня, могуць карыстаюцца бясплатна паслугамі дзяржаўнай мэдыцыны.

3.6. Такім чынам у матар’яльным сэнсе – гэта сістэма, якая дазваляе сумеснае фінансаваньне здароўя грамадзянаў дзяржавай і бізнэсам, гарантаваць бясплатную мэдычную абслугу ўсяго насельніцтва, задаволіць розныя інтарэсы.

## 4. Палажэньні сацыяльнай палітыкі

*Падрыхтавалі:*
*С. Папкоў, З. Пазьняк*

У сацыяльных дачыненьнях шэраг першасных пытаньняў трэба адразу вырашаць і прадугледзець разьвіцьцё на будучыню.

4.1. Вярнуць у працоўны стаж грамадзянам Беларусі пэрыяд вучобы ў вышэйшых і сярэдне-спэцыяльных вучэльнях, пэрыяд службы ў войску і пэрыяд знаходжаньня ў дэкрэтным адпачынку жанчын.

4.2. Вярнуць льготы ліквідатарам і пацярпелым ад Чарнобыльскай катастрофы, льготы студэнтам і інвалідам на праезд у гарадзкім транспарце.

4.3. Правесьці аптымізацыю пэнсійнай сістэмы і пэнсійнага заканадаўства ў галіне прафэсійных пэнсіяў. Забясьпечыць прывядзеньне сістэмы да агульнай нормы.

4.4. У законе аб ахове сям’і прадугледзіць, што калі жанчына, якая нарадзіла трох і больш дзяцей, не працуе, але даглядае дзяцей і вядзе хатнюю гаспадарку, то гэты пэрыяд залічваецца ёй у працоўны стаж, дзеля налічэньня сярэднекраёвай пэнсіі (гл. IV.2.5).

**<u>Пэнсійная рэформа</u>**

4.5. У тэрмін 5 гадоў ад пачатку эканамічнай рэформы давесьці памер фінансавых сродкаў, якія выдзяляюцца на аплату пэнсій, да 10 – 11% ВУП і ў наступныя 5 гадоў да сярэднеэўрапейскіх велічынь 14 – 15% ВУП.*

***<u>Заўвага:</u>*** Сёньня ў краіне велічыня фінансавых сродкаў, якія выдзяляюцца на аплату пэнсій каля 7% ВУП.

4.6. Правесьці пэнсійную рэформу, сутнасьць якой заключаецца ў паступовым пераходзе да зьмешанай формы фінансавага папаўненьня пэнсійнага фонду, салідарнай і назапашвальнай часткі.*

***Тлумачэньне:*** *Салідарная частка* – гэта сацыяльны падатак на заробкі працоўных, які павінен быць паніжаны да 15-20 % (Сучасны ўзровень сацыялнага падатку 34%, які плаціць працадаўца і плюс 1%, які плаціць працаўнік.) *Назапашвальная частка* – гэта грашовыя пералічэньні на індывідуальныя рахункі працаўнікоў. Пералічэньні робяцца з фактычнага заробку працаўніка па ўстаноўленай законам норме.

4.7. Пры правядзеньні рэформы (на яе пачатку) зніжэньне фінансавага папаўненьня пэнсійнага фонду за кошт зьніжкі сацыяльнага падатку кампэнсуецца за кошт пералічэньняў ад прыватызацыі ліквідных дзяржаўных актываў, долі прыбыткаў ад прыродных рэсурсаў, долі падатку на зямлю і выкарыстаньня ўмоўна-назапашвальнай формы.**

***Тлумачэньне:** *Умоўна-назапашвальная форма* прадугледжвае выкарыстаньне назапашвальных сродкаў у бягучы размеркавальны фонд.

4.8. Разьвіцьце эканомікі, нізкія падаткі прывядуць да актывізацыі бізнэсу, падвышэньня заробкаў. Істотна падвысіцца падатковая база за кошт дынамічнага стварэньня да 500 тысячаў суб'ектаў гаспадараньня. Гэта забясьпечыць высокі ўзровень папаўненьня бюджэту і фондаў, скіраваных на сацыяльную абарону, у тым ліку пэнсійнага фонду.

4.9. Пры дасягненьні адпаведнага ўзроўню разьвіцьця салідарна-назапашвальная форма будзе ўсталяваная ў адносінах палова на палову (г. зн. 50% салідарных рэсурсаў і 50% назапашвальных). Павялічыцца ўзровень сацыяльна гарантаванай пэнсіі для рэальнага забеспячэньня сацыяльнай абароны грамадзянаў краіны, пазбаўленьня ад ганебнай беднасьці.

4.10. Для эфэктыўнага выкарыстаньня пэнсійных рэсурсаў ва ўмовах рынкавай эканомікі будзе створаны спэцыяльны пэнсійны банк, у якім будуць месьціцца індывідуальныя пэнсійныя рахункі. Банк будзе ўдзельнічаць у інвэстыцыйных праектах. Прыбыткі ад івэстыцыйнай дзейнасьці будуць разьмяркоўвацца на пэнсійныя рахункі.

## 5. Рэлігія

*Падрыхтавалі: З. Пазьняк, П. Усаў*

5.1. Грамадзяніну Беларусі гарантавана свабода сумленьня.

5.2. Царква (маецца на ўвазе прадстаўніцтва кожнай рэлігійнай канфэсіі) у Рэспубліцы Беларусь адзьдзелена ад дзяржавы. Гэта абазначае, што царква, гэтак жа як грамадзкая ці прыватная арганізацыя, не зьяўляецца дзяржаўным ворганам і дзяржаўнай інстытуцыяй. Дакуманты, рашэньні і дзеяньні яе, гэтак жа як і грамадзкіх арганізацыяў, не зьяўляюцца афіцыйнымі неабходнымі сьведчаньнямі для асобы. Царква, канфэсія, вера зьяўляюцца для грамадзяніна Беларусі прыватнай справай, якая не адлюстроўваецца ў афіцыйных зьвестках, дакумантах і не ўплывае на яго правы.

5.3. Царква падпарадкоўваецца ўсім законам Рэспублікі Беларусь і пры парушэньні іх нясе адказнасьць згодна закону.

5.4. Гарантавана роўнасьць усіх канфэсіяў. Ніводная царква ня можа разьлічваць на дзяржаўную падтрымку ў рэалізацыі сваёй дзейнасьці. Царкве будзе забаронена праводзіць ня зьвязаную са зьместам царквы камэрцыйную дзейнасьць. Але дзяржава можа выдзяляць сродкі царкве для адбудовы, рэстаўрацыі і аховы помнікаў архітэктуры і духоўнай спадчыны.

5.5. Ў Расейскай імпэрыі праваслаўная царква не зьяўлялася ўласьнікам царкоўных будынкаў. Царкоўныя будынкі, якімі карысталася праваслаўная царква, былі на балянсе Расейскай дзяржавы. Дзяржаўная уласнасьць на царкоўныя будынкі захоўвалася і ў пэрыяд існаваньня СССР. Ні камуністычная, ні посткамуністычная ўлада юрыдычна ня мусіла нікому гэтыя дзяржаўныя будынкі «вяртаць» ва ўласнасьць, якой не існавала. Тут магло быць толькі вяртаньне ў эксплуатацыю і добрая воля.

Дэмакратычная ўлада ў Беларусі павінна будзе перагледзець дачыненьні дзяржаўнай уласнасьці на будынкі, перададзеныя расейскай праваслаўнай царкве з парушэньнем правоў уласнасьці, і вярнуць становішча да юрыдычных нормаў у праўнае поле.

Расейская праваслаўная царква ў Беларусі павінна будзе выправіць папсаваныя непісьменнымі пераробкамі за часы антынароднага рэжыму помнікі сакральнай беларускай архітэктуры.

5.6. Навучаньне рэлігіі ў школе забараняецца. Могуць быць факультатывы па гісторыі рэлігіі. Факультатыўны прадмет не ўваходзіць у абавязковую школьную праграму, але кантралюецца Міністэрствам адукацыі.

Навучаньне рэлігіі – гэта справа царквы, а не школы. Царква можа адчыніць свае нядзельныя рэлігійныя школы пры храмах і мець свае рэлігійныя вучэльні (ліцэі, калегіумы, унівэрсітэты, семінарыі, акадэмію).

5.7. Дапускецца канкардат канфэсіяў з дзяржавай адносна дзейнасьці царквы ў грамадзтве, у тым ліку ў адукацыі, войску і іншых сфэрах. Умовы канкардату не павінны выходзіць за межы Канстытуцыі і заканадаўства аб рэлігіі.

5.8. Усе канфэсіі роўныя перад законам і дзяржавай.

Будзе вернуты і дапрацаваны закон 1992 году «Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях», вернута пашана да вялікіх рэлігійных сьвятаў народа па каталіцкай і праваслаўнай традыцыях календара – Нараджэньня Хрыстовага (Божае Нараджэньне, Ражство), Уваскрасеньня Хрыстова (Вялікадзень), Дзень Задушны і Ўсіх Сьвятых (Дзень Памяці продкаў – Дзяды), Радуніца. Усе гэтыя сьвяты зноў стануць афіцыйнымі выходнымі днямі і будуць улічвацца дзяржавай.

## 6. Экалёгія. Ахова глебы, лясоў, нетраў зямлі, вады, паветра, флёры і фаўны.

*Падрыхтаваў:*
*Ю. Цехановіч*

6.1. Праблемы экалёгіі і аховы навакольнага асяродзьдзя ў сучасным сьвеце, у сувязі з імклівым адмоўным ростам антрапагеннага ўзьдзеяньня на навакольнае асяродьдзе, ёсьць зьявай, якая ўплывае на існаваньне людзей, нацыяў, дзяржаваў і ўсяго чалавецтва. З разьвіцьцём тэхнічнага прагрэсу і павелічэньнем насельніцтва Зямлі праблемы экалёгіі і аховы навакольнага асяродзьдзя павялічваюцца.*

***Тлумачэньне:*** У Беларусі наступствы антрапагенных разбурэньняў спарадзілі праблему выжываньня нацыі. У гэтай праблемы ёсьць дзьве галоўныя прычыны : Чарнобыльская катастрофа і шкодная дзейнасьць антынацыянальных уладаў у XX стагодзьдзі і па сёньняшні дзень.

Чарнобыльскае забруджваньне выключыла з ужытку 23% агульнай плошчы краіны, адабрала з карыстаньня лясы, лугі і рэкі, населеныя месцы, вёскі і гарады, у выніку савецкай і постсавецкай акупацыйнай палітыкі атруціла і працягвае атручваць усю нацыю. Чарнобыльская небясьпека пагражае кожнаму жыхару Беларусі і наступным пакаленьням. Гэтая небясьпека павінна б была аб“яднаць на выжываньне ўсё беларускае грамадзтва.

Другім паводле значнасьці чыньнікам забруджаньня навакольнага асяродзьдзя пасьля радыяцыйнага, зьяўляецца забруджваньне яго цяжкімі металамі,

асабліва вакол прамысловых прадпрыемстваў, гарадоў і дарог. Прамысловыя прадпрыемствы і транспарт павінны быць аснашчаны сучаснымі сродкамі прадухіленьня шкодных выкідаў ў навакольнае асяродьдзе. Місію экалягічнага выратаваньня і абароны пакаленьняў мусіла б спаўняць народная дзяржаўная ўлада.

Царская, маскоўска-савецкая і прамаскоўска-постсавецкая акупацыйная эксплуатацыя беларускай зямлі і прыроды прывяла да катастрафічных вынікаў. Злачынная мэліярацыя, асушэньне балотаў, выпростваньне малых рэк, жорсткае неберажлівае калгаснае гаспадараньне на зямлі, атручваньне сродкамі хімізацыі навакольнага асяродьдзя (няправільным выкарыстаньнем штучных угнаеньняў), недапушчальная пабудова жывёльных комплексаў на 50 і 100 тысячаў асобін дзеля кармленьня Расеі, высяканьне лясоў і падлескаў, запаведных дрэў, зьнішчэньне поймаў рэк і лугоў, забруджаньне рэк і азёраў некантраляванымі сьцёкамі з прадпрыемстваў і фермаў, забруджаньне паветра, непадкантрольны вываз сьмецьця, перагароджваньне вялікіх рэк плацінамі, зьнішчэньне азёр, выпрабаваньні тактычнай ядзернай зброі на Палесьсі, нарэшце Чарнобыльская катастрофа – усё гэта рэзка парушыла балянс і ўзнаўленьне ў прыродзе, равала працэсы ў бок дэградацыі прыроднага асяродзьдзя і разбурэньня прыродных асноў.

Парушана прыродна збалянсаваная контурнасьць палёў, шмат дзе зьніклі і моцна забруджаныя грунтовыя воды, перасохлі малыя і сярэднія рэкі, рэзка парушаны водны балянс усёй тэрыторыі краіны, што пауплывала на зямлю, лясы і атмасфэру і жывёльны сьвет, зьніжана агульная ўрадлівасьць глебы, асабліва за кошт масавага ўвядзеньня ў абарачэньне нізкаўрадлівых і неурадлівых мэліяраваных земляў, і глебаў лёгкага механічнага складу, зьбяднела флора і фаўна, рэзка зьмяніўся і пабрыдчэў прыгожы вобраз краіны. Забруджаная прырода ўсё больш робіцца небясьпечнай для чалавека, не прыносіць яму карысьці, радасьці і камфорту жыцьця.

Выратаваньне прыроды, палёў, глебы, водных рэсурсаў, паветра,лясоў, балотаў, азёраў і рэк, флёры і фаўны Беларусі мусіць стацца клопатам і задачай цэлых пакаленьняў беларусаў дзеля будучыні адроджанай краіны і яе нашчадкаў – добрых, сьветлых, разумных людзей.

6.2. Ствараецца Міністэрства экалёгіі і аховы навакольнага асяродьдзя – (лясоў, нетраў зямлі, водных рэсурсаў, глебы, паветра, флёры і фаўны).

Задача: забесьпячэньне аховы і адраджэньня прыроды, узнаўленьне прыродных рэсурсаў і балянсу прыродных працэсаў, правільнасьць эксплуатацыі прыродных рэсурсаў.

6.3. Ствараецца новая і ўдасканальваецца існуючая заканадаўчая база па экалёгіі, сельскай, лясной і воднай гаспадарцы, эксплюатацыі прыродных рэсурсаў і ахове прыроды. За ўзор бярэцца экалягічнае і прыродаахоўнае заканадаўства краінаў Эўразьвязу.

6.4. Пераглядаецца заканадаўства пра наступствы Чарнобыльскай катастрофы. Аднаўляецца дзейнасьць «чарнобыльскіх» законаў 90-х гадоў. Спыняецца практыка вытворчасьці радыеактыўных прадуктаў (зьмешваньне забруджанай радыенуклідамі прадукцыі з чыстай прадукцыяй) і павелічэньне тым самым калектыўнай дозы радыяцыі ў грамадзтве. Аднаўляецца неабходнае мэдыцынскае, санітарна-гігіенічнае, прадуктовае, матар'яльнае забесьпячэньне насельніцтва радыяцыйна небясьпечных зонаў; аднаўляецца навуковая дэзактывацыя тэрыторый, удасканальваецца маніторынг міграцыі радыенуклідаў, складаньне мапаў зьмяненьня радыяцыйнай сітуацыі; аднаўляецца дзейнасьць і дасьледаваньні навуковых біялягічных, мэдыцынскіх, вэтэрынарных і сельскагаспадарчых установаў па праблемах радыяцыйнага забруджваньня.

6.5. Ствараецца пастаянна дзейная Экалягічная камісія пры парляманце з прыцягненьнем спэцыялістаў Акадэміі Навук і ўнівэрсітэтаў, якая будзе надзелена паўнамоцтвамі ажыцяўляць экспэртызу ўсіх буйных праектаў у будаўніцтве, прамысловасьці, сельскай гаспадарцы, а таксама (пры неабходнасьці) прапаноўваць праекты на грамадзкае абмеркаваньне.

6.6. У школе ўводзіцца спэцыяльны абавязковы прадмет «экалёгія і ахова прыроды Беларусі», які выкладаецца на адпаведных узроўнях у малодшых і старэйшых клясах.

Ажыцяўляецца экалягічная і прыродаахоўная асьвета, сярод насельніцтва краіны, аб ашчадным стаўленьні да навакольнага асяродьдзя.

6.7. У Інстытут Дзяржаўнага кіраўніцтва і адміністрацыі уводзіцца спэцыяльны профільны прадмет па экалёгіі, ахове прыроды і прыродных рэсурсаў Беларусі з ухілам на сістэму і праблемы юрыдычнай і заканадаўчай базы тэматыкі.

6.8. Ствараецца адмысловая экалягічная паліцыя (асобны дэпартамант пры Міністэрстве экалёгіі і аховы навакольнага асяродьдзя Рэспублікі Беларусь). Задача экалягічнай паліцыі – прадухіленьне і спыненьне парушэньняў экалягічнага і прыродаахоўчага заканадаўства, заканадаўчых інструкцыяў і правілаў.

6.9. Галоўная галіна працы экалягічнай паліцыі – кантроль за выкананьнем экалягічных і прыродаахоўных патрабаваньняў прадпрыемствамі і ўстановамі ўсіх формаў уласнасьці і падначаленасьці,назіраньне за выкананьнем адпаведных экалягічных нормаў у прамысловасьці, будаўніцтве, сельскай, лясной і воднай гаспадарцы, за выкарыстаньнем прыродных рэсурсаў краіны, за аховай расьліннага і жывёльнага сьвету, за сэпарацыяй, утылізацыяй і вывазам адыходаў і адкідаў, прамысловага, будаўнічага, гаспадарчага і бытавога сьмецьця*. Кантроль за чысьцінёй тэрыторыяў, вуліц і дарог.

*__*Заўвага:*__ Сьмецьце ў сучасным сьвеце – гэта вялікая экалягічная і прыродаахоўная праблема тэхнагеннага грамадзтва і адначасна – рэсурс прамысловай энэргетыкі і другаснай перапрацоўкі сыравіны. Навядзеньне парадку ў гэтай сфэры жыцьцядзейнасьці чалавека ёсьць неадкладнай тэхнічна-бытавой і прамысловай задачай.

## 7. Мова
### (Прынцыпы моўнай палітыкі)

*Падрыхтаваў З. Пазьняк*

7.1. Па Канстытуцыі 1994 году (якая будзе вернута ў дзеяньне) дзяржаўная мова – беларуская. Расейская мова ў пэрыяд станаўленьня вольнай Беларусі ёсьць мовай міжнацыянальных зносінаў і валодае неабмежаваным, але часовым статусам, заканчэньне якога вызначае парлямант.

7.2. Кожнаму дзяржаўнаму службоўцу ў гэты час абавязкова трэба будзе ведаць дзьве мовы (беларускую і расейскую) і пажадана (дабраахвотна) – ангельскую. Ад гэтага будзе залежаць кляснасьць чыноўніка (адпаведна – прафэсійная прыдатнасьць і зарплата). Кожны беларус (ці небеларус), што гаворыць па-расейску, будзе адчуваць сябе зручна ў дачыненьнях з дзяржаўнымі ўстановамі, паколькі ня будзе ўзьнікаць моўных праблемаў. Установы працуюць на дзяржаўнай беларускай мове, але па жаданьні грамадзяніна камунікацыя (пісьмовая і вусная) будзе на той мове, на якой хоча грамадзянін. Такі падыход будзе ўвесь час. Ніякія тэрміны не ўстанаўліваюцца, пакуль рэальна ня зьменіцца моўнае становішча ў карысьць беларушчыны.

7.3. Тым часам дзяржаўная палітыка, школа, ВНУ, радыё, тэлебачаньне, кіно, мастацкая літаратура, увесь дзяржаўны апарат улады будуць накіраваны на адраджэньне беларускай мовы. З цягам часу і падрастаньнем новых пакаленьняў беларуская мова стане сацыяльна прэстыжнай і сацыяльна неабходнай, і ўсё само сабой вернецца ў беларускае нацыянальнае рэчышча, нікому пры гэтым ня робячы перашкоды ў рэальных дачыненьнях.

7.4. Такі падыход (пасьпяхова выпрабаваны БНФ у пачатку 90-х гадоў) улічвае тое, што ў выніку акупацыйнай антыбеларускай палітыкі закрыцьця беларускіх школ і перасьледу беларушчыны шмат беларусаў вымушаныя былі карыстацца толькі акупацыйнай расейскай мовай, будучы, аднак, прыхільнымі да сваёй беларускай мовы. Патрэбная ўвага з боку дзяржавы, спрыяньне такім беларусам і дастаткова працяглы час (мінімум адно-два пакаленьні), каб паступова выправілася становішча. Гэта – нашыя беларускія грамадзяне.

7.5. Мова зьяўляецца найвялікшым помнікам і сродкам культуры. Яна – агульнанародны здабытак, належыць цяпершчыне і будучыні, цяперашнім і будучым пакаленьням. Ніхто не мае права псаваць, нявечыць і зьневажаць беларускую мову.

7.6. Прымаецца закон аб зьберажэньні беларускай мовы (паводле ўзору францускага). Пры НДІ мовазнаўства ствараецца пастаянна дзейная тэрміналягічная камісія, якая валодае наглядными функцыямі.

## 8. Міжнародная палітыка
### (Канцэптуальныя палажэньні)

*Падрыхтаваў З. Пазьняк*

8.1. Сярэднявечная Беларусь пэрыяду Вялікага Княства Літоўскага і Залатога Веку праводзіла актыўную міжнародную палітыку, была важным геапалітычным чыньнікам ва Ўсходняй Эўропе.

Цяперашняя геапалітычная сітуацыя ў нашай частцы сьвету і становішча апошняга 25-годзьдзя існаваньня Рэспублікі Беларусь паказвае, што ў межах супроцьстаяньня Расеі і Захаду, наша краіна цяпер ня можа быць нэўтральнай дзяржавай. Тым часам пазыцыя недалучэньня на пэўным этапе Беларусі была б больш выгаднай (хоць і праблематычнай).

Нэўтральная краіна тут не рэальная (і ў цяперашняй сітуацыі, для беларусаў небясьпечная), бо ніхто не ў стане гарантаваць нэўтральнасьць Беларусі. Лёс Будапэшцкага мэмарандуму 1994 году і маскоўская агрэсія супраць Украіны паказалі вартасьць «гарантыяў» «вялікіх краін» і чым усё можа скончыцца.

Беларусі наканавана на пераходны час палітыка балянсаваньня і стратэгічна – **удзел у будаваньні новай Усходняй Эўропы.**

8.2. Прынцып нэўтральнасьці выкарыстоўваўся БНФ у 90-х гадах з тактычнымі мэтамі, каб выйсьці з-пад мілітарнага ўплыву Расеі. Пэўную станоўчую ролю такі падыход адыграў, але рашучага выніку не забясьпечыў. Кіруючая тады намэнклятура была часткай старой савецкай адміністрацыі і працягвала каланіяльную палітыку, арыентуючыся на Маскву.

На сёньняшні дзень Беларусі тактычна выгадна артыкуляваць тэзісы недалучэньня дзеля таго, каб супрацьставіцца агрэсіўным памкненьням з Усходу. Далучэньне вольнай Беларусі да НАТО зараз было б не рэальным. Магчымая хіба толькі форма «партнёрства». Удзел Беларусі ў НАТО – гэта пытаньне пакуль што ня вызначанай пэрспэктывы. Але гэта ёсьць мэта, якая некалі можа быць ажыцьцёўлена.

8.3. Умацаваньне незалежнай дэмакратычнай Беларусі цяпер выгадна Польшчы (буфэр паміж Расеяй), Украіне і краінам Балтыі. Існаваньне недалучанай Беларусі стратэгічна не патрэбнае Маскоўшчыне (перашкода для расейскай агрэсіі і ціску на Захад).

8.4. Такая сітуацыя, тым часам, спрыяльная для ідэі **Балта-Чарнаморскай Супольнасьці (БЧС),** сфармуляванай і запачаткаванай БНФ у 1990 годзе. Ідэя таксама пэрспэктыўная ў энэргетычным сэнсе, у плане дыверсіфікацыі атрыманьня энэргетычных рэсурсаў і выхаду з нафтагазавай залежнасьці ад Расеі.

І гістарычная, і цяперашняя палітычна-эканамічная сітуацыя паказвае, што ідэя БЧС і стаўка на супольную Усходнюю Эўропу павінна быць генэральнай і заўсёднай у беларускай нацыянальнай геапалітыцы.

8.5. Зыходзячы з гэтай звышзадачы, Беларусь мусіць наладжваць эканамічныя стасункі з Украінай, Грузіяй, Турцыяй, Ізраілем, Саудаўскай Арабіяй, Іранам, краінамі Блізкага Усходу і Афрыкі, а таксама з Пакістанам і Індыяй. На поўначы наш інтэрас узаемаадносінаў ёсьць у краінах Балтыі і Скандынавіі (найперш у Фінляндыі і Швэцыі).

Але **прыярытэтам беларускаіх гандлёва-эканамічных, і навуковых дачыненьняў мусяць стацца высокатэхналягічныя краіны,** перш за ўсё краіны Эўропы, Амэрыка, Канада і Японія, а таксама пэрспэктыўны Кітай, які на вачах ва ўсяго сьвету паступова ператвараецца ў высокатэхналягічную краіну. Тут павінна быць пастаянная беларуская актыўнасьць.

8.6. Мы мусім эканамічна **супрацоўнічаць з Эўразьвязам, але на дакладна сфармуляваных асновах, цьвёрдых прынцыпах і пазыцыях,** бо дачыненьні з Эўразьвязам (асабліва ў кантэксьце прэфэрэнцый і выгадных прапаноў), гэтак жа як і дачыненьні з Расеяй, прадугледжваюць умяшаньне ва ўнутраныя справы нашай краіны, непрыймальныя з гледзішча культуры, традыцый і прынцыпаў сувэрэнітэту.*

*__*Заўвага:*__ Беларусь не павінна імкнуцца стаць краінай Эўразьвязу з прычыны ідэалягічнай нецярпімасьці, левізны і агрэсіўнай бязбожнасьці гэтага ўтварэньня (абсурднай адмовы ад Хрысьціянства), адсутнасьці ідэалаў, фальшывасьці палітычных пастулатаў, падвойных стандартаў і збочанасьці ідэалёгіі, якую часам называюць «дэмакратычнай каштоўнасьцю» і імкнуцца яе накінуць іншым краінам. Прыняцьце ідэалчгічнай «каштоўнасьці» пры гэтым зьяўляецца, фактычна, умовай прысутнасьці ў супольнасьці Эўразьвязу.

Увогуле Эўразьвяз – гэта праект эканамічна абгрунтаваны, але цывілізацыйна недасканалы і нацыянальна дэструктыўны, які, зыходзячы з памылковых левых уяўленьняў, прывёў у Эўропу палітычна нематываваную масавую эміграцыю з сваіх былых калоній – дэзынтэграваную Азію і Афрыку, даў дарогу ўсходняму тэрарызму, абнізіў духоўны і культурны ўзровень Эўропы, адчыніў дзьверы цывілізацыйным ворагам Эўропы, якія не інтэгруюцца і татальна выйграюць унутраную дэмаграфічную вайну, не пакідаючы Эўропе ніякіх пэрспэктыў. Эўразьвяз – гэта саюз бюракратыі і левай палітыкі, які перажывае сістэмны крызіс, будучыня яго няпэўная.

У гэтым плане больш прывабным выглядае эканамічнае супрацоўніцтва з ЗША, дзе (пакуль што) менш абстаўляюць эканамічнае ўзаемадзеяньне пазаэканамічнымі патрабаваньнямі.

8.7. Пры рэалізацыі ідэі БЧС, разьлічанай на кансалідаваную Усходнюю Эўропу, для Беларусі будзе істотным зьмяніць штучна створаны непрапарцыйны гандлёвы балянс з Расеяй. У канцавым выглядзе ён не павінен перавышаць 7–9 адсоткаў гандлёвых і фінансавых дачыненьняў (бо **гандаль для Расеі – гэта працяг яе агрэсіўнай палітыкі**).

8.8. Эўрапейская палітычная гісторыя апошніх 25 гадоў выразна засьведчыла, што Беларусі варта эканамічна супрацоўнічаць з краінамі Эўразьвязу, але не плянаваць і не ўступаць у Эўразьвяз як у няпэўнае і нетрывалае геапалітычнае ўтварэньне, **абумоўленае лявацкай лібэральнай ідэалёгіяй.**

8.9. Пры фармуляваньні зьнешняй палітыкі нязьменна важным пытаньнем для Беларусі будзе дачыненьне з Расеяй, адкуль пэрманэнтна зыходзіць пагроза нашай дзяржаве і незалежнасьці. Пагрозы магло б ня быць, калі б Расея стала дэмакратычнай краінай. Але структурна і мэнтальна **імпэрская Расея ня здольная стаць дэмакратычнай краінай.** Дзеля дэмакратыі павінен адбыцца распад імпэрыі, зьмяненьне, расфармаваньне яе імпэрскай структуры, як фармальнай асновы расейскай імпэрскай ідэі.

Суседзі Расеі аб'ектыўна павінны быць зацікаўлены ў дэзынтэграцыі яе імпэрскай формы. Але тое магло б адбыцца рэальна ў выніку ўнутраных расейскіх перамен. Расея і яе імпэрская палітыка ёсьць пагрозай ня толькі для Беларусі. Расейская Імпэрыя ёсьць праблемай чалавецтва.

8.10. Геапалітычная сітуацыя, якая ўтварылася на руінах Вялікага Княства Літоўскага, была скарыстаная палітычнымі праціўнікамі ВКЛ (найперш Расеяй) дзеля стварэньня ілюзіі існаваньня выбару ў ВКЛ паміж Захадам і Усходам. Гэтая ілюзія аднавілася з новай сілай (і бяздумна паўтараецца некаторымі людзьмі) пасьля аднаўленьня незалежнасьці прота-ВКЛ пад новай назвай: напачатку Беларуская Народная Рэспубліка (1918 г.) і потым – Рэспубліка Беларусь (1991 г.).

Ілюзія «выбару бяз выбару» – гэта шкодная для беларусаў фальшывая ідэя, накіраваная на пазбаўленьне самастойнага нацыянальнага думаньня. Беларусам ня трэба рабіць ніякага «выбару» паміж Захадам ды Усходам. Выбар беларусаў – Незалежная Беларусь, спадчыньніца Вялікага Княства Літоўскага.

Сутнасьць гэтай беларусацэнтрычнай пазыцыі палягае ў будаваньні моцнай незалежнай беларускай дэмакратычнай дзяржавы, у адраджэньні вялікай народнай гістарычнай беларускай культуры, у стварэньні передавой тэхналягічнай эканомікі, ва ўзгадаваньні разумнага, адукаванага, інтэлектуальна кемлівага чалавека і сацыяльна абароненага вольнага народа, у дэмаграфічным адраджэньні нацыі, якая колькасна да канца стагодзьдзя мусіла б складаць 20 – 25 мільёнаў чалавек.

Каланіяльная распрацоўка ворагаў Беларусі («выбару бяз выбару», маўляў, да каго далучацца: да Эўразіі ці да Заходняй Эўропы) ня будзе ні ўжывацца, ні разглядацца, ні паўтарацца, але ўспрымацца як антыбеларуская прапаганда.

Веданьне рэальных цяжкасьцяў, разуменьне ілюзій, бачаньне пэрспэктывы і шлях да ідэалаў дапаможа беларусам разумна арыентавацца ў складаным сьвеце і будаваць грунтоўна сваю нацыянальную дэмакратычную будучыню.

## 9. Люстрацыі

*Падрыхтаваў З. Пазьняк*

9.1. Люстрацыя, якую праводзіць дэмакратычная ўлада, – гэта выяўленьне нявыяўленай (схаванай) дзейнасьці асобы, супрацоўніцтва яе з палітычнымі структурамі, якія займаліся антынароднай, антынацыянальнай альбо антыдэмакратычнай дзейнасьцю*, і прыняцьце абмежавальных захадаў да такой асобы з палітычнымі мэтамі альбо непрыняцьце захадаў, але публічнае паведамленьне аб выніках яе люстрацыі.

*<u>***Заўвага:***</u> Выяўленьне злачынства да справы люстрацыі не адносіцца. Злачыннымі парушэньнямі займаюцца пракуратура і ворганы расьследваньня.

Правядзеньне люстрацыі не прадугледжвае крымінальнага перасьледу і судовага пакараньня асобы.

9.2. Ствараецца Інстытут Нацыянальнай памяці (ІНП), падпарадкаваны Радзе Міністраў, які падрыхтоўвае і праводзіць дасьледаваньні і дазнаньні, вызначае ўстановы, арганізацыі і асабаў, якія мусяць праходзіць люстрацыю**.

**<u>***Тлумачэньне:***</u> Практычна кожны антыдэмакратычны таталітарны і аўтакратычны рэжым (асабліва ідэалягічнага, акупацыйнага, мафійнага кшталту) праводзіць таемную ці адкрытую люстрацыю сваіх грамадзянаў, прымаючы адпаведныя абмежавальныя законы ў межах усёй дзяржавы ці на пэўных тэрыторыях. Напрыклад, у перадваенным СССР люстравалася сацыяльнае паходжаньне людзей. Асобы не рабоча-сялянскага паходжаньня былі абмежаваныя ў працы і кар'ерным росьце ў сфэры дзяржаўнай службы; дзеці асобаў, сасланых у ГУЛАГ ці расстраляных як "ворагі народа", ня мелі права вучыцца ва ўнівэрсітэтах. Людзі, якія верылі ў Бога і хадзілі ў касьцёл, царкву, малельны дом ("адпраўлялі

культы”), ня мелі права працаваць у так званых “ідэалягічных інстытутах” (гісторыі, філясофіі, сацыялёгіі і г. д.).

У цяперашняй падрэжымнай Рэспубліцы Беларусь, дзе праводзіцца акупацыйная антыбеларуская палітыка ў расейскіх інтарэсах, пасьлядоўна люструюцца асобы, якія знаходзяцца ў апазыцыйных партыях, спрыяюць нацыянальнаму адраджэню Беларусі, папулярызацыі беларускай культуры, і асабліва тыя, якія былі прыцягнуты да судовай адказнасьці за выказваньні (дэманстрацыі, сьведчаньні, перакананьні) супраць рэжыму. Такія людзі пасьля люстрацыі (выяўленьня) ня могуць уладкавацца на працу, працоўныя кантракты з імі скасоўваюць, студэнтаў выключаюць з унівэрсітэтаў, прадпрыймальніцкую дзейнасьць разбураюць і г. д. Міліцыя і спэцслужбы рэжыму пастаянна фатаграфуюць усіх удзельнікаў апазыцыйных мерпапрыемстваў дзеля накапленьня матар’ялу па люстрацыі ненадзейных для рэжыму людзей.

Трэба асабліва падкрэсьліць, што ў антыдэмакратычных краінах ёсьць прынятыя антыдэмакратычныя законы, якія абгрунтоўваюць люстрацыю грамадзянаў. Але часта люстрацыі адбываюцца тут незаконна альбо са спасылкай на юрыдычныя палажэньні вельмі агульнага кшталту, якія суды трактуюць па-свойму.

Пры зьмене ўлады і краху антыдэмакратычнага (антынароднага) рэжыму натуральна і абавязкова ўзьнікае пытаньне аб люстрацыях тых людзей, якія схавана працавалі ў рэпрэсіўных ворганах рэжыму, таемна супрацоўнічалі з імі, выконвалі антынародныя загады рэжыму, займаліся даносамі, перасьледам і рэпрэсіямі насельніцтва.

Менавіта пра гэты кшталт люстрацыяў чуваць шмат дыскусіяў, супярэчлівых выказваньняў і проста гістэрыкі, што гэта, маўляў, “немагчыма”, што “складана”, што “расколе грамадзтва” і т. п. (нават “паляваньне на ведзьмаў” успамінаюць). Дэмакратычныя люстрацыі трактуюць як рэпрэсіі на глебе помсты. Тэндэнцыя падмены паняцьця люстрацыі назіраецца ў падрэжымным кантэксьце паўсюдна.

Па сутнасьці справы – усё гэта несур’ёзна. Дыскусіі і гістэрыка ў гэты час – вынік панікі і страху асобаў, якія сваёй дзейнасьцю таемна і яўна зьвязаныя з палітыкай рэжыму і ня ведаюць, як іхняя дзейнасьць будзе ацэнена, а некаторыя, адчуваючы віну, баяцца адказнасьці.

Практыка паказвае, што калі антынародныя рэжымы праводзяць люстрацыю грамадзянаў, то шкода для народу відавочная. А вось калі народ у абліччы сваёй народнай улады праводзіць люстрацыю таемнага агентурнага апарату рэпрэсіўнага антынароднага рэжыму, то шкоды ні для насельніцтва, ні для грамадзтва нідзе не адзначана. Наадварот, люстрацыі гістарычна спрыялі аздараўленьню грамадзтва.

9.3. Люструюцца асобы, што супрацоўнічалі з КГБ антыбеларускага (лукашысцкага) і савецкага (камуністычнага) рэжымаў, з палітычнымі арганізацыямі чужой дзяржавы, на шкоду Беларусі.

9.4. Падыход да асобаў, якія люструюцца, можа быць розным: ад суровага да мяккага. Пры добраахвотным публічным прызнаньні ў супрацоўніцтве з таемнымі структурамі антынацыянальнага рэжыму (на гэта будзе вызначаны пэўны час) санкцыі супраць асобы не ўжываюцца.

Пры адсутнасьці добраахвотнага публічнага прызнаньня, адпаведныя дакументы і спіс люстрацыі публікуе ІНП, а на асобу накладваецца карантын альбо поўная забарона на працу ў адпаведных установах. Дзейнасьць гэтай асобы праверыць адмысловае Бюро Рассьледваньняў.

*Падрыхтаваў З.Пазьняк*

# ЗАКЛЮЧНЫ АРТЫКУЛ ДА ПРАГРАМНАГА ТЭКСТУ

*У Заключным артыкуле прапановы па галоўных каштоўнасьцях, прынцыпах і накірунках, якіх мусіла б традыцыйна прытрымлівацца ўлада будучай вольнай Беларусі, каб забясьпечыць краіне магчымасьць заставацца свабоднай, дэмакратычнай і моцнай дзяржавай у складаных абставінах цяперашняга і будучага сьвету*

## Сьвет

Цяперашняя Беларусь існуе (а будучая будзе існаваць) ва ўзаемазьвязаным сьвеце. Беларускія палітыкі і кіраўнікі дзяржавы павінны ведаць гэты сьвет і адэкватна ацэньваць тое што адбываецца з праекцыяй на сваю краіну. Калі такой праекцыі не існуе, – будуць памылкі і страчаныя магчымасьці.

Цывілізацыя рынку, дэмакратыі і спажываньня рухаецца такім чынам, што некалі мусяць адбыцца якасныя і глыбінныя перамены. Дэмакратычны сьвет паступова пагружаецца ў крызіс і падыходзіць да ўсеагульнага тупіковага стану самой сістэмы. Працэс распаду абумоўлены стымуламі рынкавай вытворчасьці і прыродай дэмакратыі. Цяперашнія перамены пачынаюцца з агульнага крызісу эканомікі і маралі. Супадзеньне гэтых двух працэсаў сьведчыць пра крызіс фармацыі.

Кіраўнікі Вольнай Беларусі ў рэчышчы веданьня гэтых зрухаў мусілі б дбаць пра стварэньне моцнага ўнутранага і лакальных зьнешніх рынкаў, аб характары, якасьці і арыентацыі эканомікі, аб дыверсіфікацыі, аб энэргетыцы, аб недапушчэньні (што істотна) маральнай дэградацыі насельніцтва. Кіраўніцтва дзяржавы мусіць клапаціцца аб велічы маральных ідэалаў нацыі і аб увасабленьні іх у жыцьці грамадзтва.

Агульнай прычынай фінансава-эканамічнага крызісу можа быць перанасычэньне сусьветнага рынку таварамі, стагнацыя таварных дачыненьняў і адсутнасьць новых відаў тавараў (як гэта адбылося, напрыклад, у 1930 – 40-х гг.). І толькі сусьветная вайна, а потым (галоўнае) зьяўленьне і разьвіцьцё новай хімічнай вытворчасьці (і адпаведна – новых відаў тавараў) вывела чалавецтва зь вялікай дэпрэсіі і эканамічнага крызісу.

На сёньняшні дзень такога новага віду тавараў яшчэ няма, але, відаць, ужо на падыходзе, бо вельмі вялікую ролю ў эканоміцы сталі адыгрываць інавацыі і тэхналёгіі. Гэта відавочны шлях да прадухіленьня будучага глабальнага энэргетычнага крызісу і новы мэтад вырашэньня энэргетычных праблем, якія цесна павязаныя з палітыкай і падзеламі ў сьвеце.

Асноўнымі крыніцамі сусьветнай энэргіі зьяўляюцца нафта і газ. Знаходжаньне новых крыніцаў энэргіі і новых тэхналёгіяў здабычы нафты і газу прывядзе, напэўна, да рэзкага зьніжэньня цаны на прыродную нафту, і можа мець катастрафічныя вынікі для краінаў, якія пабудавалі сваю эканоміку

на здабычы прыроднай нафты і газу. Гэта найперш – краіны Блізкага Усходу, Паўночнай Афрыкі і арабскага сьвету, а таксама Расея, Іран, Туркменістан і інш.

Вынікам рэзкай перамены можа стаць зьбядненьне краінаў-экспарцёраў нафты і, магчыма, нават разбурэньне гэтых дзяржаў, што можа выклікаць лакальныя войны (нават з ужываньнем ядзернай зброі).

Ніводная з краін, што маюць рэсурсна прывязаныя эканомікі і існуюць з продажу нафты і газу ня здолее хутка перабудавацца на прадуктыўнае стварэньне інавацыяў і тэхналёгіяў, бо гэта вымагае часу, высокага разьвіцьця фундамэнтальнай навукі, наяўнасьці інтэлектуальнай і тэхнічнай эліты і карэннай перабудовы вытворчасьці. Для гэтых краінаў час працуе супраць іх, бо няўхільна разьвіваецца здабыча нафты і газу са сланцавых радовішчаў. Новыя тэхналёгіі ўжо дазваляюць прамысловую здабычу нафты са сланцаў, і яна ўжо пачалася ў Амэрыцы, нягледзячы на экалягічную шкоднасьць для людзей і прыроды. Запасы сланцаў нямераныя ў ЗША, у Польшчы і іншых краінах (у тым ліку і ў Беларусі). Ізраіль увесь разьмешчаны на залежах сланцаў.

Справа тут ня простая. Пакуль што на гэтым полі мэтанакіравана (хоць і з пабочнымі выдаткамі) працуюць толькі Злучаныя Штаты. На сёньня сэнс сланцавай здабычы нафты ў ЗША ёсьць толькі тады, калі сусьветная цана яе будзе вышэй за 60 – 65 даляраў. З другога боку, нізкая цана на імпартаваную нафту выгадная амэрыканскай эканоміцы – яна тады ажывае (што мы зараз і бачым).

У гэтай сітуацыі краіны-экспарцёры нафты ўжо нясуць страты, але баяцца зьмяншаць здабычу і павялічваць цану нафты, каб ня страціць рынкі. Тым больш, што пасьля адмены санкцыяў на рынак зноў выходзіць Іран (другая краіна пасьля Саудаўскай Арабіі па здабычы нафты ў сьвеце). Скептыкі (і канкурэнты) нэгатыўна адносяцца да сланцавай пэрспэктывы на рынку нафты (занадта дарага і экалягічна шкодна). Але навука і тэхналёгіі не стаяць на месцы, і праца тут робіцца.

Новая энэргетычная рэвалюцыя, калі яна завершыцца посьпехам, будзе выгадная, найперш, Ізраілю і ЗША, бо навука, эканоміка і вытворчасьць гэтых краінаў разьвіваюцца на ўзроўні 21-га стагодзьдзя і пастаўлены на галоўны рэсурс – на інтэлект чалавека (адпаведна, на інавацыі і тэхналёгіі). Гэтага няма ў арабскіх краінах, разбагацелых на нафтадалярах. Зьбядненьне арабскіх краінаў паспрыяе дамінацыі Ізраілю ў рэгіёне (і, адпаведна, узрастаньню тэрарызму і новых канфліктаў).

Энэргетычная рэвалюцыя будзе адбывацца балесна для людзей і народаў таксама з прычыны агульнага ідэйна-палітычнага крызісу лева-лібэральнай дэмакратыі. «Эміграцыйнае нашэсьце» на Эўропу павялічыцца.

Тым часам у Эўропе на грунце некантраляванага індывідуалізму, гіпертрафаваных паняцьцяў пра свабоду і на аснове ўсеагульнай выбарнай сістэмы адбываецца падмена высокіх каштоўнасьцяў існаваньня фальшывымі і прымітыўнымі патрэбнасьцямі (выхад на паверхню жыцьця нізкіх сацыяльных і амаральных асоб), назіраецца карпаратыўнае зрошчваньне бізнэсу з палітыкай і пераасэнсаваньне палітычнай дзейнасьці, якая разглядаецца як прыватная ўласнасьць. Заўважаны паўсюдны рост карупцыі, цывілізацыйных супярэчнасьцяў і перакосаў у сацыяльных ацэнках людзей.

У выніку лева-лібэральнай заідэалагізацыі і арыентацыі на прымітыўныя і нізкія інтарэсы дэмакратычнае грамадзтва траціць адчуваньне здаровага сэнсу, губляе маральны, гуманітарны, а ўрэшце і праўны кантроль над самым сабой (над інстытутамі сям'і, выхаваньнем дзяцей, свабоды слова, сацыяльных дачыненьняў і г.д.).

Усё гэта, плюс прагматычная спэцыялізацыя і скіраванасьць навукі на разьвіцьцё тэхнічнага прагрэсу, звузіла яе гуманітарную сфэру і абнізіла ўзровень эліты грамадзтва, адчыніла магчымасьці для маргіналізацыі думаньня аднабока адукаваных людзей, да распаўсюджваньня псэўданавукі, якая зрошчваецца з афёрным бізнэсам, робіцца часткай масавай культуры і крайне адмоўна ўплывае на сьведамасьць, уяўленьні пра сьвет і жыцьцё сярэднестатыстычных пластоў насельніцтва.

Прыкладаў адсталых уяўленьняў жыхароў «інфармацыйнай цывілізацыі» (на самай справе «дэзінфармацыйнай») – безьліч. За апошні час найбольш уражвае афёра 2012 году, пушчаная ў сьвет журналістамі, пра канец сьвета ў 2012 годзе па календары гістарычнага народа майя. Маса сярэднестатычных людзей паверыла гэтаму глупству. На Захадзе сярод часткі насельніцтва быў псіхоз. Распрадавалі маёмасьць, уцякалі ў горы і т. п. Словам, – жывое сярэднявечча.

Навука звычайна ня ўмешваецца і не камэнтуе ўсялякую масавую міталягічную фантастыку, таблоідныя «прароцтвы» ды плёткі. Яно бяссэнсоўна. Маса не валодае здаровым сэнсам і навуковым

поглядам на сьвет (гэта не закладваецца ў сучаснай заходняй прагматычнай школе). Маса жыве ірацыянальнай міталягічнай сьвядомасьцю і ўяўленьнямі пра схаваныя (сакрэтныя) таямніцы ды гатовыя веды, пра якія раптам можна даведацца (пачуць), не трацячы высілкаў на працу і адукацыю.

Тым часам маргіналізм, псэўданавука і гуманітарная абмежаванасьць асобы далёка не бяскрыўдная зьява, але шкодная для грамадзтва, асабліва для такога грамадзтва, якое йдзе па шляху навукова-тэхнічнага прагрэсу. Урэшце можа стацца, што гэты прагрэс ня будзе каму рэалізоўваць і ажыцьцяўляць.

Крызіс адукацыі прыводзіць да таго, што шмат людзей ужо ня можа асэнсаваць і зразумець складаную і супярэчлівую карціну сучаснага сьвету (што і нараджае попыт на ўсялякія псэўдаведы і псэўданавуку). Адначасна з гэтым палітычныя эліты не прыстасаваліся і не выпрацавалі новых тэхналёгіяў прыняцьця рашэньняў і стварэньня ўлады. Старыя тэхналёгіі даюць збой, ператвараюць выбары ў фарс, у спэктакль, дзе траціцца сэнс выбараў як мэтаду фармаваньня ўлады. Іронія яшчэ ў тым (а можа і не іронія, а трагедыя), што гуманітарная навука (якую ня любяць бізнэс і ўлада) аргумэнтавана даказвае, што «прагрэс» (маецца на ўвазе грамадзтва, якое разьвіваецца шляхам пэрманэнтнага навукова-тэхнічнага прагрэсу) – гэта тупіковая галіна разьвіцьця. Але выхаду і іншага шляху пакуль што ніхто ня бачыць. Ёсьць шмат матэрыялістаў і нават адукаваных людзей, што сьвята вераць у прагрэс і абстрактнае разьвіцьцё чалавецтва па дарозе прагрэсу. І толькі рэальныя крызісы грамадзкай сістэмы вяртаюць накірунак думак у канкрэтную рэчаіснасьць, да чалавека як меры ўсяго, да нацыі як асновы дзяржавы, да культуры як сфэры сучаснасьці і меры будучыні. Вяртаюць, але ня кожнага, і доўгі час, як і раней, усё рухаецца па інэрцыі прывычных ведаў і ўяўленьняў.

## Веды і ідэалы

Палітычная сіла, якая імкнецца да ўлады ў дэмакратычнай краіне, дэкляруе, як правіла, базавыя каштоўнасьці, на якія яна абапіраецца, праграму разьвіцьця дзяржавы і грамадзтва.

У прынцыпе, у той ці іншай форме любая ўлада ў сьвеце праграмуе сваю будучую дзейнасьць. Бачаньне дасягальнай будучыні мае кожная дзяржава і кожны народ. Але ёсьць краіны (якіх ня шмат), дзе ўлада і разумныя сілы народа валодаюць цывілізацыйнай сьведамасьцю і здольныя глядзець у будучыню пакаленьняў, плянаваць наперад шлях народа на дзясяткі і нават сотні гадоў.

На практыцы такая дзяржава стварае канцэпцыю доўгатэрміновай зьнешняй і ўнутранай палітыкі, якая ў істоце сваёй (што важна) працягвае існаваць незалежна ад зьмены ўлады і кіруючай палітычнай сілы.

Гэта ёсьць асаблівая якасьць культуры грамадзтва і зьвязанай зь ёй народнай мэнтальнасьці. Бачаньне будучыні для народа (нацыі, дзяржавы) гэтак жа важная для існаваньня і разьвіцьця, як і веданьне гісторыі. Але бяз веданьня гісторыі немагчыма выбудаваць надзейную будучыню*.

*<u>***Дэгрэсія.***</u> У XX-м стагодзьдзі ўзьнікла незалежная Беларуская дзяржава. У працэсе ўздыму былі два этапы: 25 Сакавіка 1918 году (аб'яўленьне Незалежнасьці БНР) і 25 Жніўня 1991 году – стварэньне Незалежнай Рэспублікі Беларусь. Ідэалёгія беларускай Незалежнасьці грунтавалася на культуры і дзяржаўнасьці Вялікага Княства Літоўскага і (што істотна) на грунце новага этноніма і новай назвы – Беларусь. З гледзішча істоты гістарычнага працэсу, рэальна адбылося аднаўленьне дзяржаўнай незалежнасьці тэрыторыі і дзяржаватворнага народа Вялікага Княства Літоўскага пад назовам Беларусь. Зьмена назвы дзяржавы ў новых умовах – зьява звыклая, але, як правіла, узьнікаюць праблемы з самаідэнтыфікацыяй людзей. Для Беларусі рубікон пяройдзены яшчэ ў 1918 годзе. Існуе ўсьвядомленая беларуская нацыя з дакладнай беларускай самаідэнтыфікацыяй, але з слабой нацыянальнай сьведамасьцю (гэта значыць з слабым імкненьнем адстойваць і сьцьвярджаць агульныя нацыянальныя каштоўнасьці, найперш мову, прастору і культуру). Невысокая нацыянальная сьведамасьць не спрыяе кансалідацыі людзей. Беларусам з гэтай прычыны цяжэй супрацьстаяць выклікам часу, несправядлівасьці і несвабодзе.

Адна з галоўных прычын такой мэнтальнасьці – адлучанасьць (з прычыны акупацыяў) ад рэальнай гісторыі народа. Вельмі важна, каб гісторыя народа была адлюстравана ў Канстытуцыі краіны і ў назове дзяржавы, пры гэтым мусіць быць нацыянальная гістарычная асьвета і нацыянальная беларуская адукацыя.

Гледзечы ў глыбіню XXI-га стагодзьдзя, беларусам добра б было ўсьведамляць, што дзяржаватворная дзейнасьць вольнай беларускай нацыі аб’ектыўна вядзе да сьцьвярджэньня гістарызму народнага існаваньня, да адраджэньня памяці пра традыцыі Вялікага Княства Літоўскага, да росту беларускіх уплываў і культурніцкага пашырэньня нацыі, да гістарычнага ўдакладненьня назвы краіны, да інтэлектуальнага, культурнага і эканамічнага ўзвышэньня Беларусі.

Тут мусіла б быць пастаяннае беларускае бачаньне на некалькі пакаленьняў наперад. Справа йдзе пра эканамічную моц і прывабнасьць дзяржавы, пра культуру, пра пашырэньне яе ўплыву на забраныя беларускія землі і гарады. Беларуская гісторыя і народнае веданьне яе ёсьць дзяржаватворным чыньнікам беларускай нацыі. Перад гістарычнай нацыянальнай навукай яшчэ «ўчора» паўстала пытаньне аб стварэньні нацыянальнай канцэпцыі беларускай гісторыі. Гэта інтэлектуальны гістарычны дакумант, дзе мусіць быць сказана, хто мы, адкуль ёсьць і куды ідзем.

Важна, каб нацыя, як агульнасьць культурна блізкіх людзей, дасягнула такога ўзроўню сьведамасьці, калі будзе створаны вызначаны **вышэйшы нацыянальны кшталт каштоўнасьцяў,** які агульнапрыняты для кожнага і не зьмяняецца нікім ні пры якіх сацыяльных і палітычных абставінах. Пры любых зьменах улады моцныя часу таго мусяць шанаваць тыя каштоўнасьці.

Толькі пры такіх умовах і на такім узроўні сьведамасьці нацыя можа мець гістарычную пэрспэктыву і станоўчае разьвіцьцё.

Дзеля паляпшэньня жыцьця людзей, дзеля ўтрыманьня моцы і свабоды краіны ёсьць вызначаныя табу, якія нельга пераступаць, і ёсьць абазначаныя правілы і ідэалы, якіх трэба трымацца.

## Незалежная дзяржава, мова і свабода

Найвялікшай і першаснаснай нацыянальнай каштоўнасьцю ёсьць наша беларуская Дзяржава, нашая дзяржаўная Незалежнасьць.

Найвялікшай сутнаснай вартасьцю нашага нацыянальна-культурнага існаваньня ёсьць Беларуская мова.

Найвялікшай сацыяльнай вартасьцю беларускага грамадзтва ёсьць свабода асобы, забясьпечаная правам.

Якая б ні была ўлада, якая б ні была ідэалёгія ўлады, гэтыя каштоўнасьці нікім не павінны падвяргацца сумненьню. Яны непарушныя.

## Нацыя, людзі

Першаснай станоўчай усеагульнай каштоўнасьцю ёсьць наш народ, а гэта значыць мы самы, нашае жыцьцё і нашае існаваньне.

Нацыя складаецца зь людзей. Гэта значыць, што дзеля свабоды, самадастатковасьці і самаадказнасьці нацыі трэба забясьпечыць павагу, свабоду, права і справядлівасьць асобе чалавека.

Людзі могуць памыляцца, ёсьць добрыя і злыя, ёсьць тыя, што нялюбяць адзін аднаго. Але ніхто, ні ўгары ні на доле, не павінен пераносіць непрыхільнасьць да асобы ці да групы асобаў на ўсю нацыю. Народ можна толькі любіць нават тады, калі ён хворы, калі яго прынізілі і калі гонар яго растапталі ворагі. Народ трэба любіць нават тады, калі ён цябе ненавідзіць.

Такое разуменьне (тут суадносіны прыватнага і агульнага) мусіць стаць пастулатам кожнага беларускага палітыка, кожнага адраджэнца, кожнага беларуса, кожнага грамадзяніна, бо той, хто ня любіць народ, нічога добрага яму зрабіць ня можа.

## Тэрыторыя

Пастаяннай каштоўнасьцю для ўсіх зьяўляецца нацыянальная тэрыторыя – месца і дом, у якім існуе і жыве ўся нацыя, кожны чалавек. Гэтая каштоўнасьць мае сваю гісторыю, зьвязана з насельніцтвам (этнасам) і валодае жорсткай матар’яльнай асновай, абазначанай у дакладных арыфметычных мерах плошчы і геаграфічных каардынатах. Свой агульны дом трэба аберагаць усім, і пры пэўных геапалітычных абставінах першым чынам дбаць пра яго абарону, калі спатрэбіцца са зброяй у руках.

## Сям'я

Найвялікшай цывілізацыйнай каштоўнасьцю ў жыцьці народа ёсьць сям'я. Сям'я – гэта аснова грамадзтва, грунт дзяржавы, **у беларускай традыцыі зьяўляецца ўвасабленьнем шчасьця людзей.**

За часы Вялікага Княства Літоўскага наш народ стварыў моцныя цывілізацыйныя каштоўнасьці. Гэта найперш – соймава-княскую дзяржаву, высокае моцнае заканадаўства, дзейсную судовую сістэму, дасканалыя замкі і гарады, што кіраваліся Магдэбургскім правам, эфэктыўную гаспадарку, вольны народ – шляхту, унівэрсітэты, сістэму адукацыі і дасканалы ўзорны сацыяльны інстытут, які выклікаў асаблівую пашану і пахвальбу ў замежнікаў і суайчыньнікаў таго часу. Такім дасканалым на тую пару інстытутам была традыцыйная беларуская ці, як тады казалі, «ліцьвінская» сям'я. «Ліцьвінская сьм'я» была пабудавана на ўзаемнай любові ўсіх сямейнікаў, на партнёрскіх дачыненьнях сужэнцаў, на аўтарытэце мужа-бацькі і глыбокай павазе ўсіх да жонкі-маці, якая мела да таго ж вялікія эканамічныя правы, замацаваныя ў законах.

«Ліцьвінская сям'я» была асновай выхаваньня маральнай асобы і пашаны да культурных каштоўнасьцяў у грамадзтве. Яна была грунтам добрай улады ў дзяржаве і гуманітарных дачыненьняў людзей у Вялікім Княстве. Традыцыі добрай ліцьвінскай сям'і (нягледзячы на ўсе разломы і катастрофы гісторыі) пратрывалі часткова да сёньняшняга дня.

Сям'я ёсьць вялікай каштоўнасьцю нацыі і нацыянальнага грамадзтва, грунтам гуманнай асобы чалавека і асновай перадачы ведаў у засвойваньні культуры.

У кожным часе пры любых перэпетыях улады ў будучай вольнай Беларусі і ўлада краіны, і ўсё грамадзтва мусілі б асабліва дбаць аб існаваньні, разьвіцьці і захаваньні добрай сям'і. Трэба адносіцца да сям'і як да вышэйшай сацыяльнай каштоўнасьці, як да асяродзьдзя дабрабыту, выхаваньня, любові і чшасьця людзей.

## Жанчына

У беларускім грамадзтве (яшчэ з часоў Вялікага Княства і «ліцьвінскай сям'і») стварыўся мэнтальны культ жанчыны-маці, якая карысталася асаблівай пашанай. Аўтарытэт гаспадара-бацькі вынікаў з родавых і сацыяльных дачыненьняў. Тым часам культ маці меў сакральны характар. Жанчына-маці ў беларускай культуры была ня толькі маці, але і сымвалам дабра, і вобразам павагі. Культ пашаны да жанчыны захаваўся ў Беларусі ў агульных рысах да сёньняшняга дня.

Людзі даўно зразумелі, што сьвет (ягоны працяг) трымаецца на жанчыне. Ад прыроды жанчына валодае адметнымі якасьцямі: нараджэньнем людзей, мацярынскай любовяй (гэта значыць любовяй усёдаравальнай і бясконцай), і харавством (прыродны ідэал хараства ўвасоблены ў жанчыне).

Грамадзтва, якое можа разумна забясьпечыць рэалізацыю прыродных якасьцяў жанчыны, разьвіцьцё яе асобы ў соцыюме (сям'я, адукацыя, таленты, праца, заняткі і г. д.), – такое грамадзтва здольнае стварыць лепшую гармонію ў дачыненьнях людзей і больш якасныя стандарты жыцьця.

## Інтэлігенцыя

Культура грамадзтва моцная наяўнасьцю і колькасьцю адукаваных інтэлектуальных людзей. Інтэлектуалісты ў сучасным сьвеце ўсё больш становяцца чыньнікам рынку і падпарадкаваны яму. Інтэлектуалізм на Захадзе – гэта род заняткаў, разумовая праца.

Для нацыі, аднак, вельмі важна мець ня толькі інтэлектуалаў, але і нацыянальную інтэлігенцыю, гэта значыць частку інтэлектуалаў, **якія валодаюць адукацыяй, інтэлектам, ведамі і нясуць іх (ахвяруюцца імі) на карысьць народу.** Такое народніцкае вызначэньне інтэлігенцыі, зроблена Максімам Багдановічам. Вызначэньне актуальнае па сёньняшні дзень, асабліва ў пэрыяд змаганьня за незалежнасьць і станаўленьня нацыі.

Інтэлігенцыя ва Усходняй Эўропе ёсьць нацыятворным чыньнікам грамадзтва, і таму, натуральна, валодае адметным узроўнем маральнасьці і культуры. Тут гэта род заняткаў, разумовая праца і адначасна – **ідэалёгія культуры.** У нацыятворчым працэсе інтэлігенцыя выконвае ролю шляхты новага (не саслоўнага) часу.

У вольнай Беларусі ўлада і грамадзтва мусілі б асабліва дбаць аб адраджэньні і хуткім стварэньні высокай нацыянальнай інтэлігенцыі. Гэтаму павінна спрыяць палітыка дзяржавы у сістэме адукацыі

і працоўных дачыненьняў. Інтэлектуальная праца павінна высока аплочвацца, мець кляснасьць узроўняў, стымуляцыйныя аспэкты росту і разьвіцьця.

### Адукацыя

Адукаваны інтэлект (і асабліва творчы, навуковы інтэлект) становіцца ў сучасным сьвеце галоўным рэсурсам і галоўным сродкам вытворчасьці. Роля і вага яго ў XXI стагодзьдзі будзе павялічвацца. Беларуская дзяржава і любая беларуская ўлада будучыні павінна ўлічваць гэтую генэральную тэндэнцыю разьвіцьця цывілізацыі.

У дзяржаўным бюджэце прыярытэт адукацыі (маецца на ўвазе ўся лінейка ад школы да ўнівэрсітэту) мусіў бы быць пастаянным пры кожнай беларускай уладзе як мінімум на працягу ўсяго XXI стагодзьдзя. Сістэма адукацыі мусіла б прадугледжваць ня толькі якасьць ведаў, але і разьвіцьцё маральнага гуманістычнага ўзроўню асобы. Патрэбны новы сістэмны падыход дзеля адукацыі вольных беларусаў, пачынаючы са школы, бо зразумела, што чым больш навукаёмкая і тэхналягічна дасканалая вытворчасьць, тым вышэйшыя гуманістычна-маральныя якасьці патрабуюцца ад асобы.

### Гуманітарнае разьвіцьцё

Кожны ўрад вольнай Беларусі мусіў бы дбаць, каб беларус пры лепшым заможным жыцьці не ператвараўся б у функцыю і прыдатак рынку працы і спажываньня. Павінны існаваць вольныя прафсаюзы і гарманічнае заканадаўства аб працы.

Неабходна, каб працоўнаму чалавеку **гарантавана быў забясьпечаны вольны час.** Праца не павінна ператварацца ў неабмежаванае выпампоўваньне рабочай сілы шляхам неабмежаванай пагадзіннай аплаты.

Вольны час чалавеку неабходны для духоўнага і мэнтальнага разьвіцьця асобы. Мусіць быць створаны балянс выкарыстаньня часу, зацьверджаны заканадаўствам.

Любая беларуская ўлада мусіць ствараць вольныя і сацыяльна прыймальныя ўмовы дзеля творчых людзей, спрыяць вольнаму разьвіцьцю беларускай літаратуры, тэатра, выяўленчага і ўжытковага мастацтва, музыкі і кіно.

### Алькаголь

На захопленых пад Расею землях Беларусі п’янства было расейскай дзяржаўнай палітыкай і насаджалася царскім урадам маштабнымі эканамічнымі і адміністрацыйнымі мэтадамі (у асобных выпадках нават прымусам). Адмоўныя вынікі такой палітыкі праявіліся ў паводзінах беларусаў у канцы XIX – пачатку XX стагодзьдзяў.

Катастрафічны маштаб набыло п’янства пад савецкай акупацыяй. Злавесныя формы (злавесныя, бо алькаголь пачалі ўжываць жанчыны) выявіліся цяпер за часы нелегітымнага рэжыму антыбеларускай улады.

Кожны беларускі ўрад вольнай Беларусі мусіў бы валодаць праграмай ліквідацыі алькагалізацыі насельніцтва, разумеючы, што гэта працяглы, пасьлядоўны і абявязковы працэс, які можа мерацца пэрыядам у цэлае пакаленьне.

### Памяць

Ва ўсе часы існаваньня нацыі і дзяржавы ўлада і грамадзтва мусяць забясьпечваць захаваньне і аднаўленьне беларускай нацыянальнай памяці. Гэта ўнівэрсальная ўмова паўнавартаснага культурнага існаваньня.

У Беларусі, улічваючы спэцыяльнае і мэтадычнае разбурэньне культурных каштоўнасьцяў акупантамі, павінен быць выпрацаваны асаблівы падыход у аднаўленьні зьнішчаных дазваньня і ўжо матар’яльна неіснуючых аб’ектаў культуры. (Тыпу аднаўленьня згладжаных бомбамі гарадоў пасьля 2-й Сусьветнай вайны – старой Варшавы, Гданьска, Дрэздэна г.д. – калі было адноўлена тое, што клясычнай рэстаўрацыі не падлягала, але разбураныя вобразы архітэктуры былі вернутыя да жыцьця.)

Культурна-гістарычны працэс мусіць быць непарыўны і адлюстраваны ў гісторыі народа.

## Геапалітыка

Гістарычна і геаграфічна Беларусь знаходзіцца ў цэнтры агрэсіўных геапалітычных інтарэсаў. Усе ўрады вольнай Беларусі павінны будуць улічваць такое становішча, вызначаць пазыцыю і палітыку.

Клясычны нэўтралітэт краіны тут нерэальны, бо не гарантаваны і ў сапраўднасьці (калі такое дапусьціць) быў бы шкодны для сувэрэнітэту дзяржавы, аслабіўшы яе абароназдольнасьць.

Тым часам павінна быць палітыка імкненьня да сувэрэнітэту, тактыка стрыманасьці, недалучэньня і неўмяшаньня. Такая тактыка добрая, але **мае сэнс толькі тады, калі ёсьць апора на сілу.** Тут могуць быць розныя накірункі.

**Першая задача – гэта ўмацаваньне абароназдольнасьці краіны.** У Беларусі павінна быць моцнае, добра ўзброенае, абучанае патрыятычнае войска, дасканалая сістэма тэрытарыяльнай абароны і забясьпечаныя рэзэрвы.

Другая задача – ўрад і ўлада Беларусі мусілі б прыкласьці максімум ініцыятывы, энэргіі і працы дзеля стварэньня **Балтыйска-Чарнаморскай Супольнасьці** Беларусі, Украіны, Латвіі і Летувы (гэта першасны рэальны фармат, які потым можа павялічвацца). Адначасна мусяць быць прыязныя дачыненьні з ЗША.

Трэці аспэкт. Палітыкам і кіраўнікам вольнай Беларусі прыдзецца разумець, што ў тых умовах (якія характарызуюцца існаваньнем побач агрэсіўнай Расеі) Беларусь не павінна будзе заставацца слабым аб’ектам чужых геапалітычных планаў і чужой выробленай палітыкі. **Моцныя спэцслужбы і дасканалая прафэсійная выведка і контрвыведка** – гэта не раскоша для Беларусі, але неабходнасьць, якую трэба зрабіць (асабліва ўлічваючы цяперашняе павелічэньне ролі спэцслужбаў ва ўсіх відах вайны) . Калі такога не рабіць, то краіна будзе спляжана расейскімі спэцслужбамі, як гэта здарылася ў 90-х гадах мінулага стагодзьдзя, і ўсё паўторыцца з чарговым сатрапам.

Выхаваньне грамадзтва праз школу і асьвету мусіла б ісьці па шляху пераадоленьня псыхалёгіі самапрымяншэньня, самапрыніжэньня ды нявер’я ў свае сілы, накінутае ворагамі Беларусі. Вольная і магутная Беларусь – гэта сур’ёзная і рэальная задача.

## Сымвалы

Дбаючы пра справядлівасьць, дэмакратыю і патрыятызм, у грамадзтве мусілі б быць выхаваныя сакральныя адносіны да дзяржаўных сымвалаў краіны – гэрбу Пагоня і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга. Гэта мае першаснае значэньне ў сьведамасьці дзеля ўспрыняцьця вобразу краіны і сьведчаньня пра яе існаваньне.

## Вектар разьвіцьця народа і чалавецтва

У XXI стагодзьдзі будзе павялічвыцца інтэрас да экалягічнай будучыні і планетарнай пэрспэктывы чалавецтва. Гэтая тэма ўжо даволі распаўсюджана ў грамадзтве (праўда, пакуль што ў маргінальным сэктары). Узрастаньне трывожнай цікавасьці да прышласьці цывілізацыйнага разьвіцьця зьвязана перш за ўсё з актыўным разбурэньнем прыроды чалавекам і з нэгатыўнымі зьявамі ўпадку маралі і культуры ў самой цывілізацыі прагрэсу, якая дамінуе цяпер на Зямлі.

Вакол занепакоенасьці будучыняй цывілізацыі і плянэты накапілася мноства антынавуковых, маргінальных, фантастычных, ілжывых, шарлатанскіх і адкрыта неадэкватных меркаваньняў. Тэма гэтая крайне няўдзячная, але праўда ў тым, што неўзабаве (і, магчыма, вельмі хутка) яна стане адной з важных праблемаў чалавецтва, якая закране існаваньне і інтарэсы шмат якіх краінаў і народаў. Беларусь не абміне гэтых праблем.

Людзі пачынаюць адчуваюць тупіковасьць экалягічнага разьвіцьця ў сучасным тэхнагенным сьвеце і шукаюць выйсьця. Разважаньні адцягненыя і агульныя. Без канкрэтызацыі назаву толькі некаторыя аспэкты ў гэтай тэме.

Візію далёкай будучыні чалавецтва, асэнсаванай у ідэалёгіі, гістарычна ажыцьцяўлялі тры сістэмныя падыходы думаньня і тры арганізаваныя сілы грамадзтва (чалавецтва) – гэта Хрысьціянства, нямецкі нацыянал-сацыялізм і расейскі камунізм-бальшавізм.

І нацызм, і камунізм у ідэёва-эсхаталягічным плане ўяўлялі сабой сурагат цёмнай сацыяльнай рэлігіі, замешанай на антыхрысьціянстве. Фактычна, у 20-м стагодзьдзі адбыўся зьнішчальны паход супраць хрысьціянскай эсхаталягічнай візіі чалавецтва. Гэтая гісторыя дае прастору для духоўных разважаньняў, якія могуць удасканаліць веды, але яны ўжо не ўплываюць на рэальнае грамадзкае жыцьцё.

Сучасная дэмакратычная (рынкава-спажывецкая) цывілізацыя будуе сваё бачаньне пэрспэктывы чалавецтва на двух падыходах, якія вынікаюць з прагрэсу: на цывілізацыйнай і экалягічнай катастрофе і на выхадзе чалавецтва ў космас, на перасяленьні яго на другія плянэты.

Першы падыход цалкам рэалістычны, бо ў гісторыі Зямлі і чалавецтва ўжо былі і цывілізацыйныя, і экалягічныя катастрофы, якія прыводзілі да кардынальных зьменаў у прыродзе і ў грамадзтве. Але гэта ніякі ня вынік разьвіцьця, а толькі прадбачаньне краху цывілізацыі ў выніку бесталковага існаваньня. Улічыць трэба палітычныя падзелы ў сьвеце, агрэсіўнасьць асобных краінаў і наяўнасьць зброі плянэтарнага зьнішчэньня. Гэты падыход, аднак, пэссымістычны, тупіковы. Тут няма выхаду.

Другі падыход і намеры касьмічнага перасяленьня людзей на іншыя планеты, практычна, роўны нулю і ў рэальнасьці немагчымы. І зьвязана гэта не з неабходнасьцю авалоданьня новай магутнай і лёгка здабываемай энэргіяй, не з вырашэньнем праблемы кіраваньня гравітацыяй, магнітным полем, атмасфэрным ціскам, здабыцьцём кіслароду, вады, глебы і г. д., а з магчымасьцю кіраваньня прасторай і часам, бо час зямны (час зямной цывілізацыі) і час касьмічны – несумяшчальныя па маштабу і па існаваньні ў прасторы.

Гэтая розьніца вырастае з павелічэньнем хуткасьці (якая для фізычнага цела ня можа быць большай за хуткасьць сьвятла). Нават калі б дзе-небудзь і былі б у космасе адначасна дзьве падобныя планеты Зямля, насельнікі іх рэальна ніколі не маглі б сустрэцца ў фізічным плане, бо працягласьць арганічнага жыцьця планеты (не кажу ўжо пра разумную цывілізацыю і пра працягласьць жыцьця чалавека) у параўнаньні з прасторай і часам космасу – гэта адно імгненьне. Верагоднасьць зьяўленьня яшчэ адной разумнай цывілізацыі, тым больш дзьвюх і ў аднам зямным часе (які фізічна непераадольны) настолькі малая, што цікава толькі для матэматычных аблічэньняў. Будаваць жа меркаваньні на верагоднасьці, напрыклад, у мінус 725-й ступені няма сэнсу, бо яе ня будзе.

Чалавек у фізічным плане і ў фізічным сьвеце у прынцыпе ня можа даляцець да іншых галактык і нават асвоіць тую, дзе ён знаходзіцца. У навуцы гэта вядома (пра тое пісаў, напрыклад, яшчэ 70-х гг. мінулага стагодзьдзя савецкі астраном акадэмік Т. А. Агекян).

Разважаньні аб расьсяленьні чалавецтва ў вялікім Космасе – гэта чыстая фантастыка, якая выказваецца тымі навукоўцамі (а яшчэ больш ненавукоўцамі), што ўнівэрсальна ўспрымаюць тэорыю эвалюцыйнага разьвіцьця. Але калі высновы гэтай тэорыі ў пэўнай ступені стасуюцца для ацэнкі жыцьця на Зямлі, то ў Космасе яны ня дзейнічаюць. Існаваньне і эвалюцыя біялягічнага жыцьця – гэта фізічна абмежаваная дыскрэтныая зьява. Фізічны разумны чалавек ня можа эвалюцыянаваць у фізічным Космасе і засяляць галактыкі. Фізічная эвалюцыя розуму на Зямлі – гэта не трансцэндэнтны касьмічны бясконцы працэс, а канцовы працэс, які мае свой фізічны пачатак і канец разьвіцьця – імгненьне ў касьмічным вымярэньні.

Парадыгма Прагрэсу, аднак, будзе, хутчэй за ўсё, вызначаць касьмічную накіраванасьць ідэёвага разьвіцьця. Бо гэта зьява, зьвязаная з працэсам пазнаньня і з тэарытычнай (а ў пэрспэктыве практычнай) магчымасьцю навуковай каланізацыі Сонечнай сістэмы як аб’екту вывучэньня (па тыпу навуковай каланізацыі Антарктыды). Працэс пазнаньня ня можа спыніцца і нават, калі гэта тупіковы шлях, – ён мусіць прывесьці да ісьціны (якая якраз можа стаць усьведамленьнем тупіковасьці).

Нават простыя лягічныя аблічэньні, заснаваныя на пэрспэктывах навукі і магчымасьцях цывілізацыі, паказваюць, што цывілізацыйна зямное чалавецтва ня можа існаваць нідзе ў Сонечнай сістэме акрамя Зямлі. У сто разоў бальш рэальна выглядала б нават прапанова пабудаваць існаваньне людзей пад Зямлёй, альбо пад ільдамі Антарктыды, чым прафанска-журналісцкія фантазіі аб перасяленьні на Марс – паміраючую плянэту без магнітнага поля, кіслароду, вады, зь мінімальнай атмасфэрай.*

******_Дэгрэсія:_** Тым часам агрэсіўнасьць псэўданавукі і шарлатанаў агаломшвае ўжо цяпер. Зьяўляюцца нейкія «энтузіясты», што вярбуюць ахвотнікаў перасяленьня на Марс, камікадзэ на палёт у адзін канец, адчыняюць фэйкавыя сайты, зьбіраюць грошы з неадукаваных прастакоў. Зьдзіўляе, што гэта не трапляе яшчэ ў сфэру ўвагі крымінальных кодэксаў міжнароднай супольнасьці.

Сэнс вечнага існаваньня чалавецтва, пераадоленьне фізічнай прасторы і часу, магчыма (верагодна) ня ў зьнешнім, а **ва ўнутраным вектары разьвіцьця.** Калі дапусьціць існаваньне побач з фізічным іншага вымярэньня і іншага нябачнага сьвету, то перайсьці з фізічнага сьвету ў іншае вымярэньне і іншы сьвет тэарэтычна магчыма толькі пазбавіўшыся ад фізічнага цела (гэта значыць, праз сьмерць), калі лічыць пры гэтым, што паралельна з фізічным целам чалавек мае іншую духоўную сутнасьць (гэта значыць душу), якая можа існаваць у іншым вымярэньні, прасторы і часе.

Калі гэта дапусьціць, тады трэба адчыніць хрысьціянскае Эвангельле і чытаць далей. Там усё напісана. Тады стане зразумела, што дзеля жыцьця ў вечным Космасе мала валодаць ведамі і быць адукаваным, трэба быць маральна абавязаным, жыць па сумленьню, па справядлівасьці і любові. Калі параўнаць лапідарна, то гэта – як працаваць на атамнай электрастанцыі: мала ведаць, трэба выконваць і быць адказным. Калі п’янь і безадказнасьць – тады Чарнобыльская катастрофа.

З высокім разьвіцьцём навукова-тэхнічнага прагрэсу (на чым стаіць цяперашняя цывілізацыя) і з выхадам на касьмічныя тэхналёгіі шматкроць узрастаюць патрабаваньні ня толькі да інтэлектуальных, але найперш да маральных якасьцяў чалавека. У Хрысьціянстве гэты тэзіс ёсьць галоўным. Аналягічны падыход (хоць і не галоўны, галоўнай была ўлада) назіраўся і ў «сатанінскіх» нэацывілізацыйных ідэалягічных рэжымах. У гітлерцаў рабілася ніцшэанская стаўка на новую асобу «звышчалавека» (нямецкі «Лебэнсборн» пачынаў ужо нават генетычную сэлекцыю людзей дзеля вырошчваньня «звышчалавека»). Яшчэ большую увагу надавалі стварэньню новай камуністычнай асобы камуністы ў СССР. Без стварэньня новага камуністычнага чалавека камунізм немагчымы, лічылі яго ідэолагі (Хрушчоў нават «маральны кодэкс будаўніка камунізму» прыдумаў, а Брэжнеў – «савецкі народ»).

Калі зірнуць з гледзішча фармаваньня маральнай асобы на цяперашняе грамадзтва дэмакратыі і прагрэсу (якое апынулася ў палоне левага лібералізму), то мусім канстатаваць тут поўную адсутнасьць агульных маральных ідэалаў (і ідэалаў увогуле як сутнасьці). Усё заменена «каштоўнасьцямі», зь якіх галоўнымі ёсьць свабода і індывідуалізм («правы чалавека»). Стварылася база для разгортваньня маральнай энтрапіі (меры непарадку) і спрыяльныя магчымасьці для самасьцьвярджэньня нізкіх маральных якасьцяў і нізкіх людзей.

Перад чаканьнем новых віткоў тэхнічнага прагрэсу і разважаньнямі пра касьмічны шлях паўстае важнае пытаньне для эсхаталёгіі і разуменьне таго, што абазначаюць для чалавека і чалавецтва высокая маральнасьць асобы, добрасьць, адказнасьць, любоў і справядлівасьць. Толькі валодаючы гэтымі якасьцямі чалавек (грамадзтва добрых людзей) можа станоўча ўладарыць над стыхіямі (і, дарэчы, кіраваць прагрэсам, які не прывядзе да катастрофы).

І вось тут, у абгрунтаваньне гэтай нетыповай тэмы нашага Заключэньня, трэба адзначыць, што маючы наперадзе XXI стагодзьдзе і вольную Беларусь, ставячы на адукацыю і інтэлектуальнае разьвіцьцё асобы як на цывілізацыйную неабходнасьць у сучасным і будучым сьвеце, беларусам варта было б не забывацца, што галоўны вектар разьвіцьця чалавецтва ўсё ж такі ёсьць вектар унутраны, які вядзе ў душу чалавека, у яго ўнутраны сьвет, дзеля выхаваньня дабра, любові, маральнасьці і справядлівасьці. Высокатэхналягічнае грамадзтва ня зможа пасьпяхова разьвівацца бяз гэтых якасьцяў асобы. Гэта выразна відаць ужо ў цяперашнім сьвеце. Хто раней тое зразумее, і хто зможа перабудавацца, той выйграе. Хоць шлях да дасканалай асобы нялёгкі.

Чалавецтва жыве сучаснасьцю, але будучыня заўсёды будзе.

*(Канец тэксту)*

Зянон Пазьняк, Павел Усаў, Сяргей Папкоў
Юры Беленькі, Павел Мірановіч, Лявон Баршчэўскі
Юры Цехановіч, Мікалай Крыжаноўскі

# НАРОДНАЯ ПРАГРАМА “ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ”

*Грамадзка-палітычнае выданьне*

*Надрукавана коштам выдаўцы*

Зянон Пазьняк, Павел Усаў, Сяргей Папкоў, Юры Беленькі,
Павел Мірановіч, Лявон Баршчэўскі, Юры Цехановіч, Мікалай Крыжаноўскі.
**Народная Праграма «Вольная Беларусь»,** – Нью-Ёрк, Варшава, Менск –
«Беларускія Ведамасьці», 2017 г. 72 с. Фармат А4, наклад 300 ас.
Гэта праект новай Беларусі. Распрацаваны ў 2017 г. салідарным калектывам палітыкаў і спэцыялістаў дзеля вольнай прышласьці краіны, для выкарыстаньня будучым Тымчасовым ці Пераходным Урадам дзяржавы альбо іншым палітычным утварэньнем, якое пасьля ліквідацыі антынароднага рэжыму возьме на сябе адказнасьць за лёс і будучыню Рэспублікі Беларусь.
ISBN 978-83-935476-7-8

Выданьне – «Беларускія Ведамасьці».
Кампутарны склад па макету – *Робэрт Стаховіч*
Вокладка, укладаньне – *Зянон Пазьняк*
Вычытка тэксту – *Лявон Баршчэўскі*
Кампутарны набор – *Галіна Палачаніна*
Друк – QLCO
Папера афсэтная А4 – (500x707 mm)
Ум. друк. Арк. – 6
Ул. друк. арк. – 9
Наклад 300 ас.
Аб’ём: 72 с.
Выдрукавана: красавік 2017 г.

ISBN 978-83-935476-7-8

